


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

19 ЛІПЕНЯ 2002г. № 28/4162 КОШТ 310 РУБ.


## ТУПІК СТВОРАНЫ! ДЗЕ ВЫЙСЦЕ?..

***Віктар ПРАЎДЗІН:* “Сёння мае калегі па пяры і тыя, хто вольна ці нявольна ўцягнуты ў спрэчку вакол пісьменніцкай арганізацыі, не ведаюць усёй праўды пра тое, што праблема створана штучна. Яе стварылі тыя, хто сёння больш за ўсіх выступае ў друку, кідае камені ва ўладу, наўмысна забываючыся, што кінутыя камені давядзецца збіраць”.**



## “Я ЗА НАДЗЕЮ ГРОШЫ НЕ ПЛАЧУ...”

***Артыкул Алы СЯМЁНАВАЙ пра варункі, ў якіх сёння жывуць, працуюць і друкуюцца нашы пісьменнікі***



## СЯБЕ ШУКАЮ Ў ПЕРАЖЫТЫМ

***Вершы розных гадоў Леаніда ЯЎМЕНАВА***



## ВЯЛІКАЯ КІТАЙСКАЯ СЦЯНА

***У першыню ў “ЛіМе— апавяданне Алены Брава***



## ПАРАД ПЛАНЕТ

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ— пра фестываль “Музы Нясвіжа”***



**БУДЗЬМА РАЗАМ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 2002 ГОДА!**

*Шаноўныя чытачы!*
*Падпіска на “ЛіМ” працягваецца.*
*Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1 950 рублёў, на тры — 5 850 рублёў.*
**Індывідуальны індэкс — 63856.**
*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 3 500 рублёў, на тры — 10 500 рублёў.*
**Ведамасны індэкс — 63857.**

*На беразе лета*

*Фота А. Гаўрона*



# КОЛА ДЗЁН

***На гэтым тыдні, як ніколі, было спякотна. Пачалося жніво. Наступны тыдзень цалкам пройдзе пад знакам "Славянскага базару ў Віцебску", які, як сказаў віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь Уладзімір Дражын "адбудзецца пры любым надвор'і". А надвор'е павінна быць добрым...***

## ВЫБАР ТЫДНЯ

12 ліпеня кіраўнік Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Франц Вітко на пасяджэнні Прэзідыума Федэрацыі зрабіў заяву аб сваёй адстаўцы. Напярэдадні ў шэрагу абласных аб'яднанняў прафсаюзаў — Брэсцкім, Гомельскім, Віцебскім, Мінскім гарадскім і абласным прайшлі пленумы, на якіх быў выказаны недавер цяперашняму кіраўніцтву ФПБ і прапанавана вылучыць на гэту пасаду кандыдатуру Леаніда Козіка — намесніка Адміністрацыі Прэзідэнта. 16 ліпеня прайшоў пленум Федэрацыі прафсаюзаў, на якім старшынёй арганізацыі выбраны Леанід Козік. З 230 удзельнікаў пасяджэння за яго прагаласавала абсалютная большасць ("супраць" выказалася толькі 10 чалавек, 8 — "устрымаліся"). 18—19 верасня на пазачарговым з'ездзе павінны адбыцца выбары новага складу прэзідыума ФПБ.

## КУРС ТЫДНЯ

Курс адзінай еўрапейскай валюты еўра выраўняўся з курсам долара. І гэта, як лічаць некаторыя аналітыкі, яшчэ не ўсё — курс еўра будзе і вышэйшым.

## ПАДРЫХТОЎКА ТЫДНЯ

Яшчэ да выбараў у мясцовыя Саветы ёсць восем месяцаў, але ўжо сёння пра іх пачалі думаць і рыхтавацца да іх будучыя прэтэндэнты ў дэпутаты. Найбольш верагодны дзень правядзення выбараў у мясцовыя Саветы — 2 сакавіка, хаця дакладную дату яшчэ павінен афіцыйна прызначыць прэзідэнт. На сённяшні дзень у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях ужо вызначана колькасць акругоў і выбаршчыкаў, да канца лета гэтую работу правядуць іншыя вобласці і Мінск. Падчас выбарчай кампаніі наступнага года плануецца выбраць каля 25 тысяч дэпутатаў.

## РАСПАРАДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Мэр нашай сталіцы Міхаіл Паўлаў падпісаў распараджэнне правесці свята горада "Мінск—2002" 14 і 15 верасня. Упершыню ў гэтым годзе гэта мерапрыемства не супадае з Днём незалежнасці.

## ПАДЛІК ТЫДНЯ

Да 15 мая падаткаплацельшчыкі павінны былі цалкам разлічыцца па падатках у бюджэт. Хто разлічыўся, як гаворыцца, той можа спаць спакойна. Дэкларацыю ж аб сукупным гадавым даходзе падалі 275,712 чалавек, што складае 2,6 працэнта ад агульнай колькасці насельніцтва нашай краіны. Летась дэкларацыю падалі 255 555 чалавек, а гэта на 20 тысяч меней, чым у гэтым годзе. У выніку пераразліку падаходнага падатку, улічваючы сукупны гадавы даход, 99 219 грамадзянам краіны быў прад'яўлены дадатковы падатак да аплаты ў памеры 3 мільярдаў 981 мільёна 17,5 тысячы рублёў. 9773 чалавек атрымаюць частку сваіх грошай назад, а гэта 158 мільёнаў 907,6 тысячы рублёў.

## ВЫПЛАТЫ ТЫДНЯ

З нямецкага фонду "Памяць, адказнасць і будучыня" паступілі ў "Беларусбанк" грошы для выплаты кампенсацый чарговым 10 тысячам былых вязняў фашызму. Агульная колькасць тых, хто атрымае першую частку выплат, перавысіць 80 тысяч чалавек. Усяго за год фондам выплачана больш чым 116 мільёнаў еўра.

## ПЕРСПЕКТЫВЫ ТЫДНЯ

На сённяшні дзень метрапалітэн для жыхароў нашай сталіцы — адзін з любімых транспартных сродкаў. Летам тут прахалода, зімой — цёпла, а да ўсяго на метро хутка і амаль без таўхатні можна дабрацца ў многія месцы горада. Якім жа будзе метро ў бліжэйшым будучым? Сёлета пачалося будаўніцтва ўчастка падаўжэння першай лініі метрапалітэна — ад станцыі "Усход" да мікраараёна Уручча. Гэты ўчастак мае працягласць у 2,5 кіламетры і будзе мець дзве станцыі "Барысаўскі тракт" і "Уручча". Гэты ўчастак плануецца ўвесці ў эксплуатацыю на працягу шасці гадоў. Да 2005 года ў строй павінен быць уведзены пяты ўчастак другой лініі метро — ад станцыі "Пушкінская" да станцыі "Каменная горка". Яго працягласць складзе 3,94 кіламетры. Тут будуць тры станцыі: "Ракаўская", "Кунцаўшчына" і "Каменная горка". Такія вось перспектывы ў мінскага метро на бліжэйшыя гады...

## РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Сталічныя ўлады прынялі рашэнне аб зносе 12 жылых дамоў, якія размешчаны ў 4-м Сляпянскім завулку. На іх месцы будзе збудаваны новы будынак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі плошчай 85 тысяч квадратных метраў. Пад кнігасховішча будуць аддадзены 22 паверхі. Дарэчы, да новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі лёгка дабрацца на метро — ехаць трэба будзе да станцыі "Усход".

## ГРОШЫ ТЫДНЯ

За дзевяць месяцаў, якія прайшлі з пачатку рэалізацыі Нацыянальным банкам залатых мерных зліткаў, юрыдычныя і фізічныя асобы выкупілі іх больш як 3700 штук агульнай вагой каля 90 кіламетраў. Асаблівай папулярнасцю карыстаюцца злiткі ў 1 і 5 грамаў. Самыя буйныя кілаграмовыя злiткі ў гэтым годзе купілі тры пакупнікі. Словам, ёсць і ў Беларусі багатыя людзі...

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

**У нашай краіне на сённяшні дзень пражывае 805 чалавек, якім больш за 100 гадоў. З іх 179 — жыхары Мінскай вобласці, 163 — Гродзенскай. Акрамя ўсяго ў Беларусі жыве 107 тысяч чалавек, якія адзначылі свае 80-годдзі, 85-годдзе святкавалі — 56 тысяч, 90-годдзе — 21 тысяча. Узрост ад 95 да 99 гадоў маюць 487 грамадзян нашай краіны.**

НАДЗЁННАЕ

# Заява

10 ліпеня 2002 года адбылося пасяджэнне рэвізійнай камісіі Саюза беларускіх пісьменнікаў, якая з'яўляецца гарантам выканання ўсімі сябрамі саюза, у тым ліку кіраўніцтва творчай арганізацыі, іх статутных абавязкаў.

Аднадушна было адзначана, што ў апошні час Саюз беларускіх пісьменнікаў існуе фармальна, як творчая арганізацыя, бо застаўся без фінансавай падтрымкі. У сувязі з адсутнасцю выканаўцаў не атрыманы сродкі на пададзеныя праекты. Імітацыяй жыццядзейнасці арганізацыі займаецца аднаўладна старшыня СБП В. Іпатава, якой неаднаразова парушаліся палажэнні статута.

Рэвізійная камісія лічыць, што наспела неабходнасць склікання чарговага пасяджэння рады СБП, на якім будуць разгледжаны пытанні аб жыццяздольнасці творчага саюза, а тасама аб мэтазгоднасці падрыхтоўкі з'езда нашай творчай арганізацыі.

Рада СБП адбудзецца 24 ліпеня 2002 года а 16 гадзіне ў Доме літаратара па вуліцы Фрунзе, 5.

З мэтай прасвятлення сітуацыі, якая скалалася ў СБП, прапаную надрукаваць у "ЛіМе" артыкул першага намесніка старшыні СБП Віктара Праўдзіна "Тупік створаны! Дзе выйсце?"

**Старшыня рэвізійнай камісіі**
**Ганад ЧАРКАЗЯН**

# Тупік створаны! Дзе выйсце?..

Сёння мае калегі па пяру і тыя, хто вольна ці нявольна ўцягнуты ў спрэчку вакол пісьменніцкай арганізацыі, не ведаюць усёй праўды пра тое, што праблема створана штучна. І стварылі яе тыя, хто сёння больш за ўсіх выступае ў друку, кідае камені ва ўладу, наўмысна забываючыся, што кінутае каменне давядзецца збіраць. А мо наўмысна спадзяюцца, што збіраць будуць іншыя.

Цяпер пра набалелае. Фактам застаецца тое, што Дом літаратара і будынак былой паліклінікі па вуліцы Румянцава, 4 сёння не належаць пісьменніцкай арганізацыі. Фактам застаецца і тое, што Міністэрства фінансаў не разлічыла аппарат СБП ні па зарплаце за 2001 год (з ліпеня месяца), ні па іншых запазычанасцях. Гэта беззаконне, бо фінансаванне СБП было запланавана бюджэтам. Застаецца спытацца ў міністра Корбута: "Куды пайшлі пісьменніцкія грошы?" Але, напэўна, гэтае пытанне ўжо не да Корбута, а да пракуратуры і іншых кантралюючых органаў.

Мы ўсе памятаем, як клялася Вольга Іпатава, што ніколі не вылучыць сваёй кандыдатуры на пасаду старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў. Мы слухалі гэта па радыё, чыталі інтэрв'ю ў газетах, а яна ў гэты самы час, седзячы ў кабінеце У.П. Замяталіна, давала згоду на ўзначаленне СБП. Ішоў звычайны "торг". Ёй і сапраўды паабяцалі вярнуць Дом літаратара, праўда, у арэнду на 99 гадоў. Пра тое, што спыніцца фінансаванне, тады яна нават і не ўяўляла. У. П. Замяталіна і іншых чыноўнікаў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў можна зразумець. Яны павінны былі заручыцца ад новага старшыні (Іпатавай) нейтральнай пазіцыяй. Зрэшты, У. П. Замяталін аказаўся "на ўзроўні", бо, каб утрымаўся у крэсле, то сваё абяцанне выканаў бы. Але ён паверыў Іпатавай і, магчыма, гэта адна з прычын, што крэсла тое з-пад яго выхапілі. Бо Вольга Міхайлаўна перастрахавалася — так, чыста па-жаночы, на ўсялякі выпадак, уступіла ў ПЭН-клуб, і, канечне, У. П. Замяталін гэтага на час "торгу" не ведаў. Разважала ж Іпатава, на маю думку, звычайна: "Выберуць старшынёй СБП — добра, не выберуць — застануся ў ПЭН-клубе, бо і пра сябе падумаць трэба, некаторыя гадамі жывуць за мяжой, а чым я горшая?" Дарэчы, менавіта іпатаўскае "думай толькі пра сябе" сёння і зацягнула пісьменніцкую арганізацыю ў тупік. А кіраўніцтву ПЭН-клуба гэта толькі на руку: усё ж іх член будзе кіраваць СПБ, і заўсёды можна "канфліктнуць" з уладай.

Было над чым падумаць Вользе Іпатавай і нават разгубіцца: і адны абяцаюць, і другія, каб жа ж не прагадаць.

**Адно: хітрыць з уладай, усё ж што-нішто даюць. (Выдаюць кнігі, вось і ганаровы знак ад Міністэрства культура напраканцы 2001 года атрымала, а потым — паездкі за мяжу за дзяржаўны кошт і г.д.)**

**Другое: калі-нікалі сустракацца з апазіцыянерамі, удзельнічаць у рабоце ПЭН-клуба, не прэтэндуючы на кіраўніцтва, браць удзел у імпрэзах і г.д.**

**Трэцяе, на маю думку, самае галоўнае: стварыць такую сітуацыю, каб пакінуць нашу гаротную Беларусь, ды так, каб пра Іпатаву загаварыла ўся Еўропа. Так хочацца сусветнай славы! Але ж, зразумела, дзеля гэтага патрэбен канфлікт з уладай.**

У свой час кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта распарадзіўся вылучыць СБП "Рафік", даручыў вывучыць пытанне аб перадачы "Дома літаратара" і вырашыць на карысць СБП, а Іпатава ў Адміністрацыю проста не пайшла. У нашай Вольгі Міхайлаўны быў адпачынак, потым замежныя камандзіроўкі, прэзентацыі кніг і шмат усялякіх больш важных спраў, чым вяртанне Дома літаратара, за які мы ўсе цяпер змагаемся. Аддавала ўлада — дык браць не захацела! А не захацела таму, што яе сам Прэзідэнт асабіста не папрасіў аб гэтым!

Цяпер што тычыцца зарплаты апарата. Пасля другой нявыплаты грошай Праўдзін і Гальпяровіч знайшлі Іпатаву ў вёсцы на Глыбоччыне. Сувязь тэлефонная і толькі аднабаковая: мы тэлефануем на пошту і просім перадаць Іпатавай, каб яна прыйшла на наступны дзень у прызначаны час. Пачуўшы пра спыненне фінансавання СБП, Вольга Міхайлаўна абурана заявіла: і з-за гэткай дробязі вы мяне турбуеце? Каму і якія яшчэ патрэбны каментары? Зразумела, што з боку кіраўніка пісьменніцкай арганізацыі ішоў сапраўдны сабатаж, і гэта не проста словы. Нехта спытаецца: а дзе ж быў ты, Праўдзін? Дзе былі астатнія кіраўнікі СБП? Дзе былі Сактарыят, Рада? Былі там, дзе і ўсе! Шчыра верылі ў Іпатаву і Праўдзін, і ўсе астатнія, верылі, што чалавек, якога выбралі старшынёй СБП, сапраўды будзе руліцца аб справах Саюза. Праўда, ужо тады насцярожыла, што Вольга Міхайлаўна з намі не раілася, а загадвала: "Пытанне зарплаты, як і Дома літаратара, і, наогул, усё, што вырашаецца вышэй узроўню галоўных рэдактараў часопісаў і газет, — вырашаецца асабіста мной і больш нікім!" Калі я чарговы раз нагадаў, што апарат не атрымоўвае грошай ужо больш за тры месяцы, Вольга Міхайлаўна абыякава адказала: "Вось паеду з прадстаўнікамі міністэрства культуры ў Карэлію — там усе пытанні і вырашу". Спадзяюся, што і на гэта каментар не патрэбен. Калі ж я толькі заікнуўся пра сакратарыят і Раду — адразу ж атрымаў гнеўны адлуп: "З нашымі пісьменнікамі вырашыць нічога немагчыма! Мне лепш адной, я ўсё ж жанчына..." І зноў падумалася, што ў яе словах ёсць сэнс, бо і сапраўды жанчыну не выкінеш з прыёмнай, не дасі выспятка, не накрычыш...

Не верылася, што пісьменнікі на з'ездзе маглі так памыліцца, але выбару Іпатава ні мне, ні іншым не пакідала.

І ў 2001 годзе былі адпраўлены патрэбныя пісьмы ва ўсе дзяржаўныя ўстановы, праведзены сустрэчы, было знойдзена паразуменне. Сябры Сакратарыята СБП памятаюць, як у снежні 2001 года, насуперак жаданню Іпатавай, было прынята калектыўнае рашэнне аб сустрэчы з Прэзідэнтам. **Вольга Міхайлаўна паспрабавала перайначыць рашэнне так, каб сустрэча адбылася толькі з ёй. Не атрымалася, адміністрацыя пачала рыхтаваць сустрэчу з Сакратарыятам, і Іпатава канчаткова скінула адну са сваіх масак.** Паўгода маўчання і абыякавасці да спраў Саюза (напэўна, набіралася моцы) ператварыліся ў сапраўдны віхор, шквал артыкулаў і заяў. Мне стала зразумела, што яе сабатаж пісьменніцкіх пытанняў у 2001 годзе быў спланаваны. І Вольга Міхайлаўна зразумела, што Сакратарыят сапраўды зможа вырашыць пытанні і па зарплаце, і па Доме літаратара і будучым саюза. А зразумеўшы гэта, яна распачала актыўную атаку на зрыў сустрэчы сакратарыята з Прэзідэнтам. І зноў паўстае пытанне: навошта ёй гэта? Да 11 лютага гэтага года поўнага адказу ў мяне не было, але сама Вольга Міхалаўна раскрылася, калі спыталася: "А што вы, Віктар Аляксандравіч, будзеце рабіць, калі я апынуся за мяжой?" Напэўна, каментар зноў не патрэбен. А на наступны дзень, 12 лютага, яна амаль паўтарыла ў "Деловой газете" артыкул сумна вядомага Фядуты, які ў свой час яму і надыктавала. Напэўна, пытаючыся ў мяне, што буду рабіць, калі яна з'едзе за мяжу, Вольга Міхайлаўна разлічвала пасля гэтага артыкула на нейкае праследванне з боку ўладаў. Думаю, што ніхто ўціскаць і праследваць Вольгу Іпатаву не збіраўся і не збіраецца, хоць ёй гэтага вельмі ж хочацца.

Напісаў я гэты артыкул, шаноўныя калегі, толькі таму, што не хачу ні вас, ні сябе бачыць падманутым. А яшчэ таму, што пісьменнікам трэба ведаць, што Вольга Іпатава без рашэння з'езда "Беллітфонда" аб'явіла сябе старшынёй і гэтай арганізацыі і адразу заявіла, што "Іслач" трэба найхутчэй прадаваць, бо няма прыбытку. Сцэнарый зразумелы: няма маёмасці, няма арганізацыі. А што застаецца? Застаюцца пасады, з якімі неяк зручней выглядаць пакутніцай. Застаецца толькі пераканаць у гэтым патрэбных людзей.

А што ж мы, усе астатнія сябры СБП? Хто мы для Вольгі Міхайлаўны? У дадзеных абставінах напрошваецца сумная выснова: мы для Іпатавай — адпрацаваны матэрыял, нас можна і на сметнік...

**Віктар Праўдзін,**
**першы намеснік старшыні**
**Саюза беларускіх**
**пісьменнікаў**

**P.S.** Гэты артыкул быў падрыхтаваны да пасяджэння Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў 20 лютага 2002 года. Але я не зачытаў яго, бо, каб прыняць рашэнне, не было кворуму. Не сабралася Рада ў поўным складзе і 27 лютага. Час, як вядома, не стаіць на месцы, і каб падштурхнуць калег-пісьменнікаў да больш актыўнай дзейнасці, бо чакаць, калі Рада СБП будзе правамоцнай, часу якраз і няма, я вырашыў артыкул надрукаваць. **Вымушае зрабіць гэта экстрэмальная сітуацыя, бо старшыня СБП паставіла перадаапошнюю кропку ў развале пісьменніцкай арганізацыі: з 4 сакавіка 2002 года з належнай рашучасцю Вольга Іпатава самаўладна, парушаючы Статут, без ведама Рады і Сакратарыта падпісала загад аб скарачэнні ўсяго апарата СБП,**

*(Заканчэнне на стар. 4)*

БАЛЕТ

# Класіка маладзее

У гэтым жанры класіка не пастарэе ніколі: балет — мастацтва маладых. А памаладзець — можа: калі на сцэну выходзяць зусім юныя выканаўцы і напаўняюць харэаграфічныя традыцыі свежасцю сваіх эмоцый, абнаўляюць хрэстаматыйныя сцэнічныя вобразы. І раз на год гэты цуд абнаўлення могуць пабачыць заўсёднікі Акадэмічнага Вялікага тэатра Беларусі, наведаўшы так званы выпускны канцэрт навучэнцаў Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа.

Апроч яго выпускнікоў, сёлета, як і заўжды, у праграме канцэрта ўдзельнічалі навучэнцы малодшых курсаў ды класаў, а часам — і нядаўнія выхаванцы, цяперашнія артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета. Публіка горача вітала выступленні Наталлі Кузьменкі ды Аляксея Зарыцкага, Дзіяны Лысенкі, Вадзіма Ільяша ды Сяргея Рабыніна, Вольгі Біруковай, Кацярыны Загаруйкі, Алега Яромкіна, Мадокі Кагучы (нязвыклае імя належыць першакурсніцы, якая прыехала вучыцца ў Мінск з Японіі)...

Каларытныя, вясёлыя, шчодрыя на складаныя акрабатычныя штукарствы "Лявоны", увасобленыя выпускнікамі народнага аддзялення. Чатыры вострахарактарныя пары ў экстравагантным танга. Карнавальная стракатасць фарбаў ды масак у "Італьянскім дывертысменце" Вівальдзі—Брытэна. І яшчэ — выразная пластыка ды лёгкі скачок Арлекіна (А. Яромкін), крохкасць юнай Пралескі (Т. Цілігузава), высакародная сіла героя "Раймонды" (Ю. Кавалёў), талент пераўвасаблення, "пявучасць" рухаў, тэхнічнасць і жаночы магнетызм Д. Лысенкі.

Такімі ўражаннямі поўнілася атмасфера харэаграфічнай імпрэзы. Зразумела, поўнілася яна і самай рознай музыкай: фрагментамі з балетаў "Лебядзінае возера" П. Чайкоўскага, "Арлекінада" Р. Дрыго, "Пахіта" Л. Мінкуса, "Эсмеральда" Ц. Пуні, "Прывал кавалерыі" М. Армсгеймера, інструментальнымі кампазіцыямі, на якія былі пастаўлены арыгінальныя і эфектныя нумары... Шкада, што гучалі фанаграмы: не хапала дыхання жывога аркестра.

Апладысменты — танцоўшчыкам. Апладысменты — іх знаным педагогам: М. Пятровай, Н. Давыдзенцы, К. Малышавай, В. Швяцовай, І. Душкевіч, А Калядэнку, У. Азімаву, С. Пясцехіну, А. Мартынаву, У. Іванову. А таксама — музычнаму кіраўніку канцэрта А. Раранскаму, загадчыцы вытворчай практыкай Н. Катомінай, мастацкаму кіраўніку каледжа А. Калядэнку і дырэктару З. Дусенцы.

Замест постскрыптума — проста факт. Наталля Кузьменка, навучэнка 3-га курса, стыпендыят Спецыяльнага фонду Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі, выступіла затым і ва ўрачыстым канцэрце, прымеркаваным да Дня Незалежнасці Беларусі. Юная балерына да таго часу паспела паўдзельнічаць у конкурсе прыгажосці, па выніках якога атрымала пачэснае званне Першай віцэ-міс "Беларусь-2002".

**С. Б.**

КІНО

# Адкрый вочы!

Часам у Галівудзе здараюцца дзіўныя рэчы. Знакамітая "фабрыка мрояў" нечакана стварае фільмы, у якіх гэтыя "мроі" неўзабаве асуджаюцца. Фільм Рона Ховарда "Гульні розуму" і стужка Камерона Кроу "Ванільнае неба", якія дэманструюцца цяпер у кінатэатрах сталіцы, аб'ядноўвае адна тэма — тэма барацьбы з ілюзіямі, якія могуць цалкам сапсаваць жыццё чалавека.

Фільм "Гульні розуму" (дарэчы, у арыгінале ён называецца "Прыгожы розум", але наш варыянт назвы, лічу, лепш перадае сутнасць карціны) сёлета быў прызнаны ў Галівудзе лепшым фільмам года, атрымаў чатыры "Оскара". На гэты раз амерыканскія кінаакадэмікі зацікавіліся гісторыяй жыцця матыматыка Джона Нэша. Гэты таленавіты вучоны прайшоў нялёгкі шлях ад барацьбы з шызафрэніяй да прызнання яго Нобелеўскім лаўрэатам.

На жаль, добры сцэнарый Аківы Голдсмана атрымаў вельмі ардынарнае кінаўвасабленне (у першых эпізодах стужкі захапляе толькі аператарская работа, гульня светлацені ў кадры). У Галівудзе ўсё пралічана — фільм павінен спадабацца вялізнай масе людзей. А гэта немагчыма без любоўнай ці дэтэктыўнай лініі і, абавязкова, меладраматычнага фінала. Таму сцэны прыступаў шызафрэніі Нэша занадта упрыгожаны, паказаны нават з гумарам. Роздум аб праблеме геніяльнасці і вар'яцтва даволі схематычны. (Дарэчы, убачыўшы Р. Кроу у ролі Гладыятара, Д. Нэш засумняваўся ў тым, што гэты акцёр пераканаўча сыграе яго на экране. Але Р. Кроу не імкнуўся ва ўсім перайнаць прататыпу, для акцёра было галоўнае дамагчыся эмацыянальнай праўды.)

Гісторыя прафесара Нэша вымушае задумацца, наколькі ілюзіі, створаныя розумам чалавека, могуць быць небяспечныя для яго. З маладосці таленавіты матыматык, які нарадзіўся "з дзвума галовамі, але без сэрца" выдумляў падзеі, людзей, якія ўплывалі на яго настрой, паводзіны. Менавіта з-за прыдуманай "гульні" ў шпіёна, Нэш не змог выкладаць у Прынстане, спакойна жыць з сваёй сям'ёй (неіснучыя ў рэчаіснасці "сябры" раілі яму забіць жонку і сына). Што ж выратавала геніяльнага нябогу? Памятаеце, што ў п'есе А. Макаёнка "Трыбунал" маці кажа свайму сыну, апантанаму ідэямі партызанскага руху? "Я — твая Радзіма!" Нешта падобнае сказала Нэшу і ягоная жонка Алісія. Рэальнае — гэта яна, яе цела, яе рэчы (усё жыццё Нэш будзе хаваць у кішэні насоўку сваёй жонкі, дотык да якой будзе дапамагаць яму супрацьстаяць "гульням" розуму). Рэальнае — гэта тое, што мы можам адчуваць, бачыць, да чаго можам дакранацца. Шчымлівая Нобелеўская прамова прафесара Нэша ў апошнім эпізодзе фільма вучыць нас цаніць і берагчы людзей, якія клапоцяцца і любяць нас. Адным словам, слухаць больш



сэрца, а не розум, які можа памыляцца, "гуляць" з намі.

Стужка "Ванільнае неба" спадабаецца як аматарам інтэлектуальных рэбусаў, так і прыхільнікам жанру "экшн". Яна з катэгорыі тых навамодных галівудскіх фільмаў, якія абавязкова трэба глядзець да канца, каб урэшце зразумець, пра што гэтая карціна увогуле. Яе заблытаны, перанасычаны неверагоднымі падзеямі сюжэт, вымагае ад гледача пільнай ўвагі і засяроджанасці (нечаканы фінал гэта кампенсуе). Рэжысёр карціны К. Кроу і на гэты раз прапанаваў знакамітаму галівудскаму акцёру Т.Крузу ролю маладога, беспрынцыпнага мар-натраўцы жыцця (такога ён сыграў у "Джэры Магуаяры"). Таму логіку характара персанажа "Ванільнага неба" можна прадказаць: гэты гуляка абавязкова ўцяміць, што людзей трэба любіць, быць адказным за іх лёсы.

Невыпадковая ў фільме фраза-лейтматыў "адкрый вочы", якая жыве ў свядомасці галоўнага героя. ( Тут сама сабой напрошваецца аналогія з кінапрытчай С. Кубрыка "Шырока закрытыя вочы", у якім Т. Круз разам са сваёй жонкай Н. Кідман сыгралі сямейную пару, якая спрабуе разабрацца ва ўласных пачуццях і жаданнях.) Адкрыць вочы — значыць жыць, думаючы пра другога чалавека. Жыць не прыгожымі ілюзіямі, якія ўводзяць ад адказнасці за ўласныя учынкі ці словы, а згодна сумленню. Бо менавіта яно так нечакана ўрываецца ў прыгожы сон Дэвіда і ператварае казачную мрою — рамантычныя адносіны з прыгажуняй-іспанкай Сафіяй (П. Крус) ў невыносны кашмар. А ўсё таму, што па-за сном Дэвіда засталіся абыякавасць, эгаізм, раўнадушша, якія падштурхнулі закаханую ў яго жанчыну (К. Дыяс) скончыць жыццё самагубствам. У той жудаснай аўтамабільнай катастрофе легкадумны прыгажун і пакалечыў свой твар, стаўшы выродкам. (Вось чаму Дэвід пагадзіўся, каб яго замарозілі. Але ці магчыма кантраляваць сэрца, розум чалавека?) Заклік "Адкрый вочы" вымушае героя абудзіцца ад жыцця ў сне, адмовіцца ад штучнага існавання на фоне "Ванільнага неба" Мо не на карысць рэчаіснасці, якая бязлітасна вымагае адказваць за ўсё, што робіш...

Часам на "фабрыцы мрояў" здараюцца дзіўныя, незразумелыя рэчы. Няўжо прыйшоў час, калі можна ўсклікнуць: "Канец Галівуду!?" (менавіта такую назву мае новы фільм амерыканскага рэжысёра В. Алена). Не тут та было! Наш кінапракат зноў і зноў набывае галівудскія стужкі, пабудаваныя на шматлікіх ілюзіях і мроях. Фантастыка "Зорныя войны. Эпізод III: Барацьба клонаў," кінакомікс "Чалавек-павук"... Гледач, "адкрый вочы!"

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымках: акцёры П. Крус і Т. Круз на адной з прэзентацый "Ванільнага неба".*

АБСЯГІ

ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## Па выніках пленэру

Як "ЛіМ" паведамляў ужо, у Буда-Кашалёўскім раёне прайшоў пленэр жывапісцаў імя земляка Я. Маісеенкі. Уім бралі ўдзел вядомыя беларускія майстры М. Казакевіч, Р. Ландарскі, А. Отчык, В. Дзенісенка з Гомеля, Э. Агуновіч, Л. Галанаў з Мінска, а таксама мастакі з Расіі, Украіны. Створаныя за час пленэру палотны падараваны Буда-Кашалёўскай галерэі. Адначасова ў абласным цэнтры, у мясцовай арганізацыі Саюза мастакоў, адкрылася выстава пленэрных работ.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## Узоры жыцця

У Горацкай карцiннай галерэі адкрылася выстава твораў мясцовых майстроў дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Выстава прымеркавана да дзесяцігоддзя Горацкага аб'яднання "Мастацтва". Тут прадстаўлены работы А. Кучынай, І. Беляковай, З. Чандаковай, Т. Тапарковай, Л. Шыпінай, З. Жарскай, Р. Ануфрыевай, М. Кабылянец, Р. Маляровай, Н. Баранавай, Т. Цітовай... Выцінанкі, пейзажы, пано, вышыўкі, работы з лазы і дрэва, самая разнастайная кераміка — усё гэта выклікае вялікую глядацкую цікаўнасць да самабытнай творчасці горацкіх майстроў.

**Л. АЎРАМЕНКА**

ГРОДЗЕНШЧЫНА...

## Дароніна — дырыжор і кампазітар

Больш за трыццаць гадоў адпрацавала Марыя Дароніна ў музычнай школе Навагрудка. Сотні яе вучняў сталі прафесіяналамі высокага кшталту (напрыклад, Дана Клячкоўская закончыла Кракаўскую арганную школу і плённа працуе арганісткай у навагрудскім касцёле). Але і на пенсіі М. Дароніна выкладала музыку ў Багудзенцы, Нёўдзе, што на Гродзеншчыне. Дый зараз у няўрымслівай жанчыны хапае энергіі, каб працаваць яшчэ і ў клубе Навагрудскага аддзялення Таварыства інвалідаў па зроку. За два гады Марыя Іванаўна здолела падрыхтаваць і давесці да дасканаласці канцэртную праграму з жаночай вакальнай групай. Калектыў па вартасці стаў народным. Застаецца дадаць, што М. Дароніна — не толькі выкладчыца музыкі, але й дырыжор са стажам, а таксама някепскі кампазітар (кампазіцыя "Шыпшына" на словы мясцовага паэта Самсона Пярловіча была адзначана дыпломам на рэспубліканскім конкурсе аўтарскай песні).

**Яўген ЛАПЦЕЎ**

ВІЦЕБШЧЫНА...

## Журналісту цяжка без кропкі апоры

У віцебскага журналіста, рэдактара яўрэйскага часопіса "Мішпаха" ("Сям'я") Аркадзя Шульмана выйшла другая кніжка "Как я помолодел на сто лет". У кнігу ўвайшлі прыпавесці і апавяданні, напісаныя за апошнія пяць гадоў. Апавяданні ў многім аўтабіяграфічныя, а вось прыпавесці — гэта роздум аб жыцці з гэткім гумарыстычным прысмакам.

Аркадзь, як чалавек творчы, прыдумаў свае "арканізмы". Адзін з іх, відаць, з'яўляецца крэдам пісьменніка і журналіста: "Дайце мне кропку апоры. Усё астатняе я вазьму сам".

## Фестываль распачалі дзеці

Па традыцыі, адзінаццаты міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" пачаўся з міжнароднага конкурсу дзіцячых канцэртных праграм. На конкурс сабраліся юныя таленты з Балгарыі, Германіі, Македоніі, Латвіі, Кіргізіі, Малдовы і іншых мясцін свету. Беларусь прадстаўляў мінскі ансамбль старадаўняй музыкі "BRAEVIS".

Васемнаццатага ліпеня малядыя артысты паказалі свае канцэртныя праграмы на пляцах і вуліцах Віцебска, а ў Летнім амфітэатры прайшоў гала-канцэрт дзіцячай творчасці.

Між тым, у абласным цэнтры пачынаецца свята "Віцебск — 1028 гадоў". На кірмашы народных рамёстваў і мастацтваў майстры з розных куткоў Беларусі прадставяць свае эксклюзіўныя вырабы, а мясцовыя ганчары паспаборнічаюць з латгальскімі.

## Хор стаў лаўрэатам

Хор Віцебскай катэдры Святой Барбары "Hosanna" вярнуўся з дзесятага міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа" (на мінулым тыдні завяршыўся ў Магілёве) са званнем лаўрэата. Малады калектыў, якім кіруе настаўніца Тацццяна Дарафеева, упершыню браў удзел у гэтым прэстыжным конкурсе і адразу выйшаў у фінал.

— Гэта было нечакана для нас, — гаворыць Таццяна Дарафеева, — бо побач выступалі надта славутыя калектывы. Гран-пры, дарэчы, прысудзілі хору "Даўгава" з Даўгапілса. Другое месца дасталося львоўскаму калектыву.

Віцебскі ж каталіцкі хор заняў трэцяе месца і спецыяльны прыз за адраджэнне беларускай культуры.

**Святлана ГУК**

БРЭСТЧЫНА...

## Пушча без межаў

З 15 па 25 ліпеня на тэрыторыі Белавежскай пушчы адбудзецца сумесны беларуска-польскі летнік-экспедыцыя па вывучэнні і папулярызацыі прыродных гісторыка-культурных помнікаў славутага рэгіёна. З абодвух бакоў у гэтым мерапрыемстве бярэць удзел маладыя навукоўцы: архітэктары, рэстаўратары, ландшафтнікі, біёлагі, якія займуцца грунтоўнымі даследаваннямі і інвентарызацыяй помнікаў гісторыі на старажытнай пушчанскай тэрыторыі.

Праект, які мае назоў "Пушча без межаў", фінансуецца і каардынуецца праз структуры ЮНЕСКА. Вынікі міжнароднай навуковай экспедыцыі будуць падведзены ў абласным цэнтры.

**Наш кар.**

## Бараўляны. Заяўка на скульптурны пленэр?

**12 ліпеня ў Навукова-даследчым інстытуце анкалогіі і медычнай радыялогіі, што ў Бараўлянах, адбылася культурніцкая падзея. Беларуская акадэмія мастацтваў передала навуковаму інстытуту (аддзяленне мамалогіі) тры скульптурныя кампазіцыі для ўпрыгожвання інтэр'ераў. Гэта дыпломныя работы мінулых гадоў. Дзве кампазіцыі партрэтныя — Урсула Радзівіл і Еўфрасіння Полацкая. Трэцяя ўяўляе сабою абагульнены вобраз маці і дзіця. На імпрэзе выступілі прадстаўнікі Міністэрства аховы здароўя Беларусі і кіраўніцтва НДІ анкалогіі і медычнай радыялогіі. Ад акадэміі слова бралі рэктар Р. Смольскі і загадчык кафедры скульптуры У. Слабодчыкаў. Яны выказалі спадзяванне, што супрацоўніцтва Беларускай Акадэміі мастацтваў і медычных устаноў Бараўлян толькі распачынаецца. У. Слабодчыкаў лічыць вельмі карысным "прывязаць" да Бараўлян шэраг будучых дыпломных работ кафедры скульптуры. Прычым заняцца варта не толькі інтэр'ерам. Эстэтызацыі патрабуе ўся тэрыторыя НДІ. Той жа думкі прытрымліваецца рэктар БелАМ. "Хай пацыенты раз-пораз думаюць не пра сваю хваробу, а пра мастацтва".**

**Нашаму карэспандэнту спадар Слабодчыкаў сказаў, што марыць пра скульптурны пленэр у Бараўлянах і нават ужо бачыць кропкі на тэрыторыі НДІ, дзе скульптура стане так, нібыта была тут ад самага пачатку.**

**"Бараўляны — мясціна ў пэўным сэнсе не менш прыгожая, чым Раўбічы. Толькі тут свая прыгажосць. Архітэктурны вобраз гэтага мястэчка пад Мінскам складаўся спантанна, але ў выніку атрымалася даволі прыгожа. Бараўляны сумяшчаюць у сабе вясковую жывапіснасць і гарадскі, нават сталічны, размах. Але, на маю думку, Бараўлянам не стае, так бы мовіць, кропак эмацыянальнага прыцягнення. Не хапае манументальна-дэкаратыўнай аздобы.**

**У свядомасці многіх людзей Бараўляны маюць не надта прывабны, адметны вобраз. Бараўляны для іх — гэта месца, дзе жыве апошняя надзея, альбо прыпынак перад апошняю мяжою. Пабыўшы ў гэтых сценах, міжволі станеш філосафам, зменіш погляды на жыццёвыя каштоўнасці...**

**Але я пра іншае. Мне падаецца, што сродкамі мастацтва можна стварыць жыццесцвярджальны вобраз. Вобраз перамогі над злом, над хваробаю. Спадзяюся, што дзеля такой справы знойдуцца сродкі ў дзяржаўных і прыватных спонсараў. Прычым з уласнага досведу магу сцвярджаць, што сродкі на гэта трэба не такія ўжо і вялікія.**

**Ды, ведаеце, крыўдна, што беларускім скульптарам не ад добрага жыцця даводзіцца працаваць на замежжа — тым часам, як хочацца нешта вартае зрабіць для Беларусі.**

**Наш кар.**

## "Беларуская думка", № 6

**У раздзеле "Літаратура і жыццё" прадстаўлены вершы А. Салтука і "Начныя ўспаміны" І. Шамякіна. Да 120-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы прымеркавана публікацыя артыкула У. Гніламёдава "Традыцыі і новыя каштоўнасці". А. Марціновіч ("Магнат, які зрабіў для Айчыны шмат") расказвае пра Міхала Казіміра Радзівіла Рыбаньку. Багаты на матэрыялы раздзел "Свет мастацтва": змешчаны выступленне міністра культуры Рэспублікі Беларусь Л. Гулякі "Узвышае нацыю прыгажосць", нататкі А. Карлюкевіча пра мастака Каміля Камала "Дрэва сусветнае па Камілю Камалу", слова С. Лакішыка "Закрэсліце "Быў", напішыце "Ёсць"..." пра У. Высоцкага і "замест пасляслоўя" М. Міхайлава "Не грубейце душой". "Дапамажыце, людзі добрыя" — роздум М. Шэлехава пра наша жыццё-быццё.**

Так. Лекавая моц натуры. Дарэмна знакаміты паэт згадваў: "Я не ищу гармонии в природе". Ёсць яна, гармонія. Вечны цуд замысленага Творцам. Выратавальны цуд вясны, лета, восені, зімы. Выратавальны цуд хараства кожнага дрэва, кожнай кветкі, кожнай травінкі...

Мелодыя Светабудовы, музыка нябесных сфер: Musica Mundana — Музыка Сусвету. Спрычыненне да вышэйшай, унутранай і арганічна-існаснай праўды, што праясняецца Звыш, аб'ядноўваючы знешняе, вобразнае бачанне і чыста духоўнае, пазавобразнае, глыбока ўнутранае сузіранне. Іду да святыні, каб перажыць Mysterium tremendum (містычнае ўзрушэнне), узвысіцца душою, адысці ад мітусні свету... З яго радасцямі і няўладзіцамі, злагадай і дысанансамі, сэнсамі і бяссэнсіцай.

Але пра тое — асобная размова. Як і пра жыватворны ўплыў тых выданняў, якія не проста чытаеш-спазнаеш — адчуваючы значэнне натхняючага вопыту, калі ўсё зямное адыходзіць на другі план, далучаючыся да вышэйшай, усё падпарадкоўваючай рэальнасці. Біблія, Словы Айцоў Царквы — патрыстыка, тэалагічныя творы... Перыядычныя выданні, з'яўленне якіх нагадвае канкрэтна, відавочна пра іншыя "полюсы" Быцця: "Наша Вера", "Ave Maria" і г.д. Але — згадаю зноў — пра тое асобная гаворка.

Святлана Кароль (Рэсенчук). І далей — тая танальнасць, што не так часта здараецца ў эфіры: добразычлівая натуральнасць, тая мера ўсмешкі і сур'ёзу, што адпавядаюць зместу перадачы, яе мастацкай логіцы.

Увогуле я радыё амаль не слухаю — няма часу. Аднак тут кожны тыдзень, у нядзелю, настройвалася на тую хвалю: інтэрв'ю, дыялогі, гутаркі — з музыкамі, прафесійнымі і самадзейнымі, з кіраўнікамі ансамбляў, з паэтамі, акторамі, з бібліятэкаркамі з далёкіх вёсачак... Розныя праблемы, розныя сюжэты... Заўсёды — прадуманая кампазіцыя, вызначаны і інтуітыўна падтрыманы рытм... Гучыць суха, а ў перадачы было шматаблічча і шматкалёрна: фантазія мантажу — з непаўторным гучаннем музыкі і слоў...

...А перадача знікла. Шкада. Як шкада даўніх дыялогаў на ТБ, што ладзіў Леанід Галубовіч, і менш даўніх — Алега Белавусава... Шкада, што толькі тэлефільмы робіць цяпер Уладзімір Сціпан (Сцепаненка) — якія перадачы былі! (Хаця фільмы — не горшыя.)

Шкада. Але ўсё помніцца. Усё — у скарбнічку эмацыянальнай, сенсорнай памяці. І хаця глядач тэлебачання я таксама не вельмі пэўны (з той жа прычыны — час), аднак, праглядаючы праграмы, заўважаю, што ў прам-тайм — найбольш аднастайныя баевікі, дэтэктывы, трылеры, якія здзіўляюць

перастварэннем якога моднага вярбальнага блокбастэра, бестселера, дзе *сочинители* выпрабоўваюць сябе ва ўсіх верагодных і неверагодных напрамках, учыняючы нешта сярэдняе паміж літаратурным стрыптызам і харакіры, за адным скрыпам наўтомна практыкуючыся ва ўжыванні, мякка кажучы, ненарматыўнай лексікі. (Яно і патлумачыць такое дзейства можна, нават з дапамогай класікаў: "Парнас — не монастырь и не гарем печальный.) Дык вось — тымчасам Ніна Мацяш пераклала паэтаў французскай "Плеяды": нібыта перакінула зорны мост праз стагоддзі, захоўваючы і аберагаючы ўласцівы яе мастацкай натуры "Этас, сваю маральную перавагу, сумленнасць перад сваім талентам" (Б. Астаф'еў). Вызначаючы вечныя каштоўнасці. "...прага золата пустая" — і "ўладны покліч вечнай пекнаты!" (Жак Грэвэн). Покліч, што "ляціць да зор — стаць зоркайззалацелай". "Туды, дзе свет ясноты незямное!" (Жаашэн — нам больш звычна — Жаакін — дзю Бэле.) Каб "сцерушыць зямных спакусаў зводны прах" (П'ер дэ Рансар).

Мы ўлоўваем — праз вякі — асаблівы водар жывой высакароднай субстанцыі, адчуваем свет адносін, што адрозны ад свету прагматычнага, практычнага, спазнаём пытанні, у якіх ёсць і спасціжэнне Боскіх сутнасцяў, і антыноміі асабістага вопыту... Як прамаўляе ў прадмове да кнігі Ніна Мацяш:

# "Я за надзею грошы не плачу..."

NATURE VIS MEDICATRIX

А я гляджу на неба: вечнае і новае, маю асалоду ад водару акацый, шыпшыны, язмену — апошнім часам усё ў нас зацвітае на месяц раней, як у былыя часы, і неяк хутка, ледзь не ўсё разам.

...Нібыта п'ю паветра — настоенае на водары вясновых зюйдвестаў і птушыным шчэбеце. Зімою акунаюся ў цішыню снежнага дня... А ўвосень прымаю чынны ўдзел у свяце фарбаў — апошні фэст клёнаў, бяроз, дубоў...

Лекавая моц натуры... Радасць Быцця...

А ўвогуле мне заўсёды няцяжка знайсці якую зачапку для радасці.

...Неяк, некалькі год назад, уключаю тэлевізар — чую маладога альтыста, ён саліруе ў сімфанічным аркестры. Адкрыццё сезона. Сімфонія Дзмітрыя Смольскага. І саліст высвечвае гукамі (менавіта так!) нейкія сэнсы, і гэты чар бачання свету заварожвае і прымушае адчуць храматычна вызначаную лірычную думку.

Завуць музыканта Уладзімір Куніца. Студэнт кансерваторыі. Штудыі яго накіроўвае вядомы майстар — Лючыя Ластаўка.

Праз год слухаю альтыста ў касцёле Святога Роха — сольны канцэрт. І гэтыя моманты застаюцца ў кантрапунктычным "гукабачанні" жыцця.

Як і той, зусім не маёвы, сіберны вечар 23 траўня нейкім нядаўнім Anno Domini, калі я адчувала сябе ў палоне "арфічных" узрушэнняў і ледзь нават не суадноснай з таямніцамі ўсеадзінства Натуры. Я слухала Моцарта і Баха. Я слухала Юрыя Башмета...

Знікала ўсё — наўтульная стынь вечара, шэрая будзённшчына метро, нецікавыя падрабязнасці дня...

А такіх вечароў і дзён, гадзін і хвілін было многа ў маім жыцці... Святаслаў Рыхтар, Леанід Коган, Давід і Ігар Ойстрахі, Ван Кліберн, Віктар Траццякоў... Майстры нашага Купалаўскага... Тэатры Акімава, Ахлопкава, Юрыя Любімава... Тэатр "Ванэмуйнэ"... Etc., etc,etc... Выпадкі — сустрэч. З фільмам. Кнігай. Карцінай. Асобай... Тэлеперадачай... Радыёфактам...

Памятаю адзін такі... Аўтобус... Прыцемкі... Я вяртаюся з роднага горада... Тлум радыё — нешта вясёла і невыразна гамоніць, спяваюць, крычаць... І раптам — ясны жаночы голас: "Гаворыць радыёстанцыя "Сталіца". У эфіры перадача "Дудка беларуская". Аўтар і вядучая

адным — колькі дзівосаў тэхнічнага прагрэсу, колькі феерычнага фізічнага майстэрства акцёраў і каскадзёраў выкарыстоўваецца дзеля нікчэмных сюжэтаў. (Я не супраць жанраў — супраць трэццегатункавай штампоўкі фабул і характараў.) Яшчэ — у той жа прам-тайм — бясконцыя серыялы на ўзроўні інтэлекту аднаклетачных... Урэшце — розныя гульні на грашовыя і рэчавыя выйгрышы, дзе, напрыклад, "слабым звеном" аказваецца самы моцны і разумны, а вядучая — гэта нешта сярэдняе паміж жанчынай-вамп і даглядчыцай якой калоніі.

...Шкада, што на гэтым растуць пакаленні. Бо не сакрэт, што сёння кніга, найперш у юнакоў, падлеткаў і дзяцей, саступае свае пазіцыі аўдыё- відэа-, камп'ютэрам і Інтэрнету, каму яны даступныя. А дарэчы, і кнігу набыць цяпер не ўсе могуць: дорага. Ну, але ёсць бібліятэкі — пакуль бясплатныя. Ёсць свае, некалі набытыя кнігі. У людзей старэйшых пакаленняў і ў тых, каму пашчасціла з'явіцца на свет у сям'ях, дзе ёсць кнігі.

Для мяне кніга, як для ўсіх людзей пераважна дакамп'ютэрна-інтэрнэтаўскай эпохі, духоўная, найпершая неабходнасць. (Хаця займець свой сайт у Інтэрнеце або хаця б мець магчымасць карыстацца ім (Інтэрнетам) — вельмі хацелася б.)

Ну, але — узяць з паліцы кнігу — радасць. Даступная.

...Апошнім часам я часта люблю пагартаць, учытацца вось у гэтую кнігу — выданне на бялюткай добрай паперы (першы нумар?), са старадаўнімі віньеткамі, з вызначальнай назвай — "Багаславі сустрэчу мне..."

*Не, лепей кніга, мой Жамэн,*
*Чым прага золата пустая;*
*Прад чытачом, амогшы тлен,*
*З кніг вобраз творцы ажывае.*

Вобраз творцы ў гэтых радках — П'ера дэ Рансара. Вобраз творцы — Ніны Мацяш. Менавіта яна, паэт высокай думкі, пранікнёнага слова, пасіянарных эмоцый, у наш час, калі найвялікшыя заваёвы дэмакратыі апошніх дзесяцігоддзяў неяк мікшыруюцца, калі часам зусім не знікаюць ад наступу ўлады грошай, ад адкрытага цынізму, а не — дык і крыміналу, ад наўтомнага галошання: кірмашовыя зносіны, траншы, інвестыцыі, тэндэры — дык вось гэтым часам Ніна Мацяш не спакусілася

"...час для мяне размываецца, узаемапранікае, як бы перастае існаваць наогул, бо ў *адным шэрагу ўстаюць і таджыцкі фальклор, і французскі Рэнесанс, і беларускае нацыянальнае Адраджэнне*"(курсіў мой. — **А. С.**) "у адным шэрагу..." *Свядомаснае, паняційнае, эстэтычнае суладдзе...* У такіх розных і адрозных з'явах... Тут, у гэтым прамаўленні паэткі — і ключ да намеру, сэнсу выдання. Праблемны накірунак. Ён яшчэ і ў тым, што творчасць паэтаў "Плеяды", акрамя свайго самадастатковага эстэтычнага значэння і вагі, мела, як вядома, пэўную мэту, вызначаную слоўна ў трактаце дзю Бэле, што стаўся як бы маніфестам паэтаў "Плеяды". Называўся ён "Абарона і ўслаўленне французскай мовы". І сцвярджаў: французская мова ніяк не горшая за лаціну, што была мовай набажэнстваў, навукі, літаратуры на зямлі галлаў. Не горшая і за старагрэцкую. І сваёй творчасцю паэты "Плеяды" пацвердзілі гэта — рэфарматары XVI стагоддзя. А ў XXI *стагоддзі* Ніна Мацяш, пераклаўшы іх на беларускую — пацвярджае: наша мова не горшая за іншыя. Ёй падуладна — выявіць той абсяг духу, вобразы, інтанацыі, слоўную шматкалёрнасць, што былі ўласцівыя паэтам "Плеяды". І пераклады гэтыя, безумоўна, узбагачаюць культуровыя скарбы Беларусі, пашыраюць яе культуровую прастору. На маю суб'ектыўную думку, гэта з'ява ў культуровым і літаратурным жыцці нашай краіны. У шэрагу лепшых перакладаў замежнай класікі. І ёсць спадзяванне, што людзі, якія французскую мову ведаюць не горш за беларускую, яшчэ *добразычліва і ўважліва* дадуць трактоўку гэтай з'яве.

А я зноў бяру з паліцы гэтую кнігу. І думаю — як гэта вызначальна: творчасць чалавека такога няпростага лёсу, як Ніна Мацяш, ятуе нам толькі вышыні духу, толькі высокую энергію Быцця, толькі сутнасныя аналогіі...

***Усемагутны Бог, дай мне***
***ўвабраць душой***
***Тваёй Вялікаснасці хоць малую долю,***
***У сэрца мне ўтаўруй Тваю***
***святую волю,***
***Каб зберагчы агонь духоўнасці маёй!***
***(Жак Грэвэн)***

І як гэта добра: знайшліся ў Бярэсці людзі, што дапамаглі "зберагчы агонь духоўнасці" — выдалі кнігу перакладаў паэтаў "Плеяды". Іна Кулей, Настасся Фецісава, Людміла

Шайдзянкова. (Вельмі прашу рэдакцыю не выкрэсліваць прозвішчы — хай вядомыя будуць Берасцейскія мецэнаты.)

Радуюся за Ніну. І за ўсіх, каму прыватныя выдавецтвы і спонсары далі магчымасць здзейсніць свае права на друк. За Віктара Карамазава, Алеся Пісьмянкова, што акрамя сваіх дзяржаўных выданняў, змаглі прадставіць чытачам прыватным чынам друкаваную, не зусім звычайную на нашых абшарах кнігу — плён творчага супрацоўніцтва мастака, празаіка і паэта: альбом рэпрадукцыяў карцін Антона Бархаткова, эсэ, паэтычны твор.

За Уладзіміра Арлова, якога актыўна выдаюць дзяржаўныя (нягледзячы на яго адкрыта апазіцыйную пазіцыю) і недзяржаўныя структуры. І гэта невыпадкова. Ён пэўна і надзейна сцвердзіў сябе ў беларускай літаратуры і культуры. Амаль ва ўсіх жанрах.

Паэтку Валянціну Аксак, адначасова замкнёна-адстароненую і неверагодна адкрытую, што мае памкненне спалучыць вытанчаны розум і самасцвярджальны выклік і яшчэ шмат чаго і ў ранейшых (дзяржаўных) выданнях, і ў апошняй па часе (для мяне, прынамсі) кнізе "Антычны дождж" (прыватнае выданне).

Удалася выдаць свае кнігі без дапамогі дзяржавы такім надзвычай актыўным і таленавітым ледзь не ва ўсіх жанрах літаратарам, як Алесь Каско, Людміла Рублеўская, Віктар Шніп. Усе розныя, кожны мае свой адметны голас, свой стыль, сваю непадробную манеру пісьма. І вельмі важна, што гэтае слова дайшло да чытача. У кніжным выяўленні.

Як, мяркую, выдатна, што надрукаваныя, як ён сцвярджае, "Апошнія вершы" Леаніда Галубовіча, дзе эмацыянальнае напружанне паўсядзённасці мяжуе з паэтычнымі галюцынацыямі, а шчырыя маналогі — з тым, што ідзе ад зададзенага вобраза творчых паводзін. І добра: выйшлі з друку яго "Зацемкі з левай кішэні" — літаратурныя мініяцюры, паміж дзённікавымі запісамі, афарызмамі, кароткімі рэцэнзіямі-характарыстыкамі і яшчэ нечым, жанр што па-рознаму вар'іраваўся з часоў Ларошфуко, Паскаля і Лабруйера, жанр, у якім не так проста быць яркім, вострым, запамінальным. Леанід Галубовіч гэта ўмее.

Як умее стварыць сваёй творчасцю (вершы, эсэ, апавяданні) дзіўнае, адначасова прыцягальнае і адштурхоўваючае магнетычнае поле, дзе існуюць адны адмоўныя зарады-бліскавіцы, Алесь Чобат. Яго кніга паэзіі "Тутэйшая сага" таксама пабачыла свет супольнымі намаганнямі беларускай, польскай, рускай грамадскасці.

Дзякуючы спонсарскай падтрымцы выдаў свае паэтычна-даследчыя аповеды (зайздроснае спалучэнне) пра Дзярэчын і новую кнігу паэзіі "Нашэсце поўні" ("надрэальныя косма-візіі", рэаліі-пераходы паміж марай і ведамі, выпрабаванні свайго голаса ў шматгалоссі іншых) — Міхась Скобла.

І г.д. І г.д.

Сёння ў нас, як ва ўсім цывілізаваным свеце, гэта натуральны працэс выдавецкай практыкі: прыватныя структуры. І, безумоўна, ён будзе пераважаць, гэты працэс.

Аднак — ёсць у нас, як заўсёды, свае асаблівасці. Найперш — сярод выдаўцоў прыватных не так многа нелітаратараў. Другое — арыентаваныя яны альбо на камерцыйныя мэты, альбо на грошы спонсараў, аўтараў і г.д. Ёсць выдавецкія структуры, арыентаваныя на розныя грамадскія і асабістыя ахвяраванні і на мэты асветніцкія, аднак *жывых аўтараў* яны друкуюць выключна за іх кошт. Тое, што за справу ўзяліся прафесіяналы, нібыта выдатна: таленавітыя, дасведчаныя людзі. (Згадаем спробы многіх, напрыклад, І. Буніна і В. Верасаева стварыць незалежнае ад інтарэсаў камерсантаў "Книгоиздательство писателей".) А з другога боку, памятаеце, Блокава:

***Так жили поэты — и каждый встречал***
***Другого надменной улыбкой.***

...Што было б, калі б, скажам, не зважаючы на стагоддзі, да генія Льва Талстога (выдаўца) завітаў бы геній Уільям Шэкспір (аўтар)? (Усім вядома, як ставіўся мудры расіянін да вялікага ангельца.) Узоры можна множыць. Так што гэта вельмі няпроста — адзін творца спрыяе другому. Часцей — толькі ў агульнай суполцы, пры наяўнасці сённяшніх ці былых (зрэдзьчасу) творчых і дзелавых стасункаў, магчымасцяў канкрэтнага супрацоўніцтва...

**...Спонсары, мецэнаты... Калі ўлічыць, што наша заканадаўства пакуль што ніяк іх не заахвочвае, хутчэй — наадварот, а нуварышы-бізнесоўцы (іншых паводле** вядомых гістарычных абставін не маем) у большасці сваёй людзі, далёкія ад літаратуры і мастацтва, дык гэтую ролю згаджаюцца выконваць ці якія-небудзь асабістыя знаёмыя (кіраўнікі і акцыянеры або ўладальнікі буйных прадпрыемстваў, прэзідэнты кампаній, фірм, розных ААТ, ЗАТ, ТАА і г.д.), ці грамадскія арганізацыі (тутэйшыя і замежныя), ці замежныя дабрахоты і г.д. Тут найбольш выйграюць людзі — пры ўладзе, пры пасадзе, заангажаваныя ў розных мерапрыемствах, вандроўках і г.д.

Ажно, як сведчыць гісторыя, пасады і званні далёка не заўсёды спадарожнічалі таленту. І *ўменне прадпрымаць* не так часта супадала з *дарам ствараць*. І пыліцца-дымяцца ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" рукапісы — недасцейлівых, паводле слоўніка Ластоўскага, *непредприимчивых аўтараў.*

Вось ужо колькі год ляжыць падрыхтаваны да друку рукапіс кнігі Алены Васілевіч. Імя гэта вядомае нават кожнаму школьніку. Хрэстаматыйна вядомы аўтар. Лаўрэат, заслужаны дзеяч і г.д. Так, з яе выдадзеных кніг можна скласці неблагую бібліятэку. Але ж гэта — *новая* кніга. Як эмацыянальна сцвярджала пісьменніца — "Люблю, хвалююся — жыву". Можна было б дадаць — пішу. І храналагічныя повады для выдання тым часам здараліся... А рукапіс ляжыць...

Ляжаць рукапісы Алеся Асташонка, Вольгі Куртаніч... І г.д., І г.д. А колькі аўтараў, што маюць у сталах кнігі — і неблагія — аднак не нясуць нікуды: няма сэнсу.

Ва ўсім свеце так? Не зусім. Не буду гаварыць пра становішча з беларускай мовай, пра тое шмат гаворыцца (без аніякіх канкрэтных зрухаў) і ў межах гэтага допіса наўрад ці ёсць магчымасць дадаць нешта грунтоўнае. Пасля становішча з мовай прычынай незапатрабаванасці кнігі я паставіла б эканамічныя, сацыяльныя моманты. Людзі адукаваныя жывуць у большасці з заробкаў — мізэрных: урачы, настаўнікі, інжынеры... Мала хто са студэнтаў можа дазволіць сабе "раскошу": набыць кнігу. Патэнцыяльныя чытачы: бізнесоўцы, гандляры, банкаўскія супрацоўнікі — мала цікавяцца гэтай, для іх найперш — "прадукцыяй". Няма пісьменнай, не на балаганным узроўні, рэкламы. У тым ліку — на тэлебачанні і радыё. Няма інстытута літаратурных агентаў. Няма яшчэ шмат чаго. Пра тое крыху пазней.

А вяртаючыся да залежаў у "МЛ", дадам, што нейкія кнігі там усё ж выходзяць. У тым ліку і таленавітых аўтараў. І ў "Юнацтве" таксама. Ці палепшыцца становішча ад планувемага аб'яднання выдавецтваў — хто ведае.

Ну, і дзеля справядлівасці варта дадаць, што згаданыя і незгаданыя кнігі прыватных выдавецтваў выйшлі ў асноўным мізэрнымі тыражамі. А затое колькі "высокамаламастацкіх" твораў пабачылі свет, дзякуючы толькі хрумсткім паперчынам, ажно не таленту аўтараў!

Ажно ні адзін фонд дабрачынны не дапамог выдаць кнігу Святланы Марчанкі, рукапіс якой ужо дзесяць год недзе на паліцах той самай "Мастацкай літаратуры" займае месца! І дзесяць год, калі не больш, пісьменніца не выходзіць за сцены сваёй кватэры з-за хваробы. Састарэла кніга? Але ж нядаўна я пачула ад аднаго з самых актыўных і цікавых сённяшніх крытыкаў: пішучы пра Алеся Разанава, мусібыць выкарыстоўваць і спасылацца — менавіта на крытыка Марчанку.

Святлана Марчанка вядомая найперш як крытык. А крытык яна з тых, што аддадуць перавагу не фіміяму, а добрай порцыі перцу. Не яе вуснамі ды мёд піць. Ну, і што?

А кнігу, дарэчы, можна было б скласці размаітую: з яе крытычных прац, з яе вершаў для дзяцей, шаржаў, малюнкаў.

Увогуле ж крытыкі ў нас, скарыстаю эўфемізм — не ў пашане. "Крытыка — нахлебніца пры талентах", — абвяшчае неабвержна-катэгарычна празаік Георгій Марчук. Але ж *на той момант* гэты самы празаік — дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаартура". То такое выказванне гучыць ледзь не як забарона на прафесію...

Чытаем яшчэ: "Агульнавядома, што традыцыйныя літаратурна-крытычныя артыкулы часцей за ўсё складаюцца з трох частак: кароткі пераказ зместу рэцэнзуемага тэксту (45% аб'ёму), невялічкія заўвагі (5% аб'ёму), усхваленне геніяльнага твора геніяльнага аўтара (50% аб'ёму).

Нетрадыцыйныя (або, калі хочаце, апазіцыйна-традыцыйныя) літаратурна-крытычныя артыкулы, пісаць натуральна прасцей: кароткі з'едлівы пераказ зместу (15—25% аб'ёму), здзек з аўтара (75—85% аб'ёму).

Такі вось лічыльна-знішчальны вердыкт выносіць аўтар з маладзейшай генерацыі, з тых, хто упэўнены, што ўсё ў літаратуры і жыцці пачынаецца з іх, нават і летазлічэнне ідзе не ад нараджэння Хрыстова, а ад іх, так бы мовіць, эксклюзіўнага з'яўлення на свет. (Прозвішча неафіта згадваць не буду — сёння ён не ў фаворы афіцыйным, дык яшчэ абвінавацяць мяне ў пераследзе прагрэсіўнага таленту.)

Каго з крытыкаў, і беларускіх у прыватнасці, чытаў маладзён, не ведаю, хаця па сённяшнім часе гэта няпроста: кнігі не выходзяць, а паспрабуй — прасачы па перыёдыцы, але тым не менш... Ды і не сёння гэты жанр узнік. Не буду весці гаворку пра агульнавядомае. Што, як і ў кожным жанры, у крытыцы хапае ўсякага. Што ёсць эстэтычная проза, крытычная проза, ёсць крытыка аналітычная, тэарэтычная, публіцыстычная і г.д. Што такіх, да ўзору, крытыкаў, як Леў Анінскі, Сяргей Чупрынін, Уладзімір Калеснік або Ганна Кісліцына (можна доўга пералічаць), цікавей бывае чытаць, як тых, пра каго яны пішуць. Што, між іншым, у актыве гэтага жанру, такія імёны, як Гегель, Гердэр, Валеры, Мэцью Арнольд, Крочэ, Ортэга-і-Гасэт, Сартр, Антоніа Мачада, Барыс Пастарнак etc.

Дарэчы, "чыстых" крытыкаў мала. Можа, і сапраўды непатрэбны жанр? Да якога я маю гонар ці няшчасце пэўным чынам належыць. Але — тэлефануюць, пішуць, заказваюць. Агляд, прадмова, артыкул, рэцэнзіі, рэцэнзіі, рэцэнзіі... Найбольш — адмаўляюся. Ёсць неабходнасць прамовіць нешта ў іншых жанрах. Ёсць і яшчэ прычыны. Толькі лічу, што імкненне *мовіць слова пра некага: ад бескарыслівай радасці ад чужой удачы*, ад чуйнасці да чужога, ад разумення чужога — не такі ўжо крымінальны повад для допіса. А з'едлівы літаратурны фельетон? Выдатны жанр! Якія пёры вастрыліся на ім! Улас Дарашэвіч, напрыклад. Або Карней Чукоўскі (ранні). А яшчэ, крытычны допіс: *повад* да падключэння да пэўнага духоўнага поля, повад не ацаніць ствараннае некім, а "перажыць як духоўную рэальнасць" (Л. Анінскі) — вось у якім культуровым кантэксце, свядомасным мысліцца гэты жанр.

Повад для здзекліва-фанабэрлівага вяселля заўсёды можна знайсці, горш — калі такі "тытан думкі" вырашае: каго друкаваць, каго — не. Хто падыходзіць пад яго "працэнтацыю", а хто — хоць ты які найноўшы прыбор не *падключай*, колькі не "тэстыруй" — не паддаецца "стандарту". Такія "эталоны" ўжо спрабавалі ўводзіць — у не лепшыя часы суцэльных дырэктыў, інвектыў і пастаноў. Ды і крытыкі сёння найбольш ідуць — у навуку, у палітыку, у культуралогію, у філасофію, у драматургію, прозу... Затое... апошнім часам у наш СПБ (Саюз пісьменнікаў Беларусі) проста гуртам прымаюць. У тым ліку — у секцыю крытыкі. Найбольш — тых, ад каго ва ўсіх рэдакцыях адхрышчваліся ўсімі спосабамі. Можа, усё ж варта было стварыць якую секцыю для папулярызатараў, арганізатараў — людзі гэта актыўныя неверагодна. Але крытыка тут прычым? Нават паводле той шкалы каштоўнасцяў, якую дае той містэр Х.

Хаця — што такое сёння СПБ? І якім гэты саюз павінны быць? Пра гэта варта было даўно весці *дзелавую размову*. Не толькі на 13-м, а і на 12-м, на 11-м з'ездах. *Кардынальна змянілася сітуацыя ў краіне. Палітычная, эканамічная, светапоглядная. Іншы дзяржаўны лад.* Асновы ж, структура СПБ закладваліся пры іншым ладзе, у іншых умовах быцця, жыцця, гаспадарання. З іншымі магчымасцямі. Ну, а мы "живем, как при Екатерине, поклоны бьем и урожая ждем". Усё чуем: галоўнае — захаваць адзіны СПБ. 13-ты з'езд пракруціў хуценька за адзін дзень. Затое з дармавым харчам. Яно, можа, і не лішняе — які кавалак вяндліны не вельмі каб сытым пісьменнікам (нават калі друкуюць — ганарары мізэрныя і гады ў рады). Але ж куды як больш важна было паспрабаваць калі не вырашыць, дык хаця б абмеркаваць многія пытанні. Вось я чытаю — у Генадзя Бураўкіна, у Лідзіі Арабей — большасць пісьменнікаў маўчыць. *А дзе весці размовы*? На тым з'ездзе: адзін дзень — натуральна слова паспелі займець толькі тыя, каго незадоўга называлі наменклатурай. Ну, і знакамітыя — хто прысутнічаў. Увогуле, пры наяўнасці бясконцай колькасці выданняў, прамовіць *тое, што хацелася б*, не так проста. Паўсюдна — *свае* інтарэсы. *Свае* тусоўкі.

...Чалавек досыць наіўны і шараговы, я задавала пытанні (у кулуарах). Абазнаныя і дасведчаныя ў "таямніцах мадрыдскага двара" і ўсіх двароў увогуле, адказвалі мне, як дарослыя адказваюць дзецям: "Галоўнае — захаваць часопісы". Калі я пачынала гаварыць нешта пра вядомую птушку страўса, мне паўтаралі тое самае. Што з гэтага выйшла — усе ведаюць. А сола старшыні СП у пяці нумарах "ЛіМа" было толькі запозненай (хаця вельмі тэмпераментнай) спробай прамалёўваць абрысы, якія ўсім і даўно былі відавочныя. І пра тое варта было весці гаворку раней, а не тады, калі гром грымнуў.

Увогуле апошнім часам у СП недзе, нейк, нешта адбываецца: пасяджэнні Рады, пра якія большасць, шараговыя даведваюцца з паведамленняў у друку. А раней — пры Танку, Гілевічы, Шамякіне, Чыгрынаве — адбываліся пашыраныя сходы, сходкі — усе былі "ў курсе" падзей. (Не ўсё ж патрабуе абавязковага грашовага забеспячэння.) Сёння ўсё — таямніца за сямю пячаткамі. А дарэчы, раду на з'ездзе выбіралі як ніколі, пэўна, з часоў "адлігі". Спісам толькі некалькі кандыдатур прапанаваў "з месцаў".

Увогуле — СПБ заняты глабальнымі праблемамі.

Форумы, вандроўкі, сустрэчы, нібыта нічога і не адбываецца. Вандроўкі таксама без традыцыйных накірункаў. Раней, калі пісьменнік быў звязаны — біяграфічна, творча — з нейкім горадам, мясцовасцю, дык, напісаўшы кнігу пра сваю зямлю і землякоў, кнігу, якая мела б і вартыя ўвагі водгукі, меў спадзяванне — і не пустое — пры выпадку быць запрошаным да землякоў... Сёння — не. Гэта не прычына, не повад. Нават калі ад СП на яго радзіму хіба што толькі прыбіральшчыцы не ездзілі, столькі выпадкаў здаралася. (Кажу гэта не ад непавагі да названай прафесіі, а з прычыны творчай недатычнасці іх да таго лакалю.)

Мінулым годам напярэдадні з'езда сябры СПБ атрымалі анкетку: што выдалі? калі? Запоўнілі — даслалі на Фрунзе, 5. Маўчанне. СПБ не да таго? Але ж — у адных кнігі ўсё ж выходзяць. У другіх — не. А можа, у пару Інтэрнету вярнуцца да практыкі *папірусаў* і *манускрыптаў*? Дарэчы, ёсць выдавецтва Беллітфонду (старшыня той самы, што і ў СПБ) . Там выдаюць, зразумела, кнігі. Не буду затрымліваць увагі — чые і як. Аднак — там ёсць абсталяванне, начынне: камп'ютэры, ксераксы, сканеры і г.д. Чаму б не даць магчымасць па ільготным кошце скарыстаць гэта пісьменнікам? Нават ВНУ маюць такую практыку.

І яшчэ варыянт для тых, у каго няма надзеі на друкаваныя кнігі. Вось як хаты будавалі — самі. Так і тут. Набірае, фальцуе, брашуруе і г.д. — сам аўтар. Між іншым, і юрыдычныя моманты з рэалізацыяй кніг СП мог бы ўдакладніць — юрысты, здаецца, ёсць.

Кажу як асоба зацікаўленая. Мае рукапісы ў "МЛ" не ляжаць. Мела практыку. Тры гады пракачаўся рукапіс чарговай кнігі ў шуфлядзе, а калі я забірала яго (ухвалены, не забракаваны), дык з папкі выпала мая заява, так і не аддадзеная дырэктару... Потым тэрмінова рыхтавала варыянт кніг для рэдакцыі тэрміновых выданняў... Казка пра белага бычка... Выдала кнігу за свой кошт, у прыватным выдавецтве, пазычыўшы, а потым зарабіўшы грошы. (Тады я напісала раман — лёгкае "чытво", каб выдаць ксёнжачку ў 16 арк.) А сёння — маю 120 (!) аркушаў рассыпанага па перыядычных выданнях ці недрукаванага. Дзе я была раней? Прамовіць пра тое і так, як хацелася б, у прозе, напрыклад, стала магчымым толькі апошнія дзесяць—пятнаццаць год: былі "закрытыя" многія тэмы. Ну, і крытыка "набягала". Таксама іншыя магчымасці адчыніліся.

Вось пераглядаю прыдзірліва папкі. Нават калі вельмі старанна адабраць — дзве кнігі па 30 арк. Проза, крытыка, эсэістыка. У крытыцы пра што і пра каго толькі не пісала! І аб праблемах літаратуры і крытыкі, і пра "Белую Вежу" (Польшча), і пра "Тутэйшых"... Літаратурныя партрэты... Не хопіць месца пералічаць. Н. Арсеннева, Алесь Адамовіч. Вяч. Адамовіч, В. Бечык. Я. Брыль, Р. Барадулін, Б. Бур'ян, А. Васілевіч, А. Вярцінскі, Л. Галубовіч, Адам Глобус, Я. Запруднік, Л. Дранько-Майсюк, С. Дубавец, А. Дудараў, А. Жук, С. Законнікаў, В. Карамазаў, У. Караткевіч, У. Конан, В. Коўтун, Я. Лецка, А. Ліс, Х. Лялько, У. Някляеў, А. Пісьмянкоў, А. Разанаў, Л. Рублеўская, Я. Саламевіч, М. Сердзюкоў, М. Стральцоў, У. Сіўчыкаў, І. Чыгрынаў, Я. Чыквін, К. Шэрман... І г.д.

Што ж дадаваць імёны? Пісаць яшчэ рэцэнзіі, крытычныя эсэ? Ні да каго зароку, як Галубовіч: "апошняе", але імпэту не маю. Усё сплывае, як у пясок: няма кнігі.

Усё ж нешта пішу... Тое, што хачу сама. І спрабую падтрымліваць пэўны лад духоўнага быцця. Спадзяюся. Тое паняцце **— надзея — таксама дэвальвіруецца. Аднак — важны момант — для надзеі ўсё ж не патрэбны банкаўскі эквівалент. Як мовіў рымскі камедыёграф Тэрэнцый: "Я за надзею грошы не плачу".**

**Ала СЯМЁНАВА**

## “Пейзажы Марка Шагала”: зямля пад Віцебскім небам

**9 ліпеня ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстава “Пейзажы Марка Шагала”. У цырымоніі разам з іншымі афіцыйнымі асобамі браў удзел госць Беларусі Генеральны Дырэктар ЮНЕСКА спадар Коіціра Мацууры.**

Выставе папярэднічала прэс-канферэнцыя. Журналісты мелі магчымасць задаць пытанні першаму намесніку міністра культуры Беларусі Уладзіміру Рылатку, амбасадару Францыі ў нашай краіне Бернару Фарсье; галоўнаму ганароваму захавальніку спадчыны Шагала, былому дырэктару Нацыянальнага музея Шагала з Ніцы Сільві Фарасцье, менеджэру па карпаратыўных сувязях кампаніі British American Tobacco (партнёра Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі) Дзянісу Гурыновічу, дырэктару музея Шагала ў Віцебску Людміле Хмяльніцкай, даследчыку творчасці Шагала Алану Крамку (Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка), супрацоўнікам Нацыянальнага мастацкага музея Юрыю Піскуну і Тамары Карандашавай.

Журналістам паведамілі, што гэта ўжо трэцяя выстава твораў Марка Шагала на радзіме мастака. Першая сустрэча беларускай публікі з творамі вялікага земляка адбылася ў 1997 годзе. Тады ў Мінску і Віцебску былі прадстаўлены работы так званага “міжземнаморскага” перыяду — літаграфіі, гуашы са збору музея “Біблейскае пасланне Марка Шагала” ў Ніцы і калекцыі ўнукаў мастака. Поспех выставы паспрыяў таму, што ўнучкі мэтра Бела Мэйер і Мерэт Мэйер-Грабэр вырашылі пакінуць у Беларусі частку твораў дзеда, што належаць ім. Фінансавае забяспячэнне выстаў узяла на сябе Амбасада Францыі ў Беларусі. Другая выстава Шагала на радзіме — “Прысвячэнне Парыжу: эцюды, літаграфіі, габелены, эскізы роспісу плафона Гранд Опера.

І вось трэцяя выстава — “Пейзажы Марка Шагала”. З 10 ліпеня па 2 верасня ў Мінску. Пасля гэтага ў Віцебску — з 10 верасня па 20 кастрычніка.

Усяго на выставе 34 работы. Гэта хроніка вандровак мастака па свеце; хроніка ягонага жыцця ў краявідах. Лёзна, Віцебск, Шварцвальд, Ерусалім, выспа Парос, Парыж ды іншыя мясціны, куды яго прыводзіў лёс. Першая работа датаваная 1906-1907 гадамі, апошняя — 1969 годам. Беларускі глядач атрымаў унікальную магчымасць прасачыць эвалюцыю стылю Марка Шагала ад няпэўных вучнёўскіх работ (хоць пры жаданні і пэўным настроі і там можна ўбачыць парасткі геніяльнасці) да твораў, што выклікалі захапленне ў некалькіх пакаленняў вельмі дасведчаных у мастацтве людзей. Праўда, трэба сказаць, што колькі ні гартай альбом Шагала, колькі ні глядзі на арыгіналы — усё роўна рацыянальнага тлумачэння ягонай папулярнасці не знойдзеш.

Першае ўражанне ад ягоных твораў: мастак да скону так і не навучыўся, ці не захацеў навучыцца “правільна” маляваць. Насамрэч яму не было ў гэтым патрэбы, ды і крытэрыі накшталт “правільна-няправільна” для мастацтва не існуюць. З адрозненні ад другога генія мінулага стагоддзя — Пабла Пікаса, які на працягу жыцця столькі разоў мяняў стыль, што даследчыкі не паспявалі прыдумляць назвы для ягоных “перыядаў”, Марк Шагал усё жыццё быў адзін і той жа. Праз усё жыццё ён пранёс вобразы дзяцінства і найперш — вобраз высокага, бясконцага неба. Многім хацелася б адарвацца ад зямлі, ад побыту і праблем. А Марк Шагал хацеў узяць з сабою ў неба ўсё, што было яму дарагім на зямлі — лёзненскія і віцебскія краявіды, хаты і храмы, сваякоў і сяброў, выпадковых людзей. І каб разам з людзьмі насялялі неба сабакі і каровы, куры і коні.

Мабыць на Віцебшчыне неба бліжэй да зямлі чым ў іншых краях. Бо менавіта адсюль сягаў думкаю ў Космас Язэп Драздовіч, калі тут раскладаў Космас на супрэматычныя кампаненты Казімір Малевіч, калі Марк Шагал у Парыжы застаўся верным Віцебскаму небу.

Трэцяя выстава Шагала на радзіме — гэта яшчэ адзін крок у “легітымізацыі” мастака ў Беларусі. Адзначу, што ўсе тры выставы адбыліся ўжо пасля аднаўлення суверэнітэту краіны. Нашым, беларускім. Марк Шагал стаў толькі ў незалежнай Беларусі. Гэта лішні раз сведчыць, што толькі вольныя людзі маюць права на ўласную спадчыну. Пейзаж для Шагала не мае самастойнага значэння, як у мастакоў рэалістычнага напрамку. Для яго існавала карціна як цэльны арганізм, а пейзаж быў толькі адным з ягоных чыннікаў. Так што назва выставы адпавядае ні сутнасці, а фармальнаму зместу выставы. Але для гледачоў, прынамсі, для большасці з іх, важныя не самі краявіды, а тое, што яны належаць пэндзлю Марка Шагала.

Выставай у Нацыянальным мастацкім музеі распачалося святкаванне 115-годдзя з дня нараджэння Марка Шагала на радзіме творцы.

Пётра ВАСІЛЁЎСКІ

ПАЭЗІЯ

Леанід ЯЎМЕНАЎ



# Сябе шукаю ў перажытым...

ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

### Безадказнае

*Бы над лёсам*
*Скалечаным*
*Нейчым*
*Ці магільным капцом*
*У зіму, —*
*Што шуміш,*
*Што галосіш, адвечны,*
*Бору родны,*
*Бядуеш чаму?..*

*Мо таму,*
*Што магнат абруселы*
*Мову маці*
*Рабыняй зрабіў,*
*Ці што спрэс*
*Беларус анямелы*
*Сваю годнасць*
*Праеў і прапіў?..*

*Мо галосіш*
*Па даўняе долі,*
*Што калісь*
*Меў славуты народ,*
*Мо бядуеш*
*Па гордае волі*
*Распраданай*
*На Захад і Ўсход?..*

*Што шуміш,*
*Што галосіш, адвечны,*
*Бы над маці*
*На чорным крыжы,*
*Бы над лёсам*
*Скалечаным*
*Нейчым?..*
*Бору родны,*
*Даруй — адкажы...*

### Сябе шукаю ў перажытым

Максіму Танку

*Бы ручаіны ручаяцца мары...*
*У босае мінулае брыду...*
*Люляе сэрца, будзіць памяць Нарач*
*Прасветленасцю подумак і дум...*

*Яго гайдае вецер, як калыску,*
*Ды коціць хвалі, сонечныя сны...*
*Нібыта цёплаю цялячай пыскай,*
*Мне ў ногі тыкаюць яны.*

*Гуляе ветразь у смузе блакітнай —*
*Шукае нехта сонца, маладосць,*
*А я сябе шукаю ў перажытым —*
*Я ж тут ва ўсім,*
*На кожным кроку ёсць.*

*І ў тых начах, дзе, клічучы світанне,*
*Нібыта продкі на сваёй гульні,*
*Заўзята скачуць першабытны танец*
*Маіх далёкіх вогнішчаў агні.*

*І там, дзе ўранні, як нябёс трызненне, —*
*Кахання першы жыццядайны крык.*
*І там, дзе будзіць цяжкі сон сумлення*
*Магічных пеўняў першы пераклік.*

### Уначы — жураўліны плач

Барысу Сачанку

*Я з людзей тут, здаецца, адзін,*
*Толькі цемра курлыча ўгары —*
*Недзе там жураўліны клін,*
*Маёй восені позняй крык...*

*А ці ў мілай старонцы лясной*
*На сцяжынах маіх баравых*
*Мы сустрэнемся зноўку вясной,*
*Мо курлыкнеце мне, журавы?..*

*Ноч тугой спавіла бы няўзнач*
*Свет такі малады і стары:*
*Угары жураўліны плач —*
*Год маіх развітальны крык...*

### У іслацкай восені

*Стынуць у полі слупы,*
*Дрэмле аціхлая просінь.*
*Нехта — у лес па грыбы,*
*Я ж у яго — па восень.*

*Лёсу малоцяць цапы —*
*Ні паратунку, ні рады:*
*Нехта — у лес па грыбы,*
*Я ж у яго — па праўду.*

*Дзіва ўцікуе й сляпы —*
*Верасу жмурацца краскі:*
*Нехта — у лес па грыбы,*
*Я ж у яго — па казкі.*

*Лісцем стракатым, рабым*
*Вочы сцяжына цешыць:*
*Нехта — у лес па грыбы,*
*Я ж у яго — па вершы...*

### Я не жадаю іншай долі

*Амаль прайшоў*
*Адмеранае лёсам,*
*Глядзіць ужо мой век*
*У ціхі дол.*
*Хоць біла шмат жыццё:*
*Мне ўсё далося.*
*І я не крыўдзіў*
*Ні сірот, ні ўдоў.*

*Да скону*
*Буду нішчыць*
*Злосці путы*
*Ды цешыць*
*Добрай казкаю*
*Людзей...*
*Але чаму*
*Ня церпны боль пакуты*
*Мяне ўсё больш*
*Трывожыць і гняце?...*

*Удаль ізноў*
*Паклікалі дарогі —*
*Галосяць новы збор*
*З усіх бакоў:*
*А там паўсюль*
*Нязменныя трывогі,*
*Нягойны смутак*
*Па зямлі бацькоў.*

*А там наўсцяж*
*Па пуцявінах*
*Стромых*
*Чужой свабоды*
*І бяды палі:*
*Кароткія сцяжыны,*
*Што дадому,*
*Бясконцыя, як смерць, —*
*Чужой зямлі.*

*Набыўся ў адзіноце я*
*Даволі,*
*Свістала досыць*
*Ліха на гарбе...*
*Радзіма!*
*Не жадаю іншай долі,*
*Як жыць табой*
*І адысці ў цябе.*

*1991-2002*

Зоя КАЛКОЎСКАЯ

●

*Які халодны лёд,*
*якая цемра чорная,*
*які ліпучы мёд,*
*якая ласка горная.*
*Я падару вам цень,*
*загадку, погляд ласкавы...*
*А вы мне дайце дзень —*
*драбнюткі,*
*з зерне макава.*
*Які бясконцы скон,*
*якая далеч вабная...*
*Жыццё —*
*суцэльны стогн,*
*А смерць такая сквапная.*

●

*Страшна ісці над прорвай*
*хісткаю кладкай веры.*
*Хоць ад сябе не ўтойвай —*
*сам жа стварыў ты дзверы*
*і зачыніў каханне*
*ў змрочным,*
*сляпым скляпенні,*
*ключ жа назваў чаканнем*
*і пахаваў у цярпенні.*
*Шчасце ж тваё*
*жар-птушкай*
*ў небе мрояў лунае.*
*Колькі тугу ні гушкай —*
*ведай, што ўсё ж не яна я.*

●

*Зноў маладзік прысеў на дах,*
*і зноў гарою здаўся гмах,*
*зноў стала знічкаю акно,*
*як некалі... тады... даўно,*
*і ты каханне рыфмаваў*
*з расстаннем, весела спяваў...*
*Я зноў разгублена стаю,*
*хаваю згорбленасць сваю.*

●

*На асфальце ружа —*
*камячком адчаю.*
*Замятае сцюжа*
*сцяжыну да раю.*
*Хукаю на раны*
*і бінтую просінь —*
*рана яшчэ, рана,*
*яшчэ толькі восень.*

*пас. Першамайск, Уздзенскі раён*

●

*Азірніся,*
*спыніся,*
*пакліч,*
*запытайся аб шчасці і бедах.*
*Ты адчула душы маёй кліч.*
*За табою пакрочыў я следам.*
*Я пакрочыў насустрач агню.*
*Хай душа да цяпла прыхінецца.*
*Я парушыў тваю цішыню,*
*разарваўшы на частачкі сэрца.*
*Шлях твой светлы азорвае Зніч.*
*Прычаруй закаханым паглядам.*
*Дай мне кроплю салодкага яду.*
*Азірніся,*
*спыніся,*
*пакліч...*

Мікола ЛЯШЧУН

●

*Круціла стылая завея.*
*Дарогу снегам замяло.*
*Хаваць старую Пелагею*
*Прывезлі ў роднае сяло.*

*Каня спынілі на хвіліну*
*Сярод зачэзлага сяла.*
*Тут у шчаслівую часіну*
*Калісь нябожчыца жыла.*

*Капалі дол, як чужаніцы,*
*Вакол застыў нямы прастор,*
*Не галасілі маладзіцы,*
*Адно стагнаў радзімы бор.*

*Пустыя, цёмныя акенцы.*
*Жаўцеюць свежыя груды.*
*І едуць зноў перасяленцы*
*Дамоў, ды толькі на клады.*

### Рабінавая ноч

*Ноччу на пужлівую маланку*
*Сумнымі вачыма я гляджу.*
*Слухаю пяшчотна калыханку*
*Бліскавічна-зорнага дажджу.*

*З подыхам далёкай навальніцы*
*Мроіцца палеская зямля.*
*Стукаюць маленства аканіцы,*
*Будзяць успаміны спакваля.*

*Гулкія грамовыя раскаты*
*Джаляць неадступнаю тугой.*
*Край мой на крыжы распяты.*
*Я — яго замучаны ізгой.*

*Хоць ты захлыніся у адчаі,*
*Хоць ты дзікім голасам крычы,*
*Памяць мне у мроі зазірае*
*Позіркам рабінавай начы.*

*г. Лагойск*

ПРОЗА

Спачатку было кацяня.

Цікава, ці памесцілася б яно ў гэтай фарфоравай рыбіне з пазалочанымі плаўнікамі? Атласная шкурка кацяняці рупліва вылізана шурпатым Вумчыным языком. Я працягваю руку — Вумка лізнула і яе таксама. Кацяня слаба папісквае, торкаецца сляпой пыскай мне ў далонь, шчокі, вусны.

— Галька! Дзе ты падзелася, шалапутная?

Бабуля ўжо двойчы клікала мяне вячэраць і цяпер сама — патурбавана закудахталі куры на панадворку — ідзе да павеці, дзе Вумка гадуе сваё патомства. Нечакана для сябе кідаюся бегчы па тупкай сцежцы, прыціскаючы да грудзей цёплае, мяккае, пушыстае, міма градкі з агуркамі, міма жоўтых вяргіняў — у далёкі куток саду, дзе паміж прыбіральняй і штыкетнікам, які монстра Вялікай Кітайскай сцяной.

Сярод успамінаў дзяцінства — смурод ад вечна перапоўненых смеццеправодаў ды яшчэ — пясчаныя буры. Ці то слаўтыя блокі аказаліся няўдалым вынаходніцтвам, ці то пачварны той твор савецкай архітэктуры прывязаны быў да мясцовасці без уліку ружы вятроў, але жыхары "сцяны" ў любы час года пакутавалі ад скразнякоў. Кватэры прадзьмувала, як шпакоўні. У двары і пад аркамі свісталі неўтаймаваныя паветраныя патокі. Пясок рыпеў на зубах.

У чаканні лютай зімы цётка надумала пашыць сабе і мне трусіныя шапкі-вушанкі. Трусавод аказаўся аднаногім мужчынам сярэдняга ўзросту. Пустая калашына была запраўлена... куды? Я ўсё намагалася зазірнуць яму за спіну. Цётка доўга і прыдзірліва аглядала трусікаў за крацістымі дзверкамі клетак: уласныя "шасцёркі" ды "сямёркі", не надта й пагаворыш. Магчыма, з гэтай прычыны ніводзін з яе "браняносцаў" так і не прапанаваў цётцы пабрацца шлюбам. Праўда, у яе была іншая версія на гэты конт:

—Дарэмна цябе, б...ёныша, у дзіцячы дом не здала, жыла б зараз за палкоўнікам.

Зрэшты, у дзяцінстве я нават ганарылася яе ўменнем пераўвасабляцца, і мяне не на жарт засмучала немагчымасць гэтую другую, "падпольную" цётчыну асобу каму-небудзь прадэманстраваць: на людзях нават тэмбр ейнага голаса мяняўся, інтанацыі рабіліся прыкра-салодкімі, а лексікон — самым добрапрыстойным.

Страціўшы надзею выбіць з мяне прыкметы раскаяння, цётка загарнула цела труса ў газету і сышла. Памятаю, як толькі сцішыўся ўпэўнены грукат яе стратэгічным металам падкаваных боцікаў ( за яго выдаткавалі кругленькую суму на добраўпарадкаванне горада. А раз, фінансаванне "спушчана", дырэктар жылкамунгаса выдаў загад: адрамантаваць фасады дамоў на праспекце Дзяржынскага; выкласці цэнтр тратуарнай пліткай і, як слушна казаў той хлопец, пазбавіцца ад бадзяжных жывёлін, бо апошнім часам горад папраўдзе ператвараўся ў сабачы і каціны бамжатнік . Думалі, думалі разумныя галовы і дадумаліся: за сабаку, здадзенага ў спецпрыёмнік, выдаюць два кілаграмы цукру, за ката — адно кіло.

Я прымаю даведкі, вяду журнал уліку. Выдаю цукар за "братоў нашых меншых", здадзеных на скуралупню. Вольнага часу ў мяне шмат. Галава пустая. Думкі самі сабой коцяцца ў адпаведным накірунку. Вось і ўспомніла пра тое кацяня, пра труса. Пра ўсіх катоў і кошак, якім, свядома ці не, рабіла зло...

У мае юныя гады паўсюдна панаваў дух эксперыменту. Мы ўсур'ёз верылі, што гадоў праз дзесяць-пятнаццаць пасадзім бульбу на Месяцы. Не памятаю, ад каго я даведалася, што каты пры падзенні з вышыні прызямляюцца на чатыры лапы. А што, калі акурат ім давядзецца асвойваць касмічныя прасторы? Разам з Белкай і Стрэлкай? Вылятаючы з акна гарышча суседняй пяціпавярхоўкі ў "адкрыты космас" вуліцы імя 60-годдзя СССР, Мурзік ледзь не прыхапіў і мяне з сабой — так адчайна ягоныя кіпцюры ўчапіліся ў маю паркалёвую сукенку. Аб эксперыменце я паведаміла настаўніцы прыродазнаўства. Яна маю навуковую цікаўнасць ухваліла, але заўважыла, што пачынаць трэба з малой нагрузкі, павышаючы яе па меры росту трэніраванасці жывёлы. З гэтай прычыны Шэрку, кошку маёй вясковай цёткі Раісы, я змясціла ў экстрэмальныя ўмовы не адразу: дзеля трэніраванасці прымусіла ныраць разок-другі ў вялізную бочку, у якой трымалі ваду для паліўкі агарода, і толькі потым кінула з драўляных масткоў у рэчку: а раптам кратэры на Месяцы поўныя блакітнай вады, нібы вялізныя студні? Шэрка на імгненне знікла пад вадой, але хутка вынырнула і на дзіва зграбна паплыла — пад крыкі і рогат прыезджых хлопцаў, якія назіралі гэта з берага. І трэба ж! У аднаго з іх аказаўся фотаапарат. Чорна-белы здымак ён пазней падарыў мне. Звалі яго Генка Канашэвіч, і вучыліся мы, як высветлілася, у адной школе. Разам з расплывістым відарысам Шэркі ў маёй далоні аказаўся пакамячаны кавалак паперы. "Ты класная дифчёнка давай з табой хадзіть". Ох, і шанцавала ж мне на апаганшчыкаў роднай мовы...

Урэшце, "хадзіць" (г.зн. — сябраваць, сустракацца) мы з Генкай пачалі гады праз два. Праводзячы мяне неяк дадому пасля "скачак", ён узгадаў гісторыю нашага знаёмства і расказаў пра ўласныя вясковыя забавы. "Пацаны" прыкручвалі дротам ката ці кошку да рэйкі і чакалі цягніка. Уладкоўваліся непадалёку, пацягвалі віно, гулялі ў карты, назіраючы за ахвярай. Гэта было штосьці накшталт закладу: ці здолее кот вызваліцца ад дроту, адчуўшы грукат яшчэ нябачнага цягніка. Неверагодна, але некаторым з іх удавалася ўратавацца літаральна з-пад колаў; іншым, менш спрытным, адразала лапы, і перарэзвала папалам... Генка маляўніча распісваў падрабязнасці, пэўна, мяркуючы, што "класная дзеўка" не можа не прыйсці ў захапленне ад такой "клёвай забавы". Мяне ж ад гэтых адрэзаных лап і раструшчаных чарапоў цягнула "супраць ветра на тры метры", як казала нябожчыца-бабка. Але я рабіла выгляд, што проста "тарчу" ад Генкавай дасціпнасці. Ён быў старэйшы за мяне на два гады, да таго ж — мой першы хлопец. Усе дзеўкі люта зайздросцілі мне. Ды што значыла нават сотня замучаных катоў перад тым фактам, што мной, нарэшце, хтосьці зацікавіўся ўсур'ёз? Трэба адзначыць, што ў гэтым адзіным выпадку нашы з цёткай Лорай густы супадалі. Праўда, па розных прычынах. Генкаў бацька працаваў дырэктарам асфальтавага завода (таго самага, з-за якога наш дом знеслі), у іх была чатырохпакаёвая кватэра не ў Вялікай Кітайскай сцяне, шматтысячным камунальным клапоўніку, а ў шыкоўным цагляным доме з лоджыямі. Калі прыходзіў Генка, мядовы цётчын голас аж зацукроўваўся.

— І што толькі ў табе, дура недадзеланая, знайшоў хлопчык з прыстойнай сям'і? — здзіўлялася яна.

Прызнацца, для мяне гэта таксама было таямніцай.

Шлюбам мы з Генкай пабраліся адразу ж пасля таго, як мною быў атрыманы атэстат, даволі шэранькі. Тады я ўжо чакала дзіця.

●

Гэтай ноччу мне прыснілася Лінда. Ружовашчокі хлопец, ветліва ўсміхаючыся, валачэ яе на скуралупню, каб пачаставаць

Алена БРАВА

# Вялікая Кітайская сцяна

АПАВЯДАННЕ



***Сёння я рады прадставіць чытачам "ЛіМа" маю зямлячку — Алену Брава. Яна нарадзілася ў Барысаве, скончыла сярэднюю школу N 15, пасля — факультэт журналістыкі БДУ. Працуючы ў "раёнцы", я памятаў яе маладой практыканткай, якая эпізадычна з'яўлялася ў аддзеле і неўзабаве знікала. Алена вярнулася ў свой родны горад і зараз працуе ў той жа газеце. Піша вершы і прозу. Літаратар, які б ён ні быў, мусіць раскрывацца ў сваіх творах. Таму пра аўтара вы заўсёды можаце ўсё даведацца: хто ён, што мае за душой і чаго варты. Калі вы прачыталі аповесць "Бязлітасны мой воін" у N 9 часопіса "Крыніца" за 2001 год і нават гэтае невялікае апавяданне, то, магчыма, згодзіцеся са мной, што ў аўтара ўжо ёсць свой голас.***

**Юры СТАНКЕВІЧ**

аддзяляе нашу сядзібу ад тэрыторыі асфальтавага завода, месціцца будка нашага страшэнна дурнога Кабздоха.

"Сумесь бізона з рыбінзонам", — так вызначыла ягоную пароду бабуля (маючы на ўвазе, вядома ж, Рабінзона). І мянушка "Кабздох" — яе ж, бабчын, наватвор. Дарэчы, паміж мянушкай і няўдалай пародай — найшчыльнейшая сувязь. Быў, безумоўна быў сярод продкаў нашага сабакі ірландскі сэтэр; але, пэўна, гены пагоршыліся ў выніку мезальянсаў (проста бяда з гэтымі генамі! Прынамсі, цяпер на іх не толькі сабачую дурноту спісваюць), і Кабздох прыстасаваўся ўпалёўваць курanят, якія калі-нікалі аказваліся ля ягонай міскі. "А каб ты здох!" — бурчэла бабка, прыбіраючы чарговую паўзадушаную "дзічыну". У выніку, папершае, сабака займеў сваё імя, а па-другое, вакол жытла "супастата" была пастаўлена загародка, каб аніякая жыўнасць, уключаючы і мяне, пяцігадовую, да яго не наблізілася. Урэшце, самому кудлатаму злодзею ўсе тыя праклёны аніхоць не шкодзілі: мёртвая хватка ўсёедных яго сківіцаў была моцная, як браня танкаў на заводзе "абаронкі", дзе працавалі мой дзед і цётка Лора.

— Галя, спыніся!

Але бегаю я, вядома, хутчэй за бабулю. Вось і загародка. Кабздох пазірае на мяне запытальна. Адымаю ад грудзей цёплае, мяккае. Сабака неўцямна абнюхвае камячок, які пахне малаком, пераварочвае лапай. Астматычнае дыханне за спіною.

— Ой, людцы ж мае, дайце рады!

Бабуліны рукі трасуць мяне за плечы.

— Навошта ты гэта зрабіла, паскудніца?

Маўчу. Кабздох залізвае з пысы чырвонае, ліпкае. Навошта я гэта зрабіла? Проста было цікава...

Неўзабаве дом наш прызначылі да зносу (краіне патрабавалася шмат асфальту), і месца майго злачынства ператварылася ў раўнюткую пляцоўку пад корпусам новага цэха. Дзіўна, што асфальтавы каток выхавання не згладзіў з памяці той ранні ўчынак. Можа таму, што я не адчувала ні сораму, ні віны. Колькі разоў бабка сама ўпотай тапіла іх, яшчэ сляпых, у дашчатай прыбіральні. Я ўсё здзіўлялася — куды знікае Вумчына патомства. Падумаеш, кацяня!

Абедзвюм сем'ям, дзеду з бабкай і нам з цёткай Лорай, далі па асобнай аднапакаёўцы ў даўжэзнай дзевяціпавярховай будыніне з нейкіх там асабліных (эксперыментальных!) блокаў. Прыгадваю, як уразіла мяне пакручастая кішка больш чым дваццаці з лішкам пад'ездаў, што цягнулася ўздоўж шашы аж да самага лесу. Грандыёзны шэры гмах прыгнятаў сваёй пампезнасцю і брутальнасцю. Навасёлы адразу ж ахрысцілі

—Вось гэты... І той...

Звыклай хітрасцю я дабілася дазволу ўзяць дамоў аднаго з упадабаных ёю трусоў:

—Калі ласка, на тры дні, матулечка!

Цётка была вельмі задаволеная, калі я так называла яе пры людзях (без публікі хітрасць не спрацоўвала). Гэта дазваляла ёй, стомлена закаціўшы вочы, уразіць выпадкова субяседніка аповедам пра тое, як яна (пры ейнай "апчэственнай нагрузцы"!) самаахвярна сплачвае грамадству даўгі за гуляшчую малодшую сястру, якая "спарадзіла дзіця дый кінула", да таго ж — "вы паслухайце, якая разбэшчанасць!" — пасмела памерці дзесьці на Поўначы ад пазаматачнай цяжарнасці.

Труса пасялілі на балконе. Быў ён снежнабелы і борздзенька працаваў сківіцамі. Урэшце, карміць яго капустай з халадзільніка было нецікава, а трава вакол Вялікай Кітайскай сцяны не расла — адно пясок, барханы смецця ды перакаці-поле скамячанага дроту. Але не мне, а Ірцы Моніч з дваццатага пад'езда прыйшла ў галаву гэтая ідыёцкая думка: накарміць труса ягадкамі кізільніка, чэзлыя кусты якога аточвалі аазіс вінна-гарэлачнага магазіна. "Ах, не хочаш? Ну, заяц, пагадзі!" Заціснуўшы труса паміж каленямі, Ірка пхала і пхала шызыя ягады міма сціснутых сківіцаў у ружовыя прадаўгаватыя вушныя ракавіны...

Раніцай цётка Лора знайшла на балконе мёртвага труса. Снежна-белая шкурка, за якую яна ўжо заплаціла, была запэцканая. Спачатку цётка біла мяне, як звычайна, капронавай сеткай, а потым, раз'юшаная маўчаннем ("Хаця б слязінку выраніла, маць тваю так і разгэтак прахам ад хваста!"), калашмаціла ўжо тым, што пад руку траплялася. Нягледзячы на боль, я заўсёды захаплялася цётчыным "небачосавым" (па аналогіі з "трохпавярховым") матам. Дальбог, такіх вычварных моўных паскудстваў не ведалі нават славутыя шаўцы: наўмысна, з адной цікавасці, аціралася я чорнага ходу абутковай майстэрні, дзе ладзілі "перакур" рабацягі. Не і не! Куды тым шаўцам да Лоры Мінцюк, стаматолага-пратэзіста паліклінікі танкарамонтнага завода, члена каля дзесятка грамадскіх арганізацый— ад таварыства аховы помнікаў да аб'яднання аматараў вязання! Дзе і як авалодала яна вышэйшым пілатажам пахабшчыны? Гэтае пытанне, прынамсі, доўга не давала мне спакою. Гартала ўпотай старонкі ўлюбёнай цётчынай чытанкі — часопіса "Политическое самообразование" з трайным чырвоным профілем на вокладцы: ці няма там такога? Нічога падобнага не было. Не магла яна, пэўна, набрацца таго бруду і ад сваіх пацыентаў-танкарамонтнікаў: пакуль апранаюць у металічную браню тваё гаспадыня атрымала ў двары мянушку "партбілет на абцасах"), я кінулася на падлогу. Плакала ўголас, мармытала нейкія пагрозы, паўтараючы цётчыны мацюкі з п'янкою асалодай нянавісці...

●

Сёння зноў прыходзіў той хлопец. Падаў мне чарговую даведку са спецпрыёмніка — на тры кілаграмы цукру, якія я павінна выдаць яму за здадзеных ката і сабаку. Акуратна апрануты, ветлівы хлопец з ружовашчокім тварам. На фоне маіх звычайных кліентаў, бамжоў ды алканаўтаў, ён вылучаецца акурат сваёй прыстойнасцю.

— Як табе ўдаецца прывабіць сабаку ці ката? — не ўстрымалася, спытала я. За тры тыдні, што я працую тут, хлопец прыходзіў не менш чым пяць разоў. Сёння з ім — дзяўчына. Яна чакае на вуліцы. Я добра бачу ў вакно яе зграбную постаць у джынсах, што шчыльна абдымаюць сцёгны.

— Сакрэт фірмы, — усміхаецца хлопец. У яго прыгожая ўсмешка. Пэўна, дзяўчыне прыемна з ім цалавацца. — Ёсць ува мне штосьці такое, прыцягальнае...

— А навошта табе столькі цукру?

Хлопец прысвіствае, глядзіць на мяне здзіўлена.

— Гэта ж жывыя грошы, цёця! Я з бабуляй на "кропцы" дамовіўся — збываю ёй крыху танней, чым на базары. А што? — раптам пачынае ён абараняцца, хоць я, здаецца, на яго не "наязджаю", як кажа мой сын. — У нас вольнае грамадства, кожны зарабляе — як умее. Вашае ж начальства ў мясцовай газеце пісала: ачысцім горад ад бадзяжных жывёлін. Вось я і ачышчаю, грамадска-карысную працу раблю.

— Мо збіраеш на якую рэч?

— Ды не, што тыя дзве-тры тысячы... Вось з Танькай, — ён робіць ківок у бок акна, — у кафешку сцягаемся, бутэльку возьмем, яшчэ і на піражныя хопіць...

Ён, нарэшце, сыходзіць са сваім цукрам. Дзяўчына адразу ж бярэ яго пад руку. Яны весела шпацыруюць да аўтобуснага прыпынку. Школьнікі ці "пэтэвушнікі". Нармальныя маладыя людзі. Не хочуць прасіць у бацькоў на кішэнныя расходы.

У калідоры ўжо маячаць постаці двух чарговых кліентаў са сцёртымі прыкметамі полу. Міжволі лаўлю абрывак дыялогу:

—Ну і за што ты ім стучыш? — візглівы жаночы голас.

—За што, за што?! За шклянку! — раздражнёны мужчынскі.

Служба гэтая мне дасталася знянацку. З Месяца звалілася, як сказала спецыяліст цэнтра занятасці, дзе я, беспрацоўная, стаяла на ўліку. Калі быць дакладнай, дык не з Месяца, вядома, а з гарадской казны. Улады

(Заканчэнне на стар. 12)




## Мірскі замак — у сусветным спісе

**9 ліпеня Мірскі замак сустракаў ганаровых гасцей. Сюды прыехаў Генеральны Дырэктар ЮНЕСКА пан Каіціра Мацуура, каб уручыць пасведчанне аб уключэнні Мірскага замка ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны.**

**Замак у Міры можа па праве лічыцца візітоўкай беларускай зямлі. Яго называюць пярлінай айчыннага дойлідства. Яго нават параўноўваюць з легендарнай птушкай Фенікс, што, як і Беларусь, адраджаецца зноў і зноў. Мірскі замак сапраўды вылучаецца сярод сваіх суродзічаў. Гісторыкі даводзяць, што гэта ледзь не самы старадаўні і першы буйны помнік мураванага будаўніцтва. Акрамя таго, замак унікальны з пункту гледжання гарманічнага спалучэння стыляў. Спецыялісты адзначаюць, што тут цесна перапляліся рэнесанс, готыка і барока. Можа, таму, у адрозненне ад іншых замкаў, у Міры вока цешыць цеплыня і мастацкая аздоба.**

**Замак быў узведзены ў канцы 1503г. маршалкам ВКЛ, берасцейскім старастам і мецэнатам Юрыем Іллінічам. Потым на працягу стагоддзяў вежы замка бачылі князя Караля Станіслава Радзівіла, апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, якога прымаў Радзівіл у верасні 1785 г. Памятае Мір і 1794 год, калі рускае войска Суворава захапіла замак падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Не раз узрыгвалі вежы ў 1812 г. , калі тут адбыўся жорсткі бой войска Баграціёна з кавалерыяй маршала Даву. Гэтыя ж вежы калісьці натхнялі славутых мастакоў Беларусі Напалеона Орду і Фердынанда Рушчыца. Апошні уладар замка Святаполк-Мірскі пасадзіў тут разарый. Падарожнікі захапляліся цудоўным выглядам кветніка ў спалучэнні з напаўразбуранымі вежамі. Пасля вайны з 1947г. у замку жылі пагарэльцы.**

**Замак у Міры лічыцца самым "мірным": з ім не звязаны жудасныя гісторыі аб прывідах. Аднак легенды і амаль містычных адметных знакаў тут хапае. Напрыклад, легенду пра існаванне падземнай дарогі з Міра ў Нясвіж лічаць несур'езнай. Але таемны ход з замка ў горад, што знаходзіўся за ракой Міранкай, спецыялісты лічаць верагодным. Славіцца і склеп князёў Іллінічаў, на якім выкладзены мазаікай партрэт Ісуса Хрыста. Стагоддзі не кранулі гэтую ікону, і нават сёння яна зззяе фарбамі. Але яшчэ большая загадка, пакінутая старажытнымі майстрамі,— гэта вочы Хрыста. З якога боку ні паглядзіш на ікону, заўседы сустракаешся з яго дакорлівым позіркам. Ёсць тут і знакі, што засталіся яшчэ ад паганства. Напрыклад, каменная галава барана ў паўднёвай сцяне. Кажуць, што пакуль будзе некранутай гэта галава, будзе стаяць і сам замак.**

**Сёння ў замку працягваецца рэстаўрацыя. Ды і ўвесь Мір ахоплены будаўніцтвам, канчатковая мэта якога, — зрабіць тэрыторыю, прылягаючую да замка, адпаведнай еўрастандартам. Перабудоўваецца галоўная вуліца пасёлка, мяркуецца пабудаваць добры гатэль, кавярню, крамы. Сцежкі да замка выкладваюць пліткай і стылізуюць пад сярэднявечча. Такім жа чынам выкладзены і бераг возера каля замка. Над возерам будуць перакінуты тры масты, адзін з якіх ужо амаль завершаны. На возеры створаны штучны востраў, на якім у будучыні мяркуецца пабудаваць кавярню. Работы шмат, але пры існуючым тэмпе будаўнікі плануюць завершыць яе ў верасні гэтага года.**

**Падчас урачыстай цырымоніі Генеральны Дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацуура адзначыў, што на прыкладзе рэстаўрацыі Мірскага замка Беларусь паказала сваю зацікаўленасць у захаванні гэтага гістарычнага аб'екта, што не магло прайсці па-за ўвагай сусветнай арганізацыі. Генеральны Дырэктар таксама выказаў спадзяванне, што далучэнне Мірскага замка да спісу сусветнай культурнай спадчыны — гэта не заканчэнне працэсу, а пачатак , гэта новае жыццё, новая адказнасць. "Я веру, што Беларусь паспяхова справіцца з гэтай адказнасцю",— зазначыў Каіціра Мацуура. Пасля ўрачыстага ўручэння пасведчання і адкрыцця мемарыяльнай дошкі свята прадоўжыў канцэрт, у якім прынялі ўдзел ансамбль старажытнай музыкі "Гуды", рыцары ордэна Паўночнага храма і гурт "Цырнская музыкі".**

***Людміла ГУРМАН, студэнтка факультэта журналістыкі БДУ***

## Парад планет

ФЕСТЫВАЛІ

***На вечаровым небе яны з'яўляюцца з пэўнай перыядычнасцю, нібы па чарзе. Але зрэдку здараецца ў жыцці нябесных свяцілаў такі час, калі з любога пункту Зямлі можна ўбачыць адразу і Марс, і Меркурый, Сатурн, і Венеру, і Юпіцер... Парад планет! Як толькі выстроўваюцца яны ў адзін шэраг, астролагі папярэджваюць пра з'яўленне над намі нейкага нябеснага знаку. Сёлетні парад планет, які можна было назіраць з красавіка і амаль да канца мая, ніякага трывожнага знаку на сабе не нёс, бо лічыцца, паводле вызначэння вучоных, "размытым". Што гэта значыць? Што пяць буйных планет з'яўляліся на вечаровым небе хаця і аднач асова, ды ў розных задыякальных сузор'ях, не ўтвараючы адзіную лінію.***

***Спакойны, ясны небасхіл. Але паспрабуй ахапіць позіркам яго панараму з акцэнтамі яркіх планет і ціхіх сузор'яў!.. Дарэчы, аналагічна ўспрымаецца і ўяўны фестывальны небасхіл, на якім "адзначыліся" — ужо сёмы год запар — "Музы Нясвіжа".***

### ПЛАНЕТА НАВУКІ

Так або інакш, фестываль — гэта вандроўка: манатонны дарожны рух, палёт фантазіі, блуканне думкі ў лабірынтах уражанняў... Зрэшты, перапрашаю: для чалавека творчага дарога ніколі не бывае манатоннай, асабліва ў асяроддзі такіх, як сам.

Не паспелі ўладкавацца ў аўтобусе, а ўжо атрымалі занятак для роздуму: толькі-толькі выдадзены зборнік "Мастацкая культура Беларусі: новыя далягляды". У ім — тэзісы дакладаў, падрыхтаваных да навукова-практычнай канферэнцыі, што адбывацца падчас фестывалю "Музы Нясвіжа". У адрозненне ад мінулых фэстаў, зборнік тэзісаў выйшаў напярэдадні яго адкрыцця, а не праз год пасля: паклапаціўся рэктар Беларускага інстытута праблем культуры прафесар У. Скараходаў. Пад яго кіраўніцтвам і ладзілася канферэнцыя, на якой сам ён выступіў з дакладам "Рэгіянальная культурная палітыка Беларусі і працэсы глабалізацыі".

У згаданым зборніку — 20 публікацый: канцэнтраваны навукова-даследчыцкі, гістарычна-пазнаваўчы, палемічны матэрыял. "Мураванае храмабудаўніцтва беларускага барока" Т. Габрусь, "Эдвард Гірдо — нясвіжскі арганіст і кампазітар пачатку XX ст." С. Шэйпы, "Нататкі пра музыку" М. Кл. Агінскага" С. Немагай, "Ад мадэрнізму да дызайна: Казімір Малевіч у Беларусі" У. Конана, "Культура экалагічных паводзін і мыслення" А. Мікуліча...

Амаль трэцяя частка дакладаў, звязаных з беларускай даўнінай, з праблематыкай нацыянальнай культуры, была падрыхтавана па-руску, чым парушалася арганічнасць ідэйна-моўнага кантэксту канферэнцыі. Адметнасць жа ў яе атмасферу ўнесла прэзентацыя трох новых нацыянальных выданняў: 1-га тома серыі "Традыцыйная мастацкая культура Беларусі", прысвечанага Магілёўшчыне, кнігі Т. Габрусь пра барочную архітэктуру Беларусі ды зборніка санетаў У. Сыракомлі ў перакладзе У. Мархеля (ён, дарэчы, зрабіў даклад на тэму "Санеты Сыракомлі пра Нясвіж").

### ПЛАНЕТА РАДЗІВІЛАЎ

Яна, гэтая планета, — сам Нясвіж, памятныя старонкі гісторыі некаранаванай беларускай сталіцы. У які ўжо раз пагарталі мы іх, сёлета — разам з экскурсаводам. Пастаялі ля ацалелай вежы кляштара, у вітражах якой гуляла каляровымі шкельцамі сонейка. Завіталі да Слуцкай брамы. Наведаліся ў касцёл. Паслухалі вядомыя і не чуваныя раней бывальцы ды легенды пра найбольш адметныя пахаванні радзівілаўскага некропаля: "гарбатую" дамавіну, нібыта зробленую для паненкі, якая змерзла ў парку, не дачакаўшыся прызначанага спаткання з каханым; дамавіну ў форме бочачкі, дзе нібыта хавалі капсулу з жаночым сэрцам...

Затрымаліся ў замку. Ужо амаль год, як няма тут санаторыя. Усе яго супрацоўнікі працаўладкаваныя, медперсанал — адпаведна спецыяльнасцям. Знікла, па сутнасці абразлівая для нашай гістарычнай памяці, для культурнай свядомасці, шыльда: "міжкалгасздраўніца". Памяшканні ахоўваюцца, у зімовы час яны абаграваліся ацяпляльнымі батарэямі. Спакваля працягваюцца навукова-даследчыя, антыаварыйныя работы... А пад скляпеннем уваходнай брамы зляпілі гняздо ластаўкі: спрадвечная традыцыя!

Хвіліны нейкай дзіцячай радасці зведалі мы ад самой магчымасці вольна паблукаць па апусцелых апартаментах — з дазволу вартаўніка і пад каментарый гіда.

Вось яны, тыя выразныя, тыя розныя і тыя загадкавыя львіныя пысачкі на драўлянай аздобе каміна. Вось паўднёвы балкон з відам на "Зялёны тэатр". Вялізнае алейнае палатно пад столлю: не пабляклі фарбы, ды засталіся сляды куляў, "з дапамогай" якіх карціну спрабавалі калісьці зняць чарговыя новыя гаспадары жыцця. Вось танцавальная зала, падлога ў якой рабілася "з прыколам": у некаторых кропках яна ад заўзятага руху мякка прагінаецца, нібы зямля плыве пад нагамі, што падчас танца выклікае нечаканыя адчуванні. (Мы з калегай, добра паскакаўшы, знайшлі тыя кропкі: непаўторная ілюзія паветранай ямы, як у хуткасным ліфце, імклівым аўто ці нават у самалёце — адным словам, кайф!)

Аднак балюча было глядзець, як з-пад фрагментарна знятых шпалераў, драўляных панеляў ці тынку агаляецца старое хворае "цела" будыніны. Павуцінне дробных расколінак, спарахнелыя лапікі сцен замка... Нема крычыць ён пра ратунак. Цяжка навят уявіць кошт "рэанімацыйных дзеянняў", а затым — рэстаўрацыі. Яшчэ цяжэй уявіць крыніцу фінансавання, тым болей, што замак "перададзены на баланс" Міністэрству культуры, якому даводзіцца балансаваць на мяжы часовай адсутнасці грошай і татальнай нішчымніцы. А час ідзе, свідруе-бурыць камяні ды раскідвае іх...

### ПЛАНЕТА КВЕТАК

Штосьці зрушылася ў сёлетнім кветкавым гадзінніку. Калі такое было, каб аднача сова квітнелі — ды яшчэ ў сярэдзіне траўня — бэз, півоні, каштаны, ландышы, а бульба ды язмін спелілі бутоны, нібы навыперадкі! Сярод зёлак і кветак блукала новая нясвіжская знаёмая — котачка Чыта, загадкавая "іншапланецянка" з даверлівымі спакойнымі вачамі колеру майскай лістоты. Ах, гэты зялёны — колер жыцця, абнаўлення, надзеі ды пастаянства! Кожную вясну зноў з'яўляецца зеляніна: тая ды не тая, ці то абуджаная пасля доўгага сну, ці то нованароджаная... Заўважалі? Знаёмыя твары старэюць; блякнуць уражанні, надакучлівыя ў сваім падабенстве; сціраецца нават вулічны брук. І толькі ў зялёным убранні прыроды цудоўным чынам спалучаюцца мудрасць і свежасць, непаўторнасць. Сярод мноства лісткоў не знойдзеш і двух аднолькавых, як і сярод вёснаў, наканаваных сустрэць чалавеку за адно зямное жыццё.

А мастацтва? Яно, як і вясна, сілкуецца абнаўленнем. Яно — вечнае, у параўнанні з кароткім жыццём. І глеба яго традыцый, і магутная крона яго гісторыі, як прырода штовесну, радуе ды здзіўляе новымі кветкамі, свежымі атожылкамі. "Музы Нясвіжа" таксама сабралі свежае суквецце талентаў!

У раённым цэнтры культуры і адпачынку экспанаваліся работы выхаванцаў дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода (кіраўнік С. Купрыянава). Выстаўка прысвячалася юбілеям Янкі Купалы ды Якуба Коласа, прадставіла ўдумлівы і разнявольны, па-сапраўднаму творчы позірк юных мастакоў на постаці літаратурных класікаў, на іх жыццё і стасункі з навакольным светам. А побач былі размешчаны прывезеныя на фестываль пейзажныя акварэлі выдатнага майстра Г. Паплаўскага — таксама "вобразы мілыя, вобразы смутныя..."

**Маладыя імёны аздабляюць-расквечваюць адну з найбольш моцных галін беларускага музычнага мастацтва — інструментальнае выканальніцтва.** Упрыгожылі сёлетнюю фестывальную праграму стыпендыяты Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Гэта лаўрэаты міжнародных конкурсаў піяніст Аляксандр Музыкантаў, цымбаліст Міхась Лявончык, скрыпач Арцём Шышкоў, баяніст Уладзіслаў Плігаўка ды саксафаніст Раман Шыманец, дарэчы, "адкрыты" заўсёднікамі нясвіжскіх імпрэзаў некалькі гадоў таму...

Выступленне выканаўцаў сапраўды міжнароднага ўзроўню — падзея незабыўная. Незабыўным для Нясвіжа мог стацца і канцэрт з удзелам беларускіх кампазітараў, найбольш актыўных у творчасці. Так ужо было аднойчы, калі ў мясцовай музычнай школе прайшла сустрэча з прафесарам Д. Смольскім і колішнімі яго студэнтамі, чые творы прагучалі ў фестывальным канцэрце. Кампазітары, у набытку якіх ёсць старонкі, натхнёныя вобразамі Нясвіжа ці проста сугучныя эстэтыцы беларускай музычнай спадчыны мінулых стагоддзяў, рыхтаваліся да свята і сёлета. Марылі пра сустрэчу са старасвецкім горадам і яго далікатнай публікай. Аднак...

Ажыццяўленню трапятлівай мары і высакароднай асветніцкай акцыі перашкодзілі фінансавыя праблемы. Цяпер у кампазітарскім асяроддзі блукае показка пра тое, як найбольш рызыкоўныя калегі шукалі "бясплатных" выканаўцаў для сваіх твораў, як музыка шаноўных, вядомых на міжнародным узроўні В. Кузняцова, У. Каральчука, Д. Лыбіна была без належнай "раскруткі" ўключана ў канцэрт юных талентаў і таму адпаведна ўспрынята — ледзьве не як творчасць пачаткоўцаў...

### ПЛАНЕТА МАЛЕНЬКАГА ПРЫНЦА

У Маленькага прынца была свая маленькая планета з адной-адзінай кветкай. Але быў у яго і немалы досвед касмічнага падарожніка. Досвед Маленькага прынца пабагацеў ад яго няўгледнай прысутнасці на планеце, якую апякаюць нясвіжскія музы і на якой столькі розных кветак...

Фрагменты з балета Я. Глебава "Маленькі прынц" гучалі ў першым фестывальным канцэрце, надаючы рэтраспектыве музычных вобразаў дух нейкай фантастычнай касмічнай вандроўкі. Пачатак гэтага ўяўнага палёту абвясцілі трубачы "Інтрады", іх падхапілі флейты — ансамбль "Сірынкс", затым далучыліся музыканты Актэта драўляных духавых, і зноў загучалі фанфары "Інтрады"... Калейдаскоп аднойленых старонак беларускай музычнай спадчыны; папулярны Паланез М. Кл. Агінскага ў выкананні Камернага аркестра пад кіраўніцтвам В. Сарокі ды сямі выкшталцоных танцорак з "Чараўніц" (мастацкі кіраўнік Р. Красоўская), кароткая афіцыйная цырымонія — такое было адкрыццё VII Беларускага фестывалю "Музы Нясвіжа".

А далей — прэм'ера праграмы, якая ўшанавала талент кампазітара, чыё зямное жыццё завяршылася на мяжы двух эпох, чыё імя сталася яркім знакам беларускай музычнай творчасці мінулага стагоддзя і пачатку стагоддзя новага. Яўген Глебаў... Незабыты. Незабыўны.

На Радаўніцу БТ паказала фільм-успамін пра яго — "Майстар". Вось і яшчэ ўспамін — музычны. "Фантастычныя танцы", напісаныя для фартэпіяна і ў аркестравым пераладжэнні А. Шпянёва пераўтвораныя ў танцы сімфанічныя, насычаныя драматызмам, глыбокай лірыкай і мудрым жыццялюбствам. Камерная "Балада", зноў жа, у аранжыроўцы А. Шпянёва, — "перачытаная" ў ранікнёнай сольнай партыі скрыпкі (С. Іванюковіч) разам з аркестрам. Апрацаваныя Г. Гедыльтарам для розных духавых ансамбляў жорсткая "Хірасіма", сонечная дасціпная "Фландрыя" (з балета "Цыль Уленшпігель"), каларытныя беларускія сувеніры — "Дудары" і "Танец" з "Палескай сюіты" (вытокі якой у паэме Якуба Коласа "Сымон-музыка").

У зале прысутнічала Л. Глебава. Калісьці, гадоў 30 таму, яна таксама прыязджала ў Нясвіж. Разам з мужам, які заканчваў тут партытуру балета "Выбранніца", створанага паводле Купалавых паэм...

### ПЛАНЕТА ЛЮДЗЕЙ...

З Нясвіжам спакроўлены лёс многіх адметных асоб: музыкаў, асветнікаў, мастакоў, рыцараў роднага слова. Праз нясвіжскія землі пралягалі жыццёвыя шляхі Янкі Купалы, Якуба Коласа (ён і вучыўся тут у настаўніцкай семінарыі)... Паказ Купалавай "Паўлінкі" (у пастаноўцы купалаўскага тэатра, з музыкай, напісанай калісьці да яе Я. Цікоцкім) стаўся уверцюрай да сёлетняга фестывалю. Арганізатары прысвяцілі яго юбілеям нашых песняроў.

**Каб свята атрымалася годнае, вартае і сваёй высакароднай назвы і юбілейнага прысвячэння, спатрэбіўся чынны ўдзел і падтрымка ўсяго насельніцтва фестывальнай**

планеты. Яе апекавалі Міністэрства культуры, Мінскі аблвыканкам, Нясвіжскі райвыканкам, Беларускі інстытут праблем культуры і, вядома ж, Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі. Фестываль — гэта планета Людзей, а людзі — гэта імёны. Сярод іх — віцэ-прэм'ер У. Дражын, сааўтар ідэі "Музаў Нясвіжа". І першы намеснік старшыні Мінаблвыканкама Л. Крупец, старшыня аргкамітэта фестывалю. І працавітыя музыканты вялікага калектыву на чале з маэстра М. Фінбергам, лідэрам фестывальнага руху ў нашай краіне, знаныя педагогі, кіраўнікі камерных ансамбляў і аркестра — Н. Аўраменка, М. Волкаў, Б. Нічкоў, Г. Гедыльтар, В. Сарока.

І "госці" праграмы: "Ігуменскія крыніцы", народная інструментальная капэла выкладчыкаў Чэрвеньскай дзіцячай школы мастацтваў пад кіраўніцтвам Г. Шпакоўскага; капэла "Sonorus" на чале з А. Шутам; Дзяржаўны камерны хор Беларусі пад кіраўніцтвам Н. Міхайлавай... І музыказнаўца В. Дадзіёмава, якая з году ў год суправаджае нясвіжскія канцэрты папулярным асветніцкім каментарыем. І — чуйная ды адукаваная нясвіжская публіка.

### ...І НАДЗЕЙ

Нядаўна В. Дадзіёмава падзялілася ўражаннямі пра музычны фэст, які сёлета ўпершыню прайшоў у Мсціславе. Было гэта праз тыдзень пасля вандроўкі музыкаў у Нясвіж. Але праграма, да гонару арганізатараў новага свята камернай музыкі, была цалкам арыгінальная і звязаная з гісторыяй менавіта гэтага старажытнага мястэчка на Магілёўшчыне.

Са Мсціславам звязаны адметны перыяд педагагічнай і творчай дзейнасці класіка беларускай музыкі XX стагоддзя — Мікалая Чуркіна. Ды вось парадокс: яго творы не гучалі тут без малога паўвека! Музыка М. Чуркіна ўвогуле апошнім часам знікла з рэпертуарнага актыву выканаўцаў. Але дзякуючы ініцыятыве М. Фінберга, які асабіста заняўся зборам ужо забытых, а таму й невядомых, нот, гэтая музыка перажыла другое нараджэнне. І набыла свежае дыханне ў аранжыроўках А. Шпянёва, Г. Гедыльтара, Л. Ласоцкай.

Фестываль "Мсціслаў-2002" прысвячаўся асобе М. Чуркіна. Канцэртам папярэднічала сціплая, але змястоўная тэарэтычная канферэнцыя, дзе асаблівую цікавасць выклікала выступленне А. Чуркінай — праўнучкі кампазітара. Яна пазнаёміла з вынікамі сваіх архіўных пошукаў, раскрыла багацце чалавечай натуры знанага творцы, дапамагла падрыхтаваць экспазіцыю гістарычных фотаздымкаў.

У канцэртах (яны, на думку В. Дадзіёмавай, вызначаліся надзвычай высокім узроўнем выканання, мастацкасцю, асаблівым натхненнем), апроч камерных калектываў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, удзельнічалі майстры розных музычных жанраў. Сярод іх — Аркестр народных інструментаў Магілёўскай абласной філармоніі на чале з вядомым дырыжорам і педагогам Л. Івановым, Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы пад кіраўніцтвам Л. Яфімавай.

Вось такім чынам у кругабегу не надта радаснай будзёншчыны з'явіліся яшчэ два святочныя для беларускай музыкі дні. Давайце спадзявацца, што замацуюцца яны ў календары. Што высакародная ініцыятыва Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі — улучыць у годнае музычнае жыццё несталічныя гарады і мястэчкі — будзе мець плённы працяг. Заслаўе — Нясвіж — Мсціслаў... А ў перспектыве — уся Беларусь. Нашы старадаўнія мясціны, дзе далёка не ўсё трэба пачынаць з нуля, варта толькі звярнуцца да гісторыі — каб успомніць...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

***Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ***









ВЫСТАВЫ

# Еўфрасіння — асветніца, педагог, фундатар...

***У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук арганізавана выстава, якая прысвечана жыццю і дзейнасці адной з першых прызнаных усходнеславянскіх святых жанчын, фундатаркі, падзвіжніцы кніжнай справы, асветніцы і педагога — полацкай князёўны-ігуменні Еўфрасінні.***

Гісторыкі звязваюць з ёй полацкае летапісанне і збіранне бібліятэкі Сафійскага сабора. Еўфрасіння не толькі сама перапісвала і перакладала з іншых моваў кнігі, але і арганізавала скрыпторый, дзе наёмныя пісцы размнажалі тыя кнігі, якія яна лічыла неабходным перапісаць. Дарэчы, перапісваннем кніг у тыя часы займаліся толькі мужчыны, таму што гэта лічылася вельмі цяжкай і складанай справай.

Заснаваўшы ў Полацку два манастыры, князёўна-ігумення клапацілася, каб вучні манастырскіх школ разам з граматаю навучаліся "чысціні душэўнай". Яна стала нашай першай мецэнаткай. Па заказе Еўфрасінні дойлід Іаан пабудаваў царкву Спаса, якая лічыцца дасканалым узорам Полацкай архітэктурнай школы. Каб аздобіць полацкія храмы абразамі, Еўфрасіння арганізавала іканапісную майстэрню, спрыяла стварэнню унікальных фрэскавых размалёвак Спасаўскага храма. Асобнае месца ў храме было адведзена для знакамітага напрастольнага крыжа, які Еўфрасіння заказала лепшаму ювеліру Кіеўскай Русі Лазару Богшу.

Вялікім быў уплыў ігуменні на знешнюю і ўнутраную палітыку Полацка. Яна выступала супраць княскіх усобіц, папярэджвала, што міжусобныя і братазабойныя войны могуць прывесці Бацькаўшчыну да гібелі.

Еўфрасіння Полацкая стала адной з першых кананізаваных жанчын на ўсходнеславянскіх землях. Зразумела, што ў перыяд панавання "ваяўнічага атэізму" дзейнасць святой або замоўчвалася, або малявалася ў скажоным святле.

Пачынаецца выстава з паказу радаводаў полацкіх князёў, складаных Вячаславам Насевічам і Эдуардам Загарулькам. Далей — некалькі прац, прысвечаных дзеду Еўфрасінні, полацкаму князю Усяславу, які быў, па сутнасці, заснавальнікам беларускай дзяржаўнасці. Гэта артыкул гісторыка і педагога, выкладчыка Віцебскага настаўніцкага інстытута Дзмітрыя Леанардава "Полацкі князь Усяслаў і яго час", надрукаваны ў часопісе "Полоцко-Витебская старина" (1912—1916), і кніга Сяргея Сахарава "Полацкі князь Усяслаў — беларускі нацыянальны асілак" (1939).

Амаль 900 год прайшло з таго часу, калі жыла наша знакамітая суайчынніца. Не дзіва, што гісторыя захавала пра яе няшмат. Асноўная крыніца біяграфічных звестак пра асветніцу — яе жыццяпіс, складзены ў канцы XII стагоддзя невядомым аўтарам. Ім мог быць манах або ігумен аднаго з полацкіх манастыроў. А можа, быў яе вучнем і таму так падрабязна расказаў, што маці-ігумення часта сама вяла ўрокі ў манастырскіх школах і вучыла "Хадзе рахманай, голасу ціхмянаму, слову дабрачыннаму, ядзенню і піццю маўклівому; пры старэйшых маўчаць, мудрых слухаць; да старэйшых — пакоры, да родных і меншых — любові некрывадушнай; мала казаць, а болей разумець".

"Жыццяпіс Еўфрасінні Полацкай" дайшоў да нас у шасці рэдакцыях больш за сотню спісаў. Некалькі такіх спісаў захоўваецца ў Бібліятэцы Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбургу. У фондах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі ёсць некалькі друкаваных варыянтаў "Жыццяпісу" больш позняга часу. Сярод іх — выданне пад рэдакцыяй вядомага беларускага гісторыка Аляксея Сапунова. Аўтар твораў па гісторыі і этнаграфіі Віцебшчыны, удзельнік стварэння Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. На другім асобніку гэтага ж выдання — рукапісныя заўвагі А. Сапунова адносна надпісаў на крыжы Еўфрасінні Полацкай.

У 1895 годзе ў Віцебску быў надрукаваны гістарычны эскіз беларускага гісторыка, археографа, былога супрацоўніка Інбелкульта і дырэктара бібліятэкі АН БССР Дзмітрыя Даўгялы, прысвечаны лёсу крыжа Еўфрасінні ад часу яго ўтварэння да XIX стагоддзя. Пра далейшы лёс крыжа расказваецца ў больш позніх выданнях. Ён знік у XX стагоддзі. Адысея крыжа ў гады савецкай улады носіць у нейкай ступені прыгодніцкі, нават дэтэктыўны, характар, бо пакуль што не ўстаноўлена, хто выкраў крыж Еўфрасінні Полацкай і дзе можа знаходзіцца шэдэўр старажытнабеларускага ювелірнага мастацтва.

Выстава знаёміць таксама з паэтычнымі і музычнымі творамі, прысвечанымі знакамітай палачанцы.

**Аліна ЧАРНЯЕВА,**
**галоўны бібліятэкар**
**аддзела рэдкіх**
**кніг і рукапісаў**
**ЦНБ НАН Беларусі**







# Чалавек шчырай душы

Дом Пятра Мікалаевіча Марціноўскага ў Дзярэчыне, што на Зэльвеншчыне, прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі жартоўна называюць домам літаратараў. Калі б не прыехаў у старажытны Дзярэчын — ноччу ці днём, у святы ці ў гарачы будзень — з усмешкаю і з бацькоўскай цеплынёй Пятро Мікалаевіч заўсёды запросіць у сваю светлую і прасторную хату. І не проста запросіць, а смачна пачастуе кумпячком ці вэнджанай каўбаскай і абавязкова налье самаробнага вінаграднага віна, якому мы далі назву "Marcini" (ад слова Марціноўскі). І за гэтым частаваннем гадзінамі, а то і суткамі льецца гутарка пра лёс роднай мовы, пра літаратуру, гісторыю і пра Беларусь наогул.

Пра свае сустрэчы, знаёмствы і гутаркі Пётр Мікалаевіч плануе напісаць і выдаць некалькі кніг. Верыцца, што яму гэта ўдасца, нягледзячы на свой сталы ўзрост — 27 чэрвеня педагогу, краязнаўцу і літаратуразнаўцу Пятру Марціноўскаму споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння.

Сам Пятро Мікалаевіч родам з вёскі Катчыно Мастоўскага раёна, хаця большая палова жыцця пражыта ў Дзярэчыне — у малым Версалі, як назваў гэту вёску некалі беларускі эмігрант Ян Пятроўскі. Бацькі яго былі звычайныя сяляне. Маці непісьменная, а бацька — самым адукаваным чалавекам на вёсцы. Ён меў прыгожы почырк, пісаў і ведаў добра беларускую, рускую і польскую мовы. А яшчэ Мікола Марціновіч быў майстрам на ўсе рукі, але найперш вясковым рацыяналізатарам. Сам зрабіў тры веялкі (у нас называюць іх архі) для ачысткі насення ад мякіны пасля абмалоту. Змайстраваў станок для вырабу прасянай крупы і шмат чаго іншага. "А яшчэ мой бацька, — успамінае Пятро Марціноўскі, — пастаянна выпісваў газеты і часопісы. У нашым доме збіраліся вяскоўцы, дзе за керасінавай лямпай бацька чытаў усім пра тое, што адбывалася ў свеце. А мы з братам, седзячы за сталом, рыхтавалі ўрокі. Я быў вельмі задаволены, калі чытаць газеты даваралі і мне. Гэта было ў канцы саракавых гадоў...".

У 1944 годзе Пётр Марціноўскі паступіў у пяты клас Дзярэчынскай сярэдняй школы. Пачаў пісаць замалёўкі, вершы, інфармацыі ў Зэльвенскую раённую газету. У школьныя гады захапляўся яшчэ музыкаю. Іграў нядрэнна на мандаліне. Нават марыў з адною дзяўчынкай паступаць у кансерваторыю. І цяпер Пятро Мікалаевіч паэзію і музыку любіць аднолькава. "Яны неяк узвышаюць чалавека духоўна, робяць яго міласэрным, гуманным і лепшым", — кажа мой зямляк.

Пасля службы ў войску, Пятро Марціноўскі вярнуўся на радзіму і пачаў працаваць настаўнікам у Дзярэчынскай сярэдняй школе. Работу ў школе сумяшчаў з завочнай вучобаю ў Гродзенскім педінстытуце. А з 1969 года і да пенсіі працаваў у гэтай школе намеснікам дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце. Аб стылі работы і аб метадах навучання ў Дзярэчынскай СШ напісаў і выдаў брашуру "У нагу з часам" (1989). Першыя селькораўскія карэспандэнцыі Пятра Марціноўскага былі надрукаваны ў пачатку 50-х гадоў у Зэльвенскай раённай газеце. Пасля матэрыялы на самыя розныя тэмы з'яўляліся на старонках газет "Звязда", "Гродзенская праўда", "Літаратура і мастацтва", "Наша слова" і ў многіх іншых рэспубліканскіх выданнях.

Самымі светлымі старонкамі ў жыцці Пятра Марціноўскага былі сустрэчы і шчырае сяброўства з беларускай паэткай Ларысай Геніюш.З ёю ён пазнаёміўся ў канцы 50-х гадоў, пасля таго, як паэтка была рэабілітавана і вярнулася ў 1956 гозе ў Зэльву.Дарэчы, да друку рыхтуецца кніга ўспамінаў "Наша Лорка" Пятра Марціноўскага, якая сёлета павінна ўбачыць свет.

На працягу вось ужо 25 гадоў Пётр Марціноўскі кіруе зэльвенскім раённым літаб'яднаннем "Зоры над Зяльвянкай". Сам рыхтуе іх вершы да друку, наладжвае літаратурныя сустрэчы, вечары. Па запрашэнні літаб'яднання на Зэльвеншчыне пабывалі пісьменнікі Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Алег Лойка, Алесь Асіпенка, Мікола Гроднеў, Данута Бічэль, Юрка Голуб, Міхась Скобла, Уладзімір Мазго... Усіх і не пералічыць. А калі надаецца вольны час — Пятро Мікалаевіч едзе ў Мінск, Гародню, каб прыняць удзел у рэспубліканскіх і абласных літаратурна-мастацкіх мерапрыемствах. Ён быў дэлегатам Першага і Другога з'ездаў таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны...

Пра шчырай душы чалавека Пятра Мікалаевіча Марціноўскага можна расказваць шмат. І хоць жыве ён у глыбінцы, але не старэе душою, не застаецца ўбаку ад тых падзей, якія адбываюцца ў нашым паўсядзённым жыцці. Педагогіка і літаратура ўсё жыццё крочыць з ім побач. З юбілеем вас, Пятро Мікалаевіч!

Сяргей ЧЫГРЫН

## ВІНШУЕМ!

**17 ліпеня ў Любові Трубіной свята – невялічкі юбілей. Віншуем нашу даўнюю аўтарку і жадаем ёй і надалей добрага творчага настрою і плёну.**

Любоў ТУРБІНА

●

*То не стома,*
*гэта проста сталасць:*
*Адыходзяць страсці,*
*зайздрасць, злосць.*
*Як хацелася, так, зрэшты, стала,*
*Больш ці менш, але, як дар, прыйшло.*

*Свет паўстаў,*
*ясней, чым ззянне росаў,*
*Як пяшчота — звера і людзей...*
*Толькі той,*
*хто вызначаны лёсам,*
*Да мяне —*
*усё жыццё ідзе.*

●

*Восень.*
*Нясецца душа на*
*пустэльных прасторах,*
*Нібы лісток залаты,*
*маляваны ўва ўзорах.*
*Кожны спісаны лісток —*
*гэта ў вечнасць пасланне.*
*З галіны апаўшы,*
*іду ў вандраванне,*
*Уздоўж пажаўцелых старонак*
*былых небакраяў...*
*Нехта нябачны з уздыхам*
*лістоту гартае.*
*Дзе мы?*
*Але без адказу пытанне.*
*Летні сырыя стыгнуць да лета*
*ў чаканні,*
*Голы відарыс навокал сшарэлы*
*і бледны...*
*Зведаць спакой і прапасці навекі*
*бясследна.*
*Але ўтрапёнай не скончыць*
*панурага бегу*
*Да раўнадушнай зімы*
*і да першага снегу.*

●

*Крыжоўка, восень, спусташэнне,*
*Адрынуў лес лістотны спрат.*
*І сэрца прагне суцяшэння*
*у прадчуванні цяжкіх страт.*

*Чырвоны дуб, як сэрца смехам,*
*Успыхнуў яскай на мяжы.*
*І вось на ровары праехаў*
*Анёл па дажджавой шашы.*

*Зіхцела белае адзенне*
*(А далягляд імжэў свінцом)*
*І ўсё аціхла, бы ў зацменні,*
*А потым — грымнуў наскі гром:*

*"Я дам засмучаным свабоду,*
*Я дам пакутным супакой".*
*Той голас рос да неба стодам*
*Дый расцякаўся над ракой.*

*І колам ровара зацятым*
*Свяціла йшло пад небадах...*
*Крыжоўка, восень, сонца свята —*
*І захапленне, быццам страх.*

Пераклаў з рускай
Сяргей ПАТАРАНСКІ

# Вялікая Кітайская сцяна

(Заканчэнне. Пачатак на стар.9)

сваю дзяўчыну піpoжнымі. Вартаўнік Міхалыч раўнадушна шпурляе кошку ў "канцлагер" — так мы завем барак, для катоў і сабак, дзе яны мусяць чакаць тры дні — на той выпадак, калі з'явіцца гаспадар. А потым... Якая-такая гуманнасць? Якія-такія шпрыцы? Сякера надзейней...

Адчайнае, неадчэпнае мяўканне Лінды я чую, нават прачнуўшыся. Яна вярнулася?! Ускокваю з ложка. Не, гэта зноў уключылася сярод ночы сігналізацыя на чыёйсьці машыне...

Проста пад вокнамі Вялікай Кітайскай сцяны адгрукалі прыватную аўтастаянку "крутых". І калі я не надта стомленая, то звычайна доўга не магу заснуць ад святла ліхтароў, брэху аўчарак і бруднай лаянкі ахоўнікаў. І тады тое, што я імкнулася забыць, усплывае на паверхню свядомасці...

Я часта здзіўлялася таму, што наш з Генкам нашчадак вырас не садыстам, а ціхім, цнатлівым хлопчыкам, спагадлівым да кожнай жывой істоты. Час ад часу Косцік прыносіць у дом то шчанюка, то кацяня. Аднаму такому небараку я дазволіла заняць куточак у вітальні, і неўзабаве кацяня ператварылася ў серабрыста-блакітную прыгажуню, якую мы назвалі Ліндай. Пражыла яна ў нас чатыры гады і толькі аднойчы прынесла патомства. Здарылася гэта якраз тым летам, калі муж уладкаваўся ў прыватную фірму, што займалася збытам прадукцыі аднаго з мясцовых заводаў у Расію. Месцейка, дальбог, было неблагім: вяртаўся Генка з расійскай сталіцы з поўным дыпламатам грошай. Іх мы тады не лічылі. Тое-сёе перападала і Ліндзе на "кіцікэты", хоць Генка і злаваўся: кошку не любіў. Бедная жывёліна зусім не выносіла адзіноты. Варта было нам з мужам, прыкладам, адасобіцца ў спальні, як у найцікавейшы момант чулася патрабавальнае мяўканне, драпанне — гэта Лінда павісала на дзвярной ручцы. Урэшце дзверы расчыняліся і няпрошаная госця радасна ўскоквала на шлюбны ложак. Генка ажно шалеў:

—Наўмысна, падлюга, момант падгадвае!

Магчыма, так яно і было.

Добра памятаю той дзень, калі я запхнула Лінду ў спартыўную сумку і выйшла з Вялікай Кітайскай сцяны. Косцік яшчэ не вярнуўся са школы, а Генка... Генка невылазна сядзеў у Маскве з тае пары, як "кінуў" свайго шэфа-дылера, купіўшы заводскае начальства, і цяпер паіў і ўлагоджваў расійскіх партнёраў, каб яны мелі стасункі толькі з ім. Як я здагадалася, што ў Расіі ў яго з'явілася каханка? Не ведаю. Магчыма, інтуіцыя. Якую ўжо ноч я ляжала без сну, прыслухоўваючыся да крокаў на лесвіцы, але чула толькі задаволенае варкатанне. Яно нервавала. Так, Лінда радавалася, што больш няма каму праганяць яе з упадабанага месца у маіх нагах. Радавалася майму няшчасцю! І аднойчы я не вытрывала.

У аддаленым мікраранёне вытрасла кошку з сумкі. Калі са мной **гэтак** можна, дык чаму мне — нельга? Не азіраючыся, села ў таксоўку. Усё — глупства! Абы муж вярнуўся!..

Не вернецца. На зваротным шляху з Масквы Генкава машына ўрэжацца ў гружаную фуру. Будуць хадзіць упартыя чуткі, што аварыю падстроілі "дахавыя" таго фірмача, якога "кінуў" мой муж.

Між іншым, Генкаў напарнік за секунду да сутыкнення нагнецца, каб завязаць шнурок, і абыдзецца парай драпін. Генка ж... Урэшце, цела мужа я не ўбачу. Труну прывязуць ужо закрытай. Скажуць: усё роўна не пазнаеш...

Я быццам бы звалілася з вышыні пятага паверха і ляжала з пераламанымі нагамі і рукамі. Настаўніца прыродазнаўства мела рацыю: эксперымент над жывой істотай трэба пачынаць з малой нагрузкі. Мяне ж кінулі ў экстрэмальныя ўмовы без усялякай трэніроўкі. На выжыванне. Нават папярэдне акунуць з галавой разок-другі ў іржавую бочку не парупіліся. Дагэтуль усё было ясна: Сонцам майго Сусвету быў муж, вакол яго круціліся планеты, зоркі і штучныя спадарожнікі Зямлі. Я існавала "за-мужам" і не мела самастойнага значэння. Вядома, шлюб наш цяжка назваць ідэальным. Часцяком мне здавалася, што я — усё тое ж запалоханае дзяўчо, якое ўціскае галаву ў плечы пад градам адборных мацюкоў. Генка лаяцца ўмеў адмыслова. Не горш за цётку. Але ж я звыклася, бо — іншага не ведала. Ды і не бачыла я сем'яў, дзе было б па-іншаму.

Грошай, як ні дзіўна, амаль не засталося. Радні, лічы, няма: Генкавы бацькі заўсёды мной пагарджалі ("Знайшоў з кім ажаніцца — з байстручкай!"). Спецыяльнасці — аніякай, ды і не працавала я ніколі: муж не дазваляў. Хацеў, каб у яго ўсё, як у "крутых", было: жонка дома сядзіць, мужа чакае. Я і чакала. Пасля пахавання села насупраць люстэрка. Спалатнелы твар і вялізныя, на паўтвара, вочы. У вачах — разгубленасць і жах. Хатняя кошка, выкінутая на сметніцу, у якой шматгадовае сытае жыццё прытупіла ўсе інстынкты: ані ежу здабыць, ані пастаяць за сябе. Дагледжаная, гладкая жывёліна з вытарашчанымі ад страху вачыма на паўтвара — вось кім я была тады.

Хіба калі-небудзь я была чалавекам?!

— Вы што, звар'яцелі?! — начальніца глядзіць на мяне так, быццам у мяне раптам выраслі трусіныя вушы — прадаўгаватыя, бела-ружовыя. — "Прашу звольніць па ўласным жаданні..." Вы ж у нас па накіраванні службы занятасці! Калі звольніцеся, дык на ўлік больш не паставяць, дапамогі плаціць не будуць! Вы што, знайшлі лепшую працу?

— Так, знайшла. На прыватнай фірме.

І навошта было хлусіць?

Каля аўтобуснага прыпынку, на кучы рыжага кляновага лісця, спіць колі. На гэтым тэракотавым фоне яго амаль не бачна. Колі спіць і бачыць у сне сваіх здраднікаў-гаспадароў, а можа — сасіску, а можа — студні з блакітнай вадой на Месяцы. Яго менш арыстакратычныя суродзічы зграямі носяцца па зняважаных бульдозерамі газонах.

"Па ўласным жаданні" — дакладная фармулёўка. Так, у мяне з'явілася ўласнае жаданне, папраўдзе — нежаданне. Я не жадаю выдаваць цукар па даведках іхняй скуралупні. Два кілаграмы за сабаку, адзін — за ката.

— Галюнчык, прывітанне! Дадому? Сядай!

Я сядаю. Жэнька, мой аднакласнік і сусед (у школе мы дражнілі яго Кашчэем за высачэзны рост і кашчавасць), хітравата ўсміхаецца:

— Касету здабыў — проста жах! Хочаш, дам паглядзець?

Генка часта пазычаў у Кашчэя "эротыку", на мой погляд, дык проста парнуху. Розніцы я так і не паспела зразумець.

— Не, дзякуй. Я і відзік прадала.

— Ну дык махнём да мяне, разам паглядзім. Есць віно, добрае. Мае зараз на лецішчы.

Цікава, чаму мужчыны лічаць, што адзінокая жанчына павінна абрадавацца запрашэнню любога "кашчэя", як той бадзяжны сабака, якому кінулі костку?

Не хочаш? Дарэмна. А фільм класны. Пра тое, як будавалася Вялікая Кітайская сцяна.

— Ну і як жа?

— Разумееш, — зноў ажыўляецца Кашчэй, — у імператара Цынь Шы-Хуандзі было ў казне мала грошай. І вось ён думаў, думаў, як тую сцяну збудаваць, і прыдумаў: кожнаму кітайцу дазваляецца... ну, пабыць у ложку з імператрыцай. Усяго за адну цагліну! Насельніцтва ж у Кітае шмат. Чарга да палаца выстраілася на дзесяткі кіламетраў і рухалася з году ў год... Прыкладна, як у Маўзалей. І кожны кітаец трымаў у руцэ цагліну.

— Няўжо імператрыца за дзесяткі год не састарэла? —удакладняю я.

— Справа не ў гэтым, як ты не разумееш! — тлумачыць Кашчэй. — Яна была жонкай імператара. Пераспаць з жонкай імператара —прэстыжна. І ўлічы статкавае пачуццё. Прыкладам, калі мой сусед з цаглінай стаіць у чарзе, я хутчэй за ўсё таксама вазьму цагліну і стану ў чаргу. Ці не так?

Што ж, не дурны быў імператар Цынь Шы-Хуандзі.

Выходзячы з ліфта, чую за дзвярыма цётчынай кватэры глухое шматгалосае бубненне. Мая цётка Лора апошнім часам стала надта рэлігійнай. Нават "воднае хрышчэнне" прыняла ад замежнага місіянера, быццам сваіх святароў мала. Місіянер завёў яе і яшчэ некалькіх нашых суседзяў на мясцовы пляж, жэстамі паказаў, што трэба ўвайсці ў ваду, потым нешта мармытаў сабе пад нос па-замежнаму. А яны стаялі пакорлівыя, нібы статак на вадапоі, сусед за суседам, схіліўшы галовы, ані слова не разумеючы. Дык вось, цётка паабяцала маліцца за мяне, каб Гасподзь дараваў мне грахі. А я? Я з задавальненнем паслала б яе з ейнай "браціяй" "так і разгэтак прахам ад хваста". Не, не тое, каб я лічыла сябе бязгрэшнай. Проста я раптам зразумела, чаму мая маці палічыла за лепшае памерці ад кахання ў дрымучай тайзе, чым жыць сярод "кітайцаў".

Божа Усявышні! Нібы пакінутыя студні, стаяць кратэры на Месяцы. Блакітныя азёры з жывой вадой ёсць толькі тут, на Зямлі. Сярод незлічонай колькасці планет і зорак — толькі тут, на адным-адзіным шарыку, проста так, дзеля цікаўнасці ці па натхненні, стварыў Ты Жыццё. Жывёлы, дрэвы, птушкі... І людзі. Нервы і артэрыі гэтага свету перапляліся — не разарвеш. Лёсы перацякаюць адзін у адзін, бо і людзі, і птушкі, і дрэвы, і жывёлы — палучаныя сасуды: зрабіў камусьці зло — атрымай назад, абрабаваў — аддай сваё. Бо Зямля на самай справе не планета — яна жывая істота.

Косцік дапамагае мне зняць паліто. Штосьці ён надта шляхетны сёння.

— Мам, распішыся ў дзённіку...

Сын яўна загароджвае мне шлях на кухню. Нарэшце працiскваюся туды. І — заміраю. На стале сядзіць паласатае кацяня. Вочы ў яго круглыя і жоўтыя, нібы "марскія каменьчыкі", — цукеркі, якія дзяўчынкай кідала я ў рот фарфоравай рыбіне з пазалочанымі плаўнікамі.

У двары Вялікай Кітайскай сцяны свішчуць неўтаймаваныя паветраныя патокі. Пясок рыпіць на зубах. Пэўна, вось гэтак жа рыпеў ён на зубах у тых кітайцаў, што ўсё жыццё змарнавалі ў блюзнерскай чарзе, трымаючы ў руках па цагліне...

# Філосаф ласкаю Божай

## ДА 70-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АЛЬБЕРТА БІРАЛЫ

Мяркую, неабходна заўсёды памятаць словы вялікага Ньютана: "Мы бачылі далей і зрабілі больш таму, што стаялі на плячах папярэднікаў..." Ён пайшоў з жыцця вельмі рана, у 42 гады... Выдатны вучоны і выкладчык, даследчык гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі, аўтар прац "Філасофская і грамадская думка ў Беларусі і Літве ў канцы XVII — сярэдзіне XVIII ст" (1971), "Вучэнне Каперніка і грамадская думка ў Беларусі і Літве ў XVIII ст." (1973), "Філасофскія праблемы ў навуцы эпохі Асветы ў Беларусі і Літве" (1979), адзін з стваральнікаў "Нарысаў гісторыі філасофскай і сацыялагічнай думкі Беларусі" (1973).

Альберт Апанасавіч Бірала нарадзіўся 16 ліпеня 1932 г. у г. Чэрвені. Дзед Альберта па матцы, Іван Вікенцевіч Урублеўскі, быў паважаным чалавекам, мясніком, яго каўбасы і сёння ўспамінаюць старыя чэрвеньцы. Матка, Яніна Іванаўна Урублеўская, напачатку 30-х гг. працавала настаўніцай малодшых класаў, а потым у школе рабочай моладзі ў Лепелі. У 1937 г. скончыла геаграфічны факультэт БДУ. Бацька — Апанас Якаўлевіч Бірала, вядомы лінгвіст, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, да 1966 г. выкладаў у БДУ.

Скончыўшы ў 1954 г. філасофскі факультэт БДУ, Альберт Бірала паступіў у аспірантуру пры Інстытуце філасофіі АН БССР. Яго навуковым кіраўніком быў акадэмік Георгій Фёдаравіч Аляксандраў. У 1959 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную аналізу вучэння французскіх сацыялістаў-утапістаў. Аднак пасля абароны і да канца жыцця аб'ектам даследавання вучонага была гісторыя айчыннай думкі XVII—XVIII стст. Менавіта на гэтай ніве ён дасягнуў істотных навуковых поспехаў, **сказаў новае, значнае слова ў беларускай гісторыка-філасофскай навуцы.** З 1961 па 22 лістапада 1974 г. (дата скону вучонага) Альберт Бірала з'яўляўся дацэнтам кафедры гісторыі філасофіі і логікі БДУ, з 1968 па 1973 г. займаў пасаду намесніка дэкана гістарычнага факультэта, адказваючы за філасофскую адукацыю.

Альберт Бірала з'яўляўся **адным з пачынальнікаў беларускай гісторыка-філасофскай навукі, якая па сутнасці ўзнікла ў пасляваенныя** гады. Цэнтрамі, дзе яна нараджалася і стваралася, былі Інстытут філасофіі АН БССР і кафедра гісторыі філасофіі і логікі БДУ, а першымі ініцыятарамі — Мікалай Астапавіч Алексютовіч, аўтар працы "Скарына, яго дзейнасць і светапогляд" (1958), Іван Мікалаевіч Лушчыцкі, аўтар "Нарысаў па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX в." (1958). У той час, калі пачынаў Альберт Бірала і нешматлікія, такія ж, як і ён апантаныя энтузіясты, гісторыя старажытнай айчыннай думкі не была ў асаблівай пашане і тым больш не з'яўлялася кан'юнктурай. Лягчэй было зрабіць навуковую кар'еру, узяўшы ў якасці аб'екта даследавання тэму накшталт "Роля партыі ў...". Да таго ж, галіна навукі, якую абраў Альберт Бірала, патрабавала ад даследчыка шматгадовай, напружанай працы ў бібліятэках і архівах, вывучэння рукапісаў, ведання лацінскай, польскай і наогул замежных моў і г. д. Шчыра кажучы, ад вучонага патрабавалася пэўная навуковая мужнасць і самаахвярнасць, што, дарэчы, было ўласціва Альберту Біралу на працягу ўсяго яго кароткага жыцця.

Адным з першых А. Бірала звярнуў увагу на спецыфіку развіцця духоўнай культуры і грамадска-філасофскай думкі Вялікага Княства Літоўскага, які ўяўлялі своеасаблівы **сінтэз шматнацыянальных пачаткаў**. Вучоны адзначаў, што памылкова лічыць створаныя ў межах Беларусі і Літвы польскамоўныя каштоўнасці "нейкім іншародным целам". Віленскі універсітэт з'яўляўся цэнтрам не толькі літоўскай і польскай, але і беларускай культуры і навуковай думкі. Нельга адрываць ад Беларусі "буйнога дзяржаўнага і ваеннага дзеяча, нацыянальнага героя Польшчы Тадэуша Касцюшку", "вялікага польскага нацыянальнага паэта" Адама Міцкевіча і інш. Аналізуючы філасофію Беларусі эпохі асветніцтва, Бірала прасочваў яе сувязі як з Захадам, так і з Усходам, ідэямі вялікага рускага вучонага Міхаіла Ламаносава.

Першым у гісторыка-філасофскай навуцы Беларусі навуковец узняў праблему айчыннай схаластычнай філасофіі. Да Біралы ў нашай навуцы аналіз беларуска-літоўскай, або "віленскай" схаластыкі звычайна падмяняўся яе агульнай крытыкай і адмаўленнем. Бірала зрабіў спробу адэкватна ацаніць значэнне схаластыкі ў гісторыі філасофіі і грамадскай думкі Беларусі і Літвы, паказаць не толькі яе інтэлектуальную абмежаванасць, але і пэўную пазітыўную ролю ў станаўленні айчыннай філасофскай культуры.

Вучоны паказаў характар філасофскай адукацыі ў Віленскай акадэміі і шматлікіх каталіцкіх калегіюмах на тэрыторыі Беларусі і Літвы, прааналізаваў творы яе прафесароў. Заслугай Альберта Біралы з'яўляецца **выпрацоўка навуковай перыядызацыі эвалюцыі схаластычнай філасофіі** ў Вялікім Княстве Літоўскім. Ён вызначыў два этапы ў гэтай эвалюцыі: першы (канец XVII — сярэдзіна XVIII ст.) — дамінавання, або засілля схаластыкі ў айчыннай філасофскай культуры, абумоўленага застоем у развіцці прыродазнаўства; **другі** (сярэдзіна XVIII ст.) — ператварэння схаластыкі ў эклектычную філасофію на падставе засваення ідэй новай прыродазнаўчай навукі, рацыяналістычнай і эмпірычнай філасофіі (ідэй Каперніка, Дэкарта, Локка, Ньютана, Лейбніца, Вольфа і інш.) Бірала напісаў асобную працу, у якой паказаў станаўленне геліяцэнтрычнай тэорыі ў Беларусі і Літве. Айчынная эклектыка, на думку Біралы, пэўны, неабходны этап, які падрыхтаваў узнікненне і развіццё ў Беларусі і Літве асветніцкай філасофіі.

Бірала звярнуў увагу на сацыялагічныя, этычныя і палітычныя ідэі і вучэнні як у схаластыцы, так і наогул у грамадскай думцы Беларусі і Літвы XVII — першай паловы XVIII стст. Менавіта ён паставіў перад беларускімі даследчыкамі задачу вывучэння навуковай спадчыны прафесара права Віленскага універсітэта, аўтара трактата "Пра палітычную супольнасць людзей" А. Алізароўскага (1618—1659). Ён жа першым закрануў праблему інтэрпрэтацыі ў айчыннай думцы палітычнага вучэння Нікола Макіявелі. Нельга не адзначыць даследчыцкую праніклівасць Біралы, які ў барацьбе, што вялася ў канцы XVII — пачатку XVIII стст. паміж магнацка-шляхецкімі групоўкамі, убачыў не толькі феадальныя



"разборкі", **але і імкненне да дзяржаўнай незалежнасці** Вялікага Княства Літоўскага на падставе ўтварэння моцнай канстытуцыйна-манархічнай улады. Барацьба гэта, на думку даследчыка, у той або іншай форме змяшчала пэўны пратэст супраць ператварэння беларуска-літоўскай дзяржавы ў арэну палітычных інтрыг з боку Польшчы, Швецыі, Прусіі, Расіі.

Значны ўклад унёс Бірала ў вывучэнне навуковай, філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі і Літвы **эпохі Асветніцтва**. "Заваёвай" айчыннай навукі даследчык лічыў "увядзенне сістэматычнага курса вышэйшай матэматыкі ў Віленскай акадэміі", што было знітавана з дзейнасцю Францішка Нарвойша (1742—1819). Бірала паказаў вялікую ролю астранамічнай навукі ў сцвярджэнні на беларуска-літоўскай глебе ідэй новага прыродазнаўства і філасофіі, грунтоўна прааналізаваў дзейнасць і светапогляд "аднаго з асноватворцаў эксперыментальнага прыродазнаўства ў Беларусі і Літве, буйнога астранома, атрымаўшага еўрапейскую вядомасць" Марціна Пачобута Адляніцкага (1728—1810), ураджэнца Гарадзеншчыны. Пры гэтым належную ўвагу даследчык удзяліў ліставанню Пачобута з выдатным вучоным і філосафам, рэктарам Віленскага універсітэта Янам Снядэцкім (1756—1830), аўтарам прац "Пахвала Мікалаю Каперніку" і "Пра Каперніка".

Сярод іншых праблем, якія былі пастаўлены і даследаваліся Біралам — **праблема сацыяльнай псіхалогіі беларуска-літоўскага грамадства XVII—XVIII стст.** і ў першую чаргу магнатаў і шляхты. Праблема гэта вельмі важная для адэкватнага, усебаковага пазнання матэрыяльна-духоўнага жыцця народа. З пункту гледжання дадзенай праблемы Біралам упершыню ў беларускай гуманітарнай навуцы прааналізаваны "Мемуары" Марціна Матушэвіча (1714—1773), дзяржаўнага і грамадскага дзеяча ВКЛ, які ў сваім творы паказаў побыт, сацыяльнае жыццё, псіхалогію і разам з тым палітычную і маральную дэградацыю пэўнай часткі магнатаў і шляхты напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай.

Безумоўна, піянерскімі з'яўляюцца даследаванні вучонага ў галіне **айчыннай філасофіі гісторыі**. Бірала першым выявіў гэтую перспектыўную праблему і выбар яго азнаменаваў тую акалічнасць, што ў беларускай гуманітарнай навуцы **ўзнік новы напрамак.** Справа ў тым, што існуе багатая і высокапрафесійная гісторыяграфія Беларусі і Літвы, **канцэптуальны характар** якой амаль што не даследаваны. Бірала звярнуў увагу на філасофскае асэнсаванне айчыннага гістарычнага працэсу ў творах шматлікіх даследчыкаў, сярод якіх Адам Нарушэвіч (1733—1796), аўтар "Жыцця Яна Караля Хадкевіча, віленскага ваяводы" і "Гісторыі польскага народа"; Томаш Гусаржэвскі (1732—1809), настаўнік Яўхіма Лялевеля; Мікалай Вольскі (1762—1803), аўтар "Прамовы пра пачатак сусветнай гісторыі"; Яўхім Лялевель (1786—1861), прафесар кафедры агульнай гісторыі Віленскага універсітэта, аўтар прац "Гісторыка", "Якім павінен быць гісторык", "Гісторыя Літвы і Русі да Люблінскай уніі з Польшчай 1569 г." і інш.

У гэтай сувязі некалькі заўваг пра сучасны стан гісторыка-філасофскай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Гістарычны вопыт вучыць, што плённае эканамічнае і палітычнае супрацоўніцтва дзяржаў і народаў немагчыма без супрацоўніцтва духоўна-культурнага. Гэта ў поўнай меры адносіцца да супрацоўніцтва Беларусі з Расіяй, Украінай, Польшчай і іншымі славянскімі краінамі. Справа ў тым, што наша моладзь, студэнцтва ды і наогул грамадства, за пэўным выключэннем, маюць даволі павярхоўнае ўяўленне пра беларускую і рускую філасофскую думку і абсалютна ніякага ўяўлення пра думку ўкраінскую, польскую, паўднёваславянскую. Узровень выкладання гісторыі беларускай і рускай філасофіі (украінская і польская філасофія ў нашых навучальных установах наогул не вывучаюцца) у наш час цалкам залежыць ад суб'ектыўнага, выпадковага фактара, г. зн. у асноўным ад таго, хто выкладае дадзены прадмет. Выклікае непаразуменне, што ў Беларусі, нацыянальная культура якой гістарычна звязана з рускай, украінскай, польскай і іншымі славянскімі культурамі, і перш за ўсё ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, **няма кафедры гісторыі славянскай філасофіі**, на базе якой ажыццяўлялася б высокакваліфікаванае выкладанне беларускай, рускай, украінскай, польскай філасофіі, падрыхтоўка адпаведных кадраў выкладчыкаў, вяліся навуковыя даследаванні. На наш погляд, гісторыка-філасофская адукацыя ў Беларускім дзяржаўным універсітэце павінна быць, па меншай меры, прадстаўлена **дзвюма кафедрамі**: кафедрай славянскай філасофіі і кафедрай заходнееўрапейскай, амерыканскай і азіяцкай філасофіі. Філасофскую адукацыю ў БДУ трэба не скарачаць, як гэта робіцца ў апошні час, а пашыраць і паглыбляць. Стварэнне кафедры славянскай філасофіі з'яўляецца бліжэйшай задачай удасканалення філасофскай адукацыі ў рэспубліцы. У перспектыве — стварэнне ў БДУ побач з вышэйпамянёнай кафедрай, кафедры **беларускай гісторыі філасофіі і культуры.** Думаю, быў бы жывы Альберт Бірала, ён бы пагадзіўся з дадзенымі прапановамі.

**Сямён ПАДОКШЫН**

КНІГАРНЯ

# Жыццё пражыць...

Вядомы празаік-раманіст, апавядальнік, перакладчык Павел Міська зборнікам вершаў "Ружовыя ліўні" ("Мастацкая літаратура", 2001 г.) грунтоўна засведчыў свой паэтычны талент. Кніга складаецца з трох адметных раздзелаў. Самы вялікі і прыкметны, з выразнымі грамадзянскай пазіцыяй і гучаннем — "Дух святы, апануй беларусаў..." Наступныя паэтычна-светлы, інтымны — "Пакінь мяне знямога!.." і гумарыстычна-сатырычны, з аўтарскім стаўленнем да заганнага, нялюдскага і шкоднага — "Людзям на пацеху".

Кожны з гэтых раздзелаў мае свае асаблівасці, сваю рытміку, мелодыку, паэтычны строй. Пачынаецца першы раздзел дакляраваным аўтарскім зваротам:

*Бацька Бог!*  
*Божы Сын!*  
*Дух святы!*  
*За народ я малюся вам тром:*  
*Каб адолеў ён цяжкі сіндром*  
*Душэўнае нематы.*

Праблема вострая, актуальная. Паэту баліць за сённяшняе жыццё ў паняверцы, за беларускую бязмоўнасць. Ён папракае нават нябесныя сілы: "

*Божы сын! Пра зямлю ты забыўся.*  
*Чакаем твайго мы з'яўлення.*

І просіць гэтыя сілы:

*Дух Святы! Апануй беларусаў!*  
*Асвятлі нашы розум і сэрцы!*

Тэма беларускасці праходзіць праз увесь зборнік, але найбольш акцэнтавана гучыць у першым раздзеле. Паэта хвалюе доля беларусаў, якая пакуль што ўкладваецца, на яго думку, у такія дзеянні-абавязкі:

*Блукаць, трываць, ахвяраваць,*  
*Маўчаць, араць і засяваць.*

Усведамляючы, што гэтай жыццёвай канкрэтыкі не хапае для нармальнага, незалежнага жыцця, ён з горыччу заяўляе:

*Мне не хапае Беларусі,*  
*Як перакрыў хто кісларод...*  
*Пытанне б'ецца ў маім пульсе:*  
*"Ці вінаваты мой народ?*

Ён пакуль не знаходзіць тлумачэнняў, але ведае чаго яму не хапае:

*Мне ў Беларусі не хапае*  
*Яе самой. Дык дзе ж яна?*  
*Мо бачыў хто? Мо добра знае,*  
*У чым бяда яе, віна?*

Як бачым, ёсць над чым задумацца. У гэтым пошуку Беларусі П. Міська асвятляе, паказвае шлях роднай зямлі з яе выпрабаваннямі і нягодамі. Ён асуджае, папракае, але і летуценіць спадзяваннямі на абуджэнне, на лепшае жыццё і гатовы ахвяраваць сабою дзеля гэтага лепшага.

Для выяўлення сваіх думак, пачуццяў аўтар карыстаецца рознымі паэтычнымі прыёмамі. Адзін з пашыраных — пытанне да сябе, да чытача, да сіл зямных і нябесных. Гэтыя шматлікія пытанні ствараюць пэўны настрой, сугучны з аўтарскім, бо патрабуюць высвятлення прычын іх узнікнення.

Аўтар ведае кошт жыццю і, у пэўнай ступені, правамерна гучаць яго пытанні да людскіх захапленняў:

*Сігануў новы Бубка пад неба —*  
*Ён культуру народа падняў?*  
*Той таго на лапаткі паклаў —*  
*І ў засеках пабольшала хлеба?!*

Павел Міська ахвотна карыстаецца арсеналам народнай мудрасці. Такая сувязь звязвае спадчыннае з сучасным, з індывідуальным і ўзбагачае яго, асабліва там, дзе спалучаецца народнае афарыстычнае песеннае з аўтарскім. Прыкладаў гэтаму ў зборніку дастаткова. Як дастаткова і спавядальнага. Аўтарская самакрытычная споведзь — яшчэ адна выразная рыса паэзіі П. Міська, які ў вершы "Споведзь" піша:

*Жыццё пражыць — не поле перайсці*  
*Слядамі ног, як машыновай строчкай.*

Акцэнтавана гучыць у кнізе чарнобыльская тэма. Боль трагедыі ўзмацняецца тым, што перадаецца не толькі чалавеку, але і птушкам, пачуцці і перажыванні якіх ачалавечваюцца. У гэтым раздзеле можна назваць іншыя ўдалыя творы, вартыя ўвагі, але хочацца прыпыніцца на вершы "Роздум у раённым музеі". Ён выходзіць за рамкі проста верша. Гэта сапраўды зладжаны ў розных танальнасцях "гімн простым жорнам і звычайнай ступе", кавальскай і ткацкай справе. Гэта ўспамін пра дзяцінства як школу жыцця. З вышыні сталага жыццёвага вопыту аўтар прыходзіць да аксіёмы:

*Геніяльнае — ўсё простае,*  
*Тое, дзе ні ўбавіць, ні дадаць,*  
*З простага, як з зерняці вырастае*  
*Ўсіх вякоў наступных благадаць.*

Другі раздзел адкрываецца вершам, напісаным у танальнасці трусаўскага імажыніцкага "Расчасала вішня шоўкавыя косы":

*Гівал беларускі — ліст асенні жоўты,*  
*Плача ў голым садзе, дзе галінаў звісь,*  
*І куды б ні ехаў, і куды б ні йшоў ты,*  
*Рэжа сэрца болем той птушыны свіст.*

На элегічным фоне адчуваецца мінорны настрой. Верш успрымаецца як унутраны маналог аўтара з самім сабою.

Паэт запрашае ў свет сваіх перажыванняў, у свой настрой. Ён адухаўляе прыроду, яе з'явы:

*Певень захлынуўся шчасцем звонкім*  
*Цішу раскалоў надрэчных лоз,*  
*Пазяхае бор і кажнаю сасонкай*  
*Ружавее сорамна спрасонку*  
*Ды пасуе ўдалеч адгалос.*

Такіх вытанчаных паэтычных знаходак у гэтым раздзеле нямала.

Ад абставін і настрою залежаць аўтарскія адносіны да паэтычных вобразаў-персанажаў. Напрыклад, добры дождж, які "выцымбальваў "Лявоніху" ў іншых абставінах — "дождж-сцюдзёнка, нудотны і гідкі".

Трэці раздзел кнігі — "Людзям на пацеху..." І на гэтай творчай дзялянцы П. Міська не навічок, бо добра адчувае прыроду гумару і сатыры. Ён цікава апавядае пра смешнае, непрыстойнае, заганнае ў жыцці, у творах "Конь стары, гняды...", "Півахлёбы", "Тылігент", "Вальс бабыля", "Сучасная байка", "А што яшчэ?", "На сабачы лад" і інш.

У зборніку "Ружовыя ліўні" ружовага мала. Усё, што даводзілася перажыць аўтару, лірычнаму герою, суадносіцца з няпростым, нялёгкім рэальным жыццём, у якім пытанняў болей, чым адказаў.

У зборніку амаль няма гэтак званай паэтычнай эквілібрыстыкі, а ёсць узоры высокай паэзіі. Аўтар умела і ўдала карыстаецца арсеналам паэтычных сродкаў (рыфма, эпітэт, метафара, параўнанне і інш.). Ён умее высвеціць сэнсавыя грані слова, удала выкарыстаць паэтычныя мелодыку, рытміку, паэтычны сінтаксіс і іншае, што ўплятаецца ў вянок паэзіі.

Паэтава чуйная душа да песні, да народнай паэзіі, і гэта выразна адчуваецца ў зборніку. Ён умее знайсці свежую, незашмальцаваную рыфму,стварыць арыгінальны паэтычны вобраз, намаляваць адметны пейзаж, краявід, па-мастакоўску выкарыстаць палітру пачуццяў душы, палітру фарбаў, даверыць свае асабістае, інтымнае чытачу. Ён не любіць кампрамісаў і шчыра прызнае свае колішнія грахі, змагаючыся за гуманістычныя ідэалы мінуўшчыны і сучаснасці. Ёсць сярод вершаў паэта і лірычнае, і элегічнае, і філасофскае, і прыземленае, па-народнаму мудрае.Поруч з дасканалымі ёсць у зборніку і слабаватыя вершы, рытмічныя збоі, прыблізныя рыфмы, але ўсё гэта ўспрымаецца як заканамерная з'ява творчага пошуку Паўла Міська.

**Яўген АДАМОВІЧ**

## Яшчэ раз пра вечнае

**27 чэрвеня філія Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Беларуская хатка" зноў гасцінна расчыніла свае дзверы для ўсіх, хто цікавіцца беларускім літаратурным і культурным жыццём. Тут адбылася вечарына, прысвечаная 140-годдзю фальклярыста, этнографа і мовазнаўцы Адама Ягоравіча Багдановіча, бацькі беларускага паэта Максіма Багдановіча.**

**Больш чым год не збіраліся ў "Беларускай хатцы" на вечарыны. Людзі памятаюць цікавыя сустрэчы, што арганізоўвалі былы загадчык філіі, паэт і бард Эдуард Акулін. Сёння тут працуюць новыя людзі, але традыцыя не памерла. Яны з імпэтам пачалі яе ўзнаўляць.**

**На вечарыне цікава было не толькі тым, хто амаль нічога не ведаў пра Адама Ягоравіча, але і тым, хто ўжо знаёмы з жыццём і дзейнасцю не толькі вучонага, а і духоўна багатага чалавека.**

**Даволі цяжкае і складанае было ў яго жыццё. Адам Ягоравіч страчвае вельмі блізкага чалавека — сваю першую жонку і вялікае каханне — Марылю. Як ілюстрацыя тых цудоўных адносінаў, што склаліся паміж Адамам і Марылькай (так ласкава называў жонку Багдановіч), у тэатральнай форме прагучала некалькі іх лістоў, напоўненых узаемнай павагай, клопатам і любоўю.**

**Таццяна Шэляговіч, загадчыца філіі і вядучая вечарыны, чытала знакаміты "Апокрыф" Максіма Багдановіча. Студэнтка Ганна Кавалёва выканала беларускую народную песню...**

**З роду Багдановічаў засталіся нашчадкі. Было прадстаўлена слова гасцям — Валерыю Паўлавічу Кормазу і яго сястры Вользе Паўлаўне Дашкоўскай, якія гаварылі пра радавод Багдановічаў. Пачынаў складаць яго яшчэ сам Адам Ягоравіч, а працягнуў гэтую справу вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Зміцер Яцкевіч. Пасля вечарыны ўсе, каго зацікавіла генеалагічнае дрэва Багдановічаў, набылі кнігу Яцкевіча "Радавод Максіма Багдановіча".**

**Працягнуў размову яшчэ адзін госць вечарыны, беларускі фальклярыст, літаратуразнаўца, краязнаўца, доктар філалагічных навук Арсень Ліс, які паведаміў пра дзейнасць тагачасных беларускіх асветніцкіх суполак і арганізацый, у пра значны ўдзел інтэлігенцыі ў іх.**

**Таццяна ДУБОЎСКАЯ,**
**старэйшы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея М. Багдановіча**

## Памяці земляка

**У чэрвені ў краязнаўчым музеі горада Узда працавала выстава памяці Юрыя Аляксандравіча Карачуна, выдатнага дзеяча беларускай культуры, дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь (які ён узначаліў, калі той быў яшчэ Дзяржаўным мастацкім музеем БССР), мастацтвазнаўцы, цікавага мастака.**

**На Уздзеншчыне карані ягонага роду. Тут у хаце, што калісь належала ягоным сваякам, і якую ёнператварыў у творчую майстэрню, ён праводзіў летні адпачынак. Маляваў навакольную прыроду.**

**На выставе былі прадстаўлены акварэлі, малюнкі фламастэрам. А таксама кнігі, аздобленыя Юрыем Аляксандравічам, напісаныя ім артыкулы, фотаздымкі з сямейнага архіва. Многае з занатаванага ў акварэлях і малюнках ужо набыло статус гістарычнага дакумента. Бо змяняецца і прырода, і гарадское наваколле.**

**На адкрыцці выставы прысутнічалі мясцовыя работнікі культуры, землякі Ю. Карачуна. Госці з Мінска — супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея, якія блізка яго ведалі, а таксама ягоная ўдава Валянціна Міхайлаўна расказалі пра дзейнасць Юрыя Міхайлавіча як мастака і як дырэктара галоўнага мастацкага музея краіны. Трэба дадаць, што гэтая выстава раней экспанавалася ў Нацыянальным мастацкім музеі.**

**Наш кар.**

# Горацкі сябар Кабзара

### ГЭТЫ ГОД АБВЕШЧАНЫ Ў БЕЛАРУСІ ГОДАМ ТАРАСА ШАЎЧЭНКІ

Яшчэ ў 1935 годзе ў "Литературном наследстве" былі апублікаваны два нявыдадзеныя лісты Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі Піліпу Мікалаевічу Каралёву і канверт ад трэцяга ліста. Гэтыя лісты паступілі ў Дзяржаўны літаратурны музей у Маскве ад нашчадкаў А. Н. Пыпіна (1833—1904 гг.) — вядомага рускага літаратуразнаўцы.

У прадмове да публікацыі лістоў у "Литературном наследстве" літаратуразнавец І. Айзеншток пісаў, што "...не удалося выявіць якіх-небудзь звестак пра адрасата лістоў". Напэўна, І. Айзеншток не звярнуў увагі, што на канверце недайшоўшага да нас трэцяга ліста напісана: "Яго Высакароддзю Піліпу Мікалаевічу Каралёву. Прафесару Горы-Горацкага інстытута ў мястэчку Горкі Магілёўскай губерні". На паштовым штэмпелі пазначана месца адпраўлення: Ахтырка, Харкаўскай губерні. 14 жніўня 1846 год.

Прафесар Каралёў Піліп Мікалаевіч (1821—1894 гг.), па даных энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і Эфрона, ураджэнец Харкаўскай губерні, сын селяніна. Яму ўдалося скончыць фізіка-матэматычны факультэт Харкаўскага універсітэта. Стаў настаўнікам матэматыкі харкаўскай гімназіі.

З 1854 года П. М. Каралёў працуе ў Горках, вядзе заняткі па матэматыцы, сельскай архітэктуры і прыкладной механіцы. Як бачна з матэрыялаў, змешчаных у кнізе "Записки Горы-Горецкого земледельческого института" (кніга 3, 1854 г.), ён актыўна займаецца не толькі выкладчыцкай дзейнасцю, але і навукова-даследчай працай, друкуе свае працы ў згаданых намі "Записках...". У 1855 годзе ён здае экзамен на магістра чыстай матэматыкі і атрымоўвае званне ад'юнкт-прафесара механікі. У кнізе С. Г. Цітовіча "Горы-Горецкий земледельческий институт" (Горки, 1960. с.160) адзначаецца, што ў 1856 годзе Каралёў на святочным гадавым інстытуцкім акце зачытаў даклад аб ролі вапны як будаўнічага матэрыялу і аб яго мясцовых сховішчах. У кнізе прыводзяцца словы вядомага прафесара А. В. Савeтава аб тым, што Каралёў вельмі палюбіў будаўнічую справу, прымаючы ўдзел у будаўніцтве новых памяшканняў земляробчага інстытута.

У 1858 годзе П. М. Каралёў пераязджае ў Маскву, загадвае сіроцкім домам, кіруе жаночымі сельскагаспадарчымі курсамі. З 1870 па 1876 год узначальвае Пятроўскую (цяпер Ціміразеўскую) сельскагаспадарчую акадэмію.

Цікава, што аб гэтым перыядзе жыцця П. М. Каралёва ўспамінаецца ў кнізе пісьменніка У. Г. Караленкі "История моего современника" (М., 1976). У раздзеле "У Пятроўскай акадэміі" ён расказвае, як трапіў на прыём да Каралёва: "У дырэктарскім кабінеце мяне прыняў сівы стары невялікага росту, з вялікай галавой, буйнымі рысамі твару і суровым выглядам".

Потым ён пераехаў у Пецярбург, дзе выбіраўся старшынёй тэхнічнага аддзела Вольнага эканамічнага таварыства.

Такі лёс чалавека, якому пісаў лісты Т. Р. Шаўчэнка.



Што расказваецца ў гэтых лістах? Перш за ўсё трэба адзначыць, што гэтыя лісты маюць вялікую каштоўнасць для вывучэння біяграфіі паэта, таму што вядомы толькі два лісты за гэты перыяд. Так, у іх ён упершыню паведамляе аб паездках у Швецыю і Данію, аб дакладнай даце напісання ім паэмы "Гамалія". З лістоў можна ўстанавіць і гістарычныя крыніцы, якімі карыстаўся паэт пры напісанні гэтай паэмы. Гэта прысланыя П. М. Кавалёвым зборы запарожскіх песень і дум "Запарожская старына" (Харкаў, 1833—1936 гг.).

У пісьмах Шаўчэнка расказвае пра свае выдавецкія справы, аб тым, што ў цяжкую хвіліну яму давялося прадаць правы на выданне ўсіх сваіх твораў.

Аказваў Каралёў паэту і матэрыяльную дапамогу. Ён распаўсюджваў сярод

ПАМЯЦЬ

# Душа мая шчыміць...

Гэтыя некалькі тысячаў друкарскіх знакаў, натуральна, не вымяраюць глыбіні і значнасці асобы майго бацькі, якому і прысвячаю спавядальна-пакаяльныя словы. Яго ўжо шэсць гадоў няма побач з жонкай Веранікай і намі, дзецьмі ды ўнукам. Але ёсць неадольнае жаданне вярнуцца ў першы снег, першыя школьныя заняткі, у мае дзяцінства і юнацтва.

Кастусь Каратай не быў ганараваны найвышэйшымі дзяржаўнымі ўзнагародамі, хоць і не абыдзены пэўнай ветласцю ўлад: Грамата Вярхоўнага Савета, адзнака выдатніка народнай асветы, годнасць заслужанага настаўніка Беларусі. А за гэтым — гады напружанай працы чалавека, які па сваёй эрудыцыі ды інтэлекце мог быць прафесарам навучальнай установы.

Народжаны ў 1930 працавітай наваградскай сялянкай Салімай і шараговым чыгуначным служачым Арсенем, ён зведаў польскую і фашысцкую акупацыі. Радзіма яго — не колісь стольны вялікакняскі Навагрудак, а сціплая вёсачка Нянькава Навагрудскага раёна, якая вывела ў свет вядомых навукоўцаў — прафесара У. Лазоўскага, дацэнта М. Міхея, а яшчэ таленавітых народных грайцаў, хлебаробаў і дзяўчат-весялух.

Тады ў іх, у Нянькаве, спявала скрыпка дзеда Пампея, і пры вайне, пры хатняй патрэбе) карову падаіць, свінням даць, авечак загнаць) моўчкі адгукалася на гэтыя гукі жаночая душа. Можа, і Салімы. Працаўніца, яна так амаль і памерла ў градах, пры сконе нават не пазнаўшы нас, унукаў, якія «ад вялікай навукі» у БДУ прыехалі на развітанне з ёй...

Затым была Кастусёва вучоба — спачатку ў Настаўніка У. Казбярука, а потым на філфаку БДУ.

Аднакурснікі К. Каратая — Ніна Кавалёва (Гілевіч), народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, доктар філалогіі Мікола Арочка — адзначаюць, што сярод іншых навучэнцаў Канстанцін вылучаўся ўдумлівасцю, шчырай прагай да ведаў, знешняй і ўнутранай інтэлігентнасцю, бескампраміснасцю.

Трэба адзначыць, што мае высокія суразмоўцы былі нешматслоўнымі, узгадаўшы, аднак, неардынарныя праявы талерантнасці. памяркоўнасці, сапраўднай інтэлігентнасці бацькі нават у сітуацыях досыць нетрадыцыйных.

...Праштрафіўся (ды агідна) адзін з аднакурснікаў. Яго чакала выключэнне з камсамола і, натуральна, з ВНУ. І ўсе чакалі канчатковага прысуду бескампраміснага Кастуся Каратая, гэтага мясцовага Саванаролы, які, аднак, папрасіў літасці да лёсу хлопца, чым выклікаў калі не шок, дык вялікае здзіўленне сваіх аднакурснікаў.

Не менш здзівіла іх і тое, што сваю першую стыпендыю ён "легкадумна" выдаткаваў... на кнігу старажытнага малаведамага аўтара...

Але нарэшце напісана дыпломная праца (пад кіраўніцтвам прафесара М. Ларчанкі), і пачынаецца "вольны лёт" у прасторы педагогікі. У яго лёсе былі некалькі пабудаваных і ўзначаленых ім школ, была праца лектарам, філолагам, гісторыкам. Але, найгалоўнае, было шчырае і апантанае жаданне пакласці ўсе свае сілы і здольнасці на алтар Беларусі. Шмат хто з былых вучняў бацькі пазнае мяне на вуліцы па знешнім падабенстве і дзякуе. За што? — За яго разум, спагаду, за вялікае сэрца.

Не магу ўявіць сабе Каратая цынікам. І не магу не сцвердзіць, што за гады вучобы, а потым і працы на філалагічным факультэце БДУ мне толькі зрэдчас трапляліся людзі гэткай эрудыцыі, разумення справы, якой ты служыш, і адданасці ёй, — успамінае Ніл Гілевіч.

Апошнія гады бацька хадзіў з кійком. Цяжка хвараў на дыябет, таму ў доўгія вандроўкі па музеях і архівах СНД, у часы міжнародных тэлефонных кантактаў заўсёды меў пры сабе інсулін.

Да скону сваіх дзён, нават гадзін жыцця ён захаваў светлую галаву і ясную памяць, у якой засталіся колішнія сустрэчы і арганізаваныя ім творчыя вечарыны Максіма Танка, Міхася Лынькова, Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Алега Лойкі, Марыі Захарэвіч, Васіля Шаранговіча, Міхася Казінца, Віктара Роўды, Міхася Чарняўскага ды мясцовых інтэлігентаў.

Асаблівая старонка яго жыцця — чалавечая і творчая прыязнасць з Максімам Танкам. Яны не толькі былі блізка знаёмыя, — яны былі людзьмі эмацыянальна-псіхалагічна і духоўна блізкімі. У сталасці іх жыццёвыя дарогі развялі кіламетры, хваробы, лёс. Але зрэдчас бацька пісаў з Мядзеля да мэтра нашай літаратуры і заўсёды атрымліваў шчырыя, нефармальныя адказы. Зрэшты, па ініцыятыве Каратая прадмову да кнігі "Памяць" пра Мядзельшчыну напісаў менавіта Максім Танк.

А ў маёй дзіцячай памяці дзядзька Яўген застаўся не прыжыццёва забранзавелым класікам, а гарэзлівым, усмешлівым нарачанскім эпікурэйцам, які на хрэсьбінах маёй сястры Людмілы так нечакана растлумачыў сутнасць свайго паэтычнага псеўданіма:

***Мая жонка, як трохтонка,***
***Мае дзеткі, як танкеткі.***
***А я сам — як танк!***

А пасля тупнуў чаравікам, і што тут пачалося...

Шкада, што знакаміты паэт не паспеў пабачыць створанага бацькам разам з апантанымі аднадумцамі школьнага гістарычна-краязнаўчага музея.

З ініцыятывы К. Каратая Мядзельская школа атрымала высокае найменне: школа імя У. Дубоўкі (Уладзімір Дубоўка калісьці вучыўся ў Мядзельскім двухкласным вучылішчы). Створаны К. Каратаем школьны музей У. Дубоўкі атрымаў статус філіі дзяржаўнага.

Трэба сказаць, музеі не ствараюцца вобміг, яны вымагаюць клопату штодзённага, заўсёднага. Здаецца, бацька працаваў для яго ўсё сваё жыццё. Досыць вялікі (на 6 пакояў) музей стаў вымярэннем людскога болю і страт, заваёў і, найгалоўнае, Памяці.

Ёсць тут і асабістыя рэчы У. Дубоўкі і М. Танка, ёсць і згадкі з трагедыі нядаўняга часу — смерці старшага матроса атамнай субмарыны "Камсамолец" Жэні Вяршылы, і нераскрыленага парашута Валодзі Піваварава — таксама выхаванцаў Каратая.

харкаўчан квіткі на выданне яго твораў, а таксама выдадзеныя творы паэта. Сабраныя грошы ён дасылаў Шаўчэнку. Вядома, што з першым лістом паэт прыслаў Каралёву 7 паасобнікаў сваёй паэмы "Гайдамакі", адзін — яму ў падарунак, 6 — для продажу.

Цікава, што ў лістах адчуваецца глыбокае асабістае сяброўства і прыхільнасць Шаўчэнкі і Горы-Горацкага прафесара. Так, у першым лісце Тарас Рыгоравіч піша:

"Дзякуй табе, добры чалавек, за ласкавае слова, за грошы..."

Другім: "Дзякуй табе, мой голуб, што хоць ты мяне не забываеш. Прачытаў я тваё ласкавае пісьмо...".

А што вядома аб тым, як і дзе пазнаёміліся Тарас Рыгоравіч і Піліп Мікалаевіч? На наша запытанне вучоны захавальнік фондаў аддзела рукапісаў Інстытута літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі Акадэміі навук Украіны А. М. Палатай адказаў, што звестак аб асабістай дружбе Т. Р. Шаўчэнкі і П. М. Каралёва не выяўлена.

У снежні 1995 года ў час пасяджэнняў навуковых чытанняў, што праходзілі ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі, да мяне звярнулася журналістка Аксана Сяргееўна Булгакава, заслужаны работнік культуры Расіі. Яна нядаўна пераехала з Чэлябінска ў Магілёў. Праглядаючы падшыўкі газеты "Магілёўская праўда", яна звярнула ўвагу на мой артыкул "Пісьмы Тараса Шаўчэнкі" (29 верасня, 1988 г.) і параіла звярнуцца да вялікага знаўцы жыцця і творчасці Т. Р. Шаўчэнкі — Леаніда Навумавіча Бальшакова, які жыве ў Арэнбургу. Ён арганізаваў у Арэнбургу і Орску два музеі Шаўчэнкі і выдаў 15 кніг аб паэце. У 1994 годзе Л. Н. Бальшакоў быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Украіны імя Т. Р. Шаўчэнкі.

Бальшакоў напісаў, што ён лічыць, што Т. Р. Шаўчэнка і П. М. Каралёў асабіста не сустракаліся. Відаць, яны сябравалі па перапісцы. Ён жа паведаміў, што захаваўся адзін ліст Каралёва да Шаўчэнкі. Яго мы знайшлі ў зборніку "Листи до Т. Г. Шевченко" (Кіеў, 1993. С. 17—18). У ім Каралёў піша: "Браце! (Ці можна цябе так зваць.) Бо я цябе палюбіў, дужа палюбіў так, як брата...". Далей ён расказвае пра свае ўспрыманні "Кобзара" Т. Р. Шаўчэнкі, аб тым, як ён распаўсюджваў у Харкаве квіткі на выданні паэта, аб пасылцы яму зборніка "Запарожская старына".

З 1847 года сувязь паміж сябрамі магла спыніцца, таму што паэт за ўдзел у дзейнасці Кірыла-Мяфодзіеўскага таварыства быў арыштаваны і сасланы.

У 1858 годзе Т. Р. Шаўчэнка вяртаецца ў Пецярбург, а П. М. Каралёў едзе з Горак у Маскву. З кнігі "Шевченко в Москве" (Киев, 1989. С. 12) бачна, што Т. Р. Шаўчэнка бываў у Маскве ў 1858 і 1859 гадах. Ці сустракаліся там былыя сябры? На жаль, аб гэтым нам невядома нічога. Невядома і аб іх далейшай сувязі і перапісцы.

На гэтым можна было б і скончыць гэты матэрыял аб перапісцы і сяброўстве паэта Т. Р. Шаўчэнкі і прафесара Горы-Горацкага земляробчага інстытута П.М. Каралёва, каб не адзін ліст, што прыйшоў нядаўна з Кіева ад Мікалая Архіпавіча Шудры. У ім ён просіць даслаць звесткі аб П. М. Каралёве і паведамляе, што Каралёў з'яўляецца прадзедам акадэміка, галоўнага канструктара касмічных караблёў С. П. Каралёва.

Вось такія цікавыя сустрэчы бываюць на літаратуразнаўчых сцяжынах. Тут сутыкаюцца паэзія і механіка, будаўнічыя справы і космас.

**Уладзімір ЛІЎШЫЦ,**
**дырэктар Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея,**
**кандыдат філалагічных навук**



Але жывое — жывым. Таму асноўную частку музея займаюць рэчы, бескарыслівa падараваныя людзьмі — ручнікі, сурвэткі, вырабы з гліны, воўны. Яны унікальныя, зрэшты, як і сам школьны музей.

На ўрачыстай вечарыне з нагоды 150-годдзя школы ёй і музею ахвяравалі скульптурны партрэт У. Дубоўкі Г. Мурамцаў (праз народнага мастака, прафесара В. Шаранговіча), свае пpыязныя словы і вершы Алег Лойка, артыстка Марыя Захарэвіч, маэстра Міхась Казінец, прафесійныя і самадзейныя артысты. А яшчэ тыя, чые ўсхваляваныя словы засталіся ў кнізе наведвальнікаў музея: госці з розных куткоў Беларусі, Расіі, Польшчы, Канады, ЗША, Германіі, Ізраіля.

Апошнія гады жыцця бацька, ужо цяжка хворы, з поўным разуменнем трагічнага зыходу прысвяціў галоўнай справе свайго жыцця — стварэнню кнігі "Памяць" Мядзельскага раёна.

Даруйце "высокі штыль", аднак гэта была сапраўды гераічная праца. Разам з калегамі-аднадумцамі ды шараговымі руплівцамі роднага слова і Гісторыі ён паспрабаваў зламаць схему твораў падобнага кшталту і стварыць кнігу не толькі пра герояў, але і невядомых ахвяр войнаў (не толькі апошняй, так бы мовіць, афіцыйна занатаванай), узнавіць аблічы сльнных і таксама дагэтуль нідзе не ўзгаданых сыноў і дачок Мядзельска-Нарачанскага краю: мастакоў, навукоўцаў, ваяроў, святароў, дойлідаў, рамеснікаў — тых, хто ствараў красу, нёс славу радзіме.

А за гэтай працай — гады нястомных росшукаў у архівах, перамовы з функцыянерамі ад гісторыі і культуры (часам не зусім зычлівымі), бясконцыя тэлефонныя размовы, лісты і камандзіроўкі ў розныя мясціны, у розны час, у рознае надвор'е. Але заўсёды з кійком, інсулінам, шпрыцам ды бутэрбродамі ў партфелі. Шчыра скажу: я б так не змог.

Кніга выйшла... пасля. Пра бацьку там некалькі радкоў. Але гэта не так істотна. Адну з вуліц у горадзе Мядзел Мінскай вобласці назвалі вуліцай Канстанціна Каратая. Дык няхай зацвітуць на ёй перамoжна-вітальна (Ван Гога? А. Разанава? В. Каратая?) — сланечнікі.

**Віктар КАРАТАЙ**

*На здымку: настаўнік-краязнаўца М. Пашкевіч, прататып А. Мароза з аповесці В. Быкава "Абеліск" (злева), Міхась Лынькоў і Кастусь Каратай.*

*Фота з архіва аўтара*

# Руплівец беларушчыны

## ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПРАФЕСАРА Г. В. ШТЫХАВА

14 ліпеня доктару гістарычных навук, прафесару, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Георгію Васільевічу Штыхаву спаўняецца 75. Звыш 40 гадоў з іх аддаў ён вывучэнню цікавейшых старонак гісторыі Бацькаўшчыны. Яго навуковыя інтарэсы сягаюць да старажытных часоў станаўлення крывічоў-палачан, фарміравання Полацкай зямлі як першай дзяржавы на Беларусі.

У навуковых працах Г. Штыхава вызначаецца падыход да помнікаў нашай сярэдневечнай гісторыі, як шматгранных гістарычных крыніц. Ён аўтар сямі манаграфій, каля 300 навуковых артыкулаў, звыш 400 матэрыялаў, надрукаваных у энцыклапедычных выданнях.

У манаграфіі "Старажытны Полацк IX—XIII стст." (1975 г.), дзе даволі поўна паказана матэрыяльная і духоўная культура горада, гаворыцца пра Полацкую дзяржаўнасць і пра тое, што на пачатку XIV стагоддзя полацкае баярства, асцерагаючыся агрэсіі крыжакоў-тэўтонаў з захаду і манголаў-татараў з усходу, пайшло на кампраміс з літоўскімі князямі і запрасіла іх у горад. Такім было прадвесне стварэння Вялікага Княства Літоўскага — славяна-балцкай дзяржавы, як лічыць аўтар.

Г. Штыхавым былі праведзены археалагічныя раскопкі ў гарадах Полацкай зямлі — Віцебску, Лукомлі, Мінску, Заслаўі, Лагойску, Копысі, Барысаве і вынікі абагулены ў манаграфічным даследаванні, за якое аўтару ў Кіеве была прысуджана вучоная ступень доктара гістарычных навук у 1983 годзе.

На працягу 30 гадоў пад кіраўніцтвам Георгія Васільевіча было даследавана 300 пахавальных курганоў у 29 пунктах Віцебскай і Мінскай абласцей. Даследчык зрабіў выснову: у этнагенетычным працэсе фарміравання крывічоў было тры стадыі ад VI да XI стагоддзяў, калі на тэрыторыі Беларусі моцна павялічылася колькасць славянскага насельніцтва і адбываўся сімбіёз балтаў і славян, што сталася важнейшай перадумовай фарміравання беларускай народнасці. Гэта выснова замацавана ў манаграфіі вучонага "Крывічы: па матэрыялах раскопак курганоў у паўночнай Беларусі" (1992 г.).

У 1966 г. Г. Штыхаў абследаваў селішча каля в. Гарадзішча Шчомыслiцкага с/с, Мінскага раёна. На разораных участках у многіх месцах на агульнай плошчы да 30 га можна было знайсці тыповую кераміку X—XI стагоддзяў, што пацвярджала меркаванне аб размяшчэнні тут надзвычай важнага археалагічнага комплексу. У 70—80 гады вучоны правёў буйныя раскопкі на ўмацаваным магутным валам гарадзішчы і акружаючым яго селішчы, якія пацвярджалі раней выказаную гіпотэзу аб нараджэнні тут на беразе рэчкі Менкі (Мены) старажытнага Менска.

Дасягненнямі беларускай археалогіі і медыевістыкі, якая вывучае сярэдневечную гісторыю, змоладу цікавілася пісьменніца Вольга Іпатава. А калі Вольга Міхайлаўна працавала галоўным рэдактарам рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання яна знаходзіла магчымасць спрыяць беларушчыне не толькі сваім мастацкім словам, але і папулярызацыяй дасягненняў беларускай археалогіі. Перадачы пра гарадзішча на Менцы, узнікненне Менска з выездам на Менку ў вярхоўях Пціч былі захапляючымі і своечасовымі на пачатку хвалі адраджэння, усведамлення неабходнасці захавання гістарычнай памяці.

Тады, калі на "круглых сталах" спрачаліся ці правамерна называць Полацкае княства беларускім, з падачы Вольгі Іпатавай у першым нумары "Спадчыны" (1989 г.) быў надрукаваны артыкул Г. Штыхава "Хто мы". Выкладзеную ў ім канцэпцыю цяпер можна лічыць агульнапрынятай. Аўтарытэтны вучоны пісаў: "Полацк на працягу некалькіх стагоддзяў быў цэнтрам буйнога княства — асобнай дзяржавы са сваёй княскай дынастыяй, вечавым ладам, моцным войскам". І далей прыводзіцца наступная фармулёўка: "Полацкае княства можна назваць беларускім ужо таму, што яно размяшчалася на тэрыторыі сучаснай Беларусі, а з XIII ст. стала беларускім і ў этнічным сэнсе".

Праз усе манаграфіі, брашуры, школьныя падручнікі, напісаныя Г. Штыхавым, праходзіць тэма "культура" ў агульным, энцыклапедычна шырокім разуменні гэтага паняцця — усяго таго, што створана фізічнай працай і інтэлектам людзей. "Мастацкая культура..., мастацтва ў цэлым — гэта архітэктура, літаратура, скульптура, жывапіс, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і многія іншыя віды дзейнасці чалавека" — піша Г. Штыхаў. Ён непасрэдна прычыніўся да вывучэння шэрагу пералічаных галін культуры.

У 60-я гады прымаў удзел з рыдлёўкай у руках, як практыкант-валанцёр, у раскопках рэштак помнікаў манументальнай архітэктуры Полацка, якія праводзіў пецярбургскі археолаг, буйны гісторык архітэктуры і старажытнага мастацтва М. Каргер. Больш таго, Г. Штыхаў быў "наводчыкам", паказваў месцы, дзе ён у час сваіх папярэдніх разведачных раскопак знаходзіў завалы старажытных будаўнічых матэрыялаў — прыкмет распалажэння тут (ці побач) помніка архітэктуры.

Пяру Г. Штыхава належыць шэраг навукова-папулярных работ па старажытнай архітэктуры Беларусі. Ён прапаноўвае асвятляць тэму "культура", пачынаючы з манументальнай (каменнай) архітэктуры. Зразумела, спачатку неабходна было ўзвесці будынак (скажам царквы), а потым аздабляць яго фрэскамі, іконамі, царкоўнымі прыналежнасцямі.

Г. Штыхаў займаўся вывучэннем асобных пытанняў сфрагістыкі, эпіграфікі, дробнай пластыкі, нумізматыкі, геральдыкі. Калі ствараўся бюлетэнь "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі" яго "літсупрацоўнік", добрай памяці, выдатны беларускі крытык і літаратуразнавец Рыгор Бярозкін натхніў Штыхава напісаць для першага нумара бюлетэня (1970 г.) артыкул "Полацкія фрэскі XII стагоддзя". Фрагменты фрэсак Спаскай царквы былі расчышчаны намнога раней дзеля цікавасці і не законсерваваныя з кожным годам тускнелі. Быў запрошаны вопытны фатограф П. М. Захаранка, які зрабіў якасныя здымкі. 5 лепш захаваных фрагментаў цудоўных фрэсак былі змешчаны ў артыкуле. Здаецца яны — самыя лепшыя, выразныя адлюстроўкі унікальных фрэсак з усіх сёння надрукаваных. Асабліва гэта датычыць фрэскі на паўночна-заходнім слупе, зараз ледзь бачнай. Ды і аднасна тлумачэння фрэсак даследчыкі дагэтуль мала пераўзышлі Г. Штыхава, які 30 гадоў назад пісаў: "Выдатнае мастацтва полацкіх фрэсак нагадвае жывапіс як Ноўгарада так і Кіева і звязана з візантыйскай традыцыяй... і трэба ўжыць усе захады для кансервацыі і захавання фрэсак".

Выпрабаванне часам вытрымаў артыкул "Пагоня", напісаны В. Чамярыцкім і Г. Штыхавым у 1973 г. для БелСЭ (Т. УП). У ім сцвярджаецца, што "Пагоня" спачатку была асабістай эмблемай князя і толькі з цягам часу стала гербам роду (дынастыі), зямлі, дзяржавы. За дзяржаўны герб Вялікага Княства Літоўскага прынята каля 1384 г., як мяркуюць аўтары, напярэдадні заключэння Крэўскай уніі.

Г. Штыхаў таленавіты папулярызатар археалагічнай навукі і медыевістыкі. Немалую паслугу для нашай сярэдняй школы ў 60—70-я гады зрабілі яго навукова-папулярныя кнігі. Ён шчыра можа весці цікавую гутарку са школьнікамі ўсіх узростаў.

"Прачытаўшы гэту кнігу, я пашкадаваў, што яна скончылася" — пісаў у водгуку на твор Г. Штыхава "Галасы далёкіх продкаў" пісьменнік Павел Місько, спрактыкаваны на літаратуры для дзяцей. — Цяпер трэба напісаць другую, каб быў працяг, — сказаў жартуючы Георгій Васільевіч. Неўзабаве ў свет выйшла новая кніга для школьнікаў "Ажываюць сівыя стагоддзі".

Становіцца зразумелым, чаму на пераломе 80—90-х гадоў прадстаўнік акадэмічнай навукі меў вопыт, каб паспяхова ўключыцца ў справу хуткага стварэння новых вучэбных дапаможнікаў для школы. Цяпер Г. Штыхаў аўтар падручнікаў па гісторыі Беларусі, вытрымаўшых па некалькі выданняў.

"Чалавек, які добра ведае шляхі развіцця сваёй Радзімы, становіцца патрыётам, таму што ён пачынае разумець сваю асабістую адказнасць за яе будучае" — чытаюць шасцікласнікі ва ўводзінах да падручніка. Тут заклік не толькі берагчы мінулае, але і памнажаць яго добрымі патрыятычнымі справамі, стаць свядомымі грамадзянамі сваёй дзяржавы.

На працягу 20 год Г. Штыхаў кіраваў вялікім калектывам археолагаў. Вопыт яго работы стаў базай для стварэння навуковай школы беларускай сярэдневяковай археалогіі і гісторыі Полацкай зямлі. Цяпер галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі даследуе падзеі на беларускіх землях у кантэксце краін еўрапейскай цывілізацыі, што дапамагае выявіць агульныя і адметныя іх рысы, тым самым больш глыбока, усебакова асэнсаваць гісторыю Беларусі, гераічную і драматычную.

Калегі па рабоце шчыра віншуюць старэйшага беларускага археолага і гісторыка Георгія Васільевіча з юбілеем, жадаюць доўгага веку і каб надалей збываліся задумы руплівца старажытнай культуры і дзяржаўнасці Бацькаўшчыны.

**Сяргей ТАРАСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**загадчык аддзела**
**Інстытута гісторыі НАНБ**

МУЗЫКА

# Сцежка даўжынёю 12 хвілін...

**_Атрымаўшы магчымасць прайсці стажыроўку ў электраакустычнай студыі пры Кракаўскай акадэміі музыкі, Яўген Паплаўскі з раніцы да вечара праседжваў за камп'ютэрам. Чатыры з паловай месяцы працы (былі, праўда, і выхадныя дні, калі студыя "адпачывала") увянчаліся стварэннем 12-хвіліннай кампазіцыі "Сцежка ў Аблоках". І — перакананнем яе аўтара ў немажлівасці за які б тое ні было прамежак часу спасцігнуць бясконцую і завабліваю прастору электраакустычных гукаў. Вярнуўшыся з Польшчы, кампазітар Я. Паплаўскі завітаў у рэдакцыю "ЛіМа", і мы пагутарылі._**



**— Яўген, я ўжо ведаю, што "Сцежка ў Аблоках" запісаная нядаўна ў адной з лепшых залаў Варшавы — у канцэртнай студыі імя Лютаслаўскага на Польскім радыё. А ў лістападзе плануецца публічнае выкананне вашай кампазіцыі ў той жа студыі...**

— Гэта будзе традыцыйны канцэрт эксперыментальнай студыі з выкананнем усіх твораў, напісаных па яе замове. Менавіта паводле такой замовы працаваў і я, калі рабіў свой электраакустычны праект на стажыроўцы ў Кракаве. Разлічваў я на двух цудоўных польскіх выканаўцаў: габаіста Марыуша Пэндзялка (ён, дарэчы, прыязджаў у Мінск два гады таму, удзельнічаў у прэзэнтацыі Кракаўскай электраакустычнай музыкі пад кіраўніцтвам прафесара Марэка Халанеўскага) ды перкусіяніста Яна Пільха. Была зроблена спецыяльная фанаграма ігры Марыуша Пэндзялка і потым у электроннай партыі, апроч натуральных гукаў габоя, былі выкарыстаны вынікі студыйных эксперыментаў, калі "голас" акустычнага інструмента з дапамогай камп'ютэра апрацоўваўся да непазнавальнасці. А партытура ўдарных інструментаў атрымалася досыць экзатычнай дзякуючы калекцыі самога выканаўцы. Тут скарыстаны кітайскія інструменты макушас, дайко, японскія рытуальныя гонгі, глісандавыя гонгі, рэдкасныя для еўрапейцаў яваійскія, карэйскія ўдарныя інструменты.

**— У сувязі з назвай вашага твора міжволі згадваеш "Аблокі" Клода Дэбюсі...**

— "Сцежка ў Аблоках" не мае ніякіх аналогій з музычным імпрэсіянізмам Дэбюсі. Вобраз маёй кампазіцыі не адносіцца да воблакаў як да з'явы прыроды. Тут музыка на ўвазе асацыятыўнасць з дарогай душы чалавека — праз жыццё зямное да іншага свету, свету высокіх вібрацый і духоўнасці, свету, які нібы па той бок часу.

**— Вядома, лепш адзін раз пачуць: дык ці будзе такая мажлівасць у мінскіх аматараў электраакустыкі?**

— "Музыка цэнтрум", суполка Марэка Халанеўскага, ужо добра вядомага мінчукам, адзначае сёлета 25-годдзе. Шэраг канцэртаў з гэтай нагоды замоўлены ў Польшчы. Але ёсць надзея, што шаноўны прафесар электраакустычнай музыкі завітае і ў Мінск. А вось хто будзе з ім у "камандзе" і якія творы будуць у нас прадстаўленыя, пакуль сказаць дакладна немагчыма. Спадзяюся, "Сцежка ў Аблоках" не абміне і Мінск.

**— Дзякуючы вашым сталым кантактам з польскімі калегамі яны не толькі самі калі-нікалі наведваюцца на Беларусь, але і робяць сустрэчы з беларускай музыкай у сябе на радзіме. Прынамсі, Ежы Станкевіч, старшыня Кракаўскага аддзялення Саюза кампазітараў Польшчы, неадноймы прыязджаў на фестывалі да нас, а беларускім калегам і выканаўцам наладжваў сустрэчы на музычных імпрэзах у сваёй краіне.**

— Так, Ежы Станкевіч яшчэ і дырэктар аўтарытэтнага фестывалю "Міжнародныя дні музыкі кракаўскіх кампазітараў". Летась ён запрашаў Акадэмічную харавую капэлу імя Р. Шырмы з праграмай беларускай літургічнай музыкі, а разам з выканаўцамі прыязджалі кампазітары: Андрэй Бандарэнка, Людміла Шлег, Алег Хадоска ды я. Кракаў — не замкнёны горад, і яго фестываль адкрыты для ўсіх. Тут, напрыклад, нярэдка бывае прадстаўлена музычнае мастацтва Швейцарыі, Славакіі, Германіі, Украіны. У 1998 г. упершыню пабывала творчая дэлегацыя з Беларусі: музыказнаўца Радаслава Аладава, кампазітары Галіна Гарэлава, Алег Сонін... Беларуская музыка і асабліва мастацтва нашых выканаўцаў выклікае там цікавасць.

**— Сёлета вы таксама пабывалі на "Міжнародных днях кракаўскай музыкі"?**

— Гэта быў ужо 14-ты фестываль. Нягледзячы на цяжкасці з яго фінансаваннем, імпрэзы ладзіліся на працягу тыдня, толькі замест 2-3 канцэртаў на дзень, як вялося раней, цяпер адбывалася 1-2. У праграмах пераважаў электронны напрамак, што пацвердзілі музычныя праекты са Страсбурга, з Лазаны, з Германіі. Уразіла прэм'ера твора для кларнета, званоў і дзвюх груп ударных старэйшай польскай творцы К. Машуманьскай-Назер, якая, дарэчы, бывала і ў Мінску. Цікава паказаліся ўроцлаўскія кампазітары. Тры канцэрты наладзіла аб'яднанне "Музыка цэнтрум", якое заснаваў 25 гадоў таму і якім кіруе прафесар М. Халанеўскі.

**— Якое, на ваш погляд, прынцыповае адрозненне музыкі, прадстаўленай на міжнародным фестывалі ў Кракаве, ад той, што гучыць у нешматлікіх айчынных праектах сучаснай кампазітарскай творчасці?**

— У нашых калег прынцыпова іншае стаўленне да працы з гукам. Яны развіваюць ідэі музыкі 20-га стагоддзя, адмовіўшыся ад псеўдарамантызму, якім захапіліся многія нашы творцы, адмовіўшыся ад пошуку новага і, галоўнае, уласнага падыходу да таго, што спавядалі вялікія папярэднікі ў "рамантычным" 19-м стагоддзі. У нас кампазітары часам проста стылізуюць, а хацелася б нешта адкрываць, развіваць. Музыка павінна гаварыць пра нявыказанае, а не пераўтварацца ў "літаратуру", выконваючы функцыю нейкага "гукавога падтэксту" ці захапляцца дэкаратыўнасцю, перайманнем гучання прыроды. Як сумясціць глыбіню светапогляду з духам? Як сумяшчаць у музычнай ідэі філасофію, тэалогію, умение быць сабой, веданне законаў прафесіі, валоданне тэхнікай кампазітарскага пісьма?.. На жаль, у беларускай кампазітарскай школе адчуваецца нейкая боязь адарвацца ад зямлі, памкнуцца і ўзняцца да высокіх паняццяў. Далёка не кожнаму (гэта, між іншым, ёсць і ў нашай літаратуры) удаецца дасягнуць гэтай лёгкасці, шырыні, неабмежаванасці мыслення. А той, каму гэта ўдаецца, рызыкуе быць незразуметым і выштурхнутым з традыцыйнага, коснага асяроддзя, не гатовага да ўспрымання свежых творчых ідэй. Неабавязкова ўсе знаходкі прыжывуцца ці ператворацца ў традыцыі. Але шукаць і выпрабоўваць — неабходна!

**— Яўген, вам удаецца "шукаць і выпрабоўваць" не толькі ў сферы электраакустычнай музыкі, да якой, з-за адсутнасці належнай базы, далучаны пакуль толькі адзінкі з амаль сотні сучасных беларускіх прафесійных кампазітараў. Не так даўно вы ажыццявілі паспяховы праект у жанры харавой музыкі...**

— Напісаны цыкл для змяшанага хору і ўдарных інструментаў на вершы Леапольда Стафа "Пагода ўжо позняе восені". У "ЛіМе" распавядалася пра тое, што гэты твор быў адзначаны 2-й прэміяй на Міжнародным конкурсе кампазітараў "Іглава-2000" у Чэхіі. Усе творы-пераможцы выконваюцца на тамтэйшым фестывалі, запрашаюцца іх аўтары. Знаная кракаўская капэла рыхтавала гэты харавы цыкл, каб выканаць яго ў Празе яшчэ летась, і толькі важныя гастролі па Заходняй Еўропе вымусілі на цэлы год адкласці прэм'еру. Праўда, пабываць на фестывалі ў Чэхіі мне пашчасціла і летась, і сёлета, на ўжо 45-м харавым фестывалі, дзе цыкл на вершы Л. Стафа прагучаў нават двойчы, у розных канцэртах. Мне пашанцавала пазнаёміцца з цудоўнай Прагай, наведаць мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю многіх славутых творцаў, у тым ліку — нашых суайчыннікаў.

**— Дзякуй, Яўген, за гутарку. Хацелася б у новым канцэртным сезоне пазнаёміцца з тымі творчымі знаходкамі, што напаткалі вы на сваіх кампазітарскіх сцежках.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: Я. ПАПЛАЎСКІ ў Празе, ля надмагільнага помніка прафесару, спеваку М. ЗАБЭЙДУ-СУМІЦКАМУ.*

ПОШТА

Мікола ВЯРШЫНІН

## *Нашто мне рай!*

*Па жыцці адчайна крочыш,*
*А пасля глядзіш — і край.*
*І пара заплюшчыць вочы.*
*Каб спытаў хто сярод ночы:*
*— Ці ты ў рай,*
*ці ў пекла хочаш?*
*Я б сказаў: — Нашто мне рай!*

*Жыў я проста, небагата,*
*І было не часта свята,*
*Толькі шмат*
*надзённых спраў.*
*Сябраваў і часам біўся,*
*І не часта я маліўся,*
*Чарку браў, жанчын кахаў.*

*Жыў не свята, не бязбожна,*
*І не краў, а браў,*
*што можна —*
*Хто ж адкіне ад сябе?*
*На людзей не зыркаў строга,*
*Не пакрыўдзіў*
*сам нікога,*
*А звяруг біў па ілбе.*

*Дык хіба ж у рай мне можна,*
*Хоць туды імкнецца кожны?*
*Грэшнік я, як ні глядзі.*
*Ды і што рабіць там буду?*
*Звычкі ўсе свае забуду:*
*Нюхай кветачкі, сядзі.*

*Ну, а ў пекле проста вельмі:*
*Папякуся на патэльні,*
*Пасяджу крыху ў смале.*
*Адыду пасля ад болю*
*І сябе я задаволю,*
*Звычкі ўспомню ўсе свае.*

*Адшукаю недзе пляшку,*
*Каб было не вельмі цяжка.*
*Чэрці скажуць:*
*— Во, жыве!*
*Патанцую і прысвісну,*
*Дзесьці грэшніцу*
*прыцісну —*
*Прасвятлее ў галаве.*

*Дык прыкінь, магутны Божа:*
*Нагрaшыў я многа, мажа.*
*Заслужыў, дык пакарай.*
*А жыву я так, як людзі.*
*На тым свеце будзь*
*што будзе!*
*Пры жыцці мне дайце рай.*





ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525,**
**адказны сакратар — 284-82-04**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-8462**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-8462**
**паэзіі і прозы — 284-8525**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**карэктарская — 284-4404**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 1561
Нумар падпісаны ў друк 18.07.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1662

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12